# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае*
*свайго мінулага,*
*не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 (91) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2020 г.

**10 гадоў назад у Лідзе прайшлі рэспубліканскія Дажынкі, якія змянілі горад**



**Ягайла на кані.**
***Фрэска ў замкавай капліцы ў Любліне, 1418 г.***

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 ( 91 ) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2020 г.

## *У НУМАРЫ:*



**На першай старонцы вокладкі: Помнік беларускаму хлебу ў Лідзе. Здымак С. Судніка. 2020 г.**



**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук.

Рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**АДРАС САЙТА:**
**http// nslowa.by**

**Наклад 200 асобнікаў**
**9 друк. аркушаў**
**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 2720.**
**Часопіс падпісаны да друку 30.06.2020 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.09.2020 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес. - 3,11 руб.**
**індывід. 6 мес. - 6,22 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны.**

ISSN 2218 - 1792






# Акадэмічная канферэнцыя да 430-х угодкаў надання гораду Лідзе Магдэбургскага права

Годам заснавання Ліды лічыцца 1323 год, калі былі закладзены муры замка. А 430 год таму, у 1590 годзе, акурат 17 верасня, горад атрымаў Магдэбургскае права. Менавіта да гэтай падзеі і гэтай даты была прымеркавана навукова-практычная канферэнцыя, якая прайшла 18 верасня ў сценах пярліны рэгіёна - старажытнага замка - і запрасіла да плённай шматгадзіннай размовы зацікаўленых аматараў гісторыі з усёй Беларусі.



- Самае страшнае, што можа пачуць гуманітарый: “У вас 10 хвілін на выступленне”. Гэты жарт прагучаў ад аднаго са шматлікіх навукоўцаў з нагоды шчырага жадання ў максімальным аб’ёме падзяліцца наяўнай інфармацыяй па гісторыі Лідчыны, якая па крупінках збіралася дзесяцігоддзямі, а таму ў асобных выпадках носіць эксклюзіўны характар. На працягу цэлага дня невядомыя старонкі нашага краю раскрывалі ўдзельнікі акадэмічнай навукова-практычнай канферэнцыі “Гісторыка-культурная спадчына Лідчыны”.

Падзея насамрэч вельмі знакавая, актуальная, накшталт гістарычнай. Мерапрыемства такога сур’ёзнага маштабу мясцовыя ўлады і гістарычна-мастацкі музей ладзілі ўпершыню, хаця размова, жаданне, неабходнасць яго правесці луналі ў паветры даўно. Прынамсі, на падобнага роду сустрэчу спрабавалі сабрацца яшчэ ў 2015 годзе, але не атрымалася,

- Толькі праз пазнанне рэгіянальнай гісторыі можна зразумець гісторыю Беларусі ў цэлым, - апавядала галоўны захавальнік фондаў Лідскага гістарычна-мастацкага музея Наталля Хацяновіч. - Гэтая думка не новая, але праўдзівасць яе, актуальнасць не выклікаюць сумненняў і сёння. Мы рады, што канферэнцыя ўсё ж такі адбылася. Нягледзячы на тое, што размова падчас сустрэчы ішла выключна пра мінулае, для нас, лідзян, гэта вялікі крок наперад, бо адкрыліся новыя, дагэтуль невядомыя старонкі нашага краю.



Навукова-практычная канферэнцыя “Гісторыка-культурная спадчына Лідчыны” сабрала аднадумцаў з усёй краіны. Сярод іх - вядомыя гісторыкі, краязнаўцы, навукоўцы: прадстаўнікі Інстытута гісторыі НАН Беларусі, Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы, Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы і іншыя. Усяго некалькі дзясяткаў чалавек, якіх аб’ядноўвала адно - дасканалае вывучэнне нашага краю (толькі ўявіце сабе!). Спектр тэм быў даволі шырокі, часавыя рамкі - ад старажытнасці да сучаснасці. Тэксты дакладаў падымалі грамадска-палітычныя, культурныя, фальклорныя, рэлігійныя пытанні, ішла размова і пра гістарычна-культурныя каштоўнасці рэгіёна.

У праграме канферэнцыі былі даклады:

**Лакізы Вадзіма Леанідавіча**, намесніка дырэктара па навуковай рабоце Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдата гістарычных навук, дацэнта “З гісторыі археалагічнага вывучэння першабытных помнікаў Лідчыны”;

**Пазднякова Валерыя Сямёнавіча,** загадчыка аддзела археаграфіі Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы, кандыдата гістарычных навук “Барацьба за захаванне Магдэбургскага права ў Лідзе ў канцы XVI - пачатку XVII ст. (ліст Жыгімонта III ад 7 жніўня 1602 г.)”;

**Доўнара Аляксандра Барысавіча**, загадчыка аддзела крыніцазнаўства і археаграфіі Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдата гістарычных навук “Нарысы з гісторыі гарадскога самакіравання Ліды другой паловы 80-х - пачатку 90-х гадоў XVIII ст.”;

**Сергачова Сяргея Аляксеевіч**, Беларускі

нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт, доктара архітэктуры, прафесара “Планіроўка Беліцы XVII стагоддзя - гарадабудаўнічыя рашэнні будучыні”;

**Семянчук Альбіны Аляксандраўны**, Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы, кандыдата гістарычных навук, дацэнта “Ліда і ваколіцы на старонках "Аналаў" Яна Длугаша”;

**Трусава Алега Анатольевіча,** Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў, кандыдата гістарычных навук, дацэнта “Параўнаўчы аналіз будаўнічай тэхнікі Лідскага і Крэўскага замкаў”;

**Любай Алёны Аляксандраўны,** Рэспубліканскі інстытут Вышэйшай школы, кандыдата гістарычных навук, дацэнта “Татарскае асадніцтва ў Лідскім павеце паводле рэвізіі татарскіх маёнткаў, праведзенай у 1631 годзе”;

**Дзярновіча Алега Іванавіча**, Інстытут гісторыі НАН Беларусі, кандыдата гістарычных навук, дацэнта “Праблема ўзнікнення мураванага абарончага дойлідства ў ВКЛ: Лідскі, Крэўскі і Медніцкія замкі”;

**Аніпяркова Вадзіма Вадзімавіча,** Інстытут гісторыі НАН Беларусі, кандыдата гістарычных навук, дацэнта “Акт утварэння Лідскай канфедэрацыі 1792 г.”;

**Матвейчыка Дзмітрыя Часлававіча,** Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, кандыдата гістарычных навук “Паўстанне 1863-1864 гг. у Лідскім павеце: гістарыяграфічны аспект”;

**Заблоцкай Таццяны Міхайлаўны,** Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы, аспіранта “Лёс лідскіх піяраў у 1830-1840-х гг. XIX ст.”;

**Унучака Андрэя Уладзіміравіча,** Інстытут гісторыі НАН Беларусі, кандыдата гістарычных навук, дацэнта “Ліда на старонках газеты “Наша Ніва” ў пачатку XX ст.”;



**Даўгач Таццяны Валянцінаўны**, Інстытут гісторыі НАН Беларусі, кандыдата гістарычных навук “Крыніцы па гісторыі горадабудаўніцтва Ліды ў часы Расійскай імперыі”;

**Ерашэвіча Аляксандра Уладзіміравіча,** Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт, кандыдата гістарычных навук, дацэнта “Падаткі і падаткаабкладанне ў Лідскім павеце ў першай палове XIX ст.”;



**Урублеўскага Вадзіма Валер'евіча**, Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, кандыдата гістарычных навук “Ураджэнцы Лідскага павета ў матэрыялах Менскага акруговага суда канца XIX - пачатку XX стагоддзя (па матэрыялах НГАБ);

**Лаўрыненкі Кацярыны Віктараўны**, Люблінскі Каталіцкі ўніверсітэт Яна Паўла II, дактаранта, кандыдата гістарычных навук “Ксяндзы, звязаныя з Касцёлам на тэрыторыі сучаснай Віцебскай дыяцэзіі - ахвяры нацысцкага тэрору ў Лідзе”;

**Грыневіч Яніны Ігараўны**, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы НАН Беларусі, кандыдата мовазнаўства “Фальклорная спадчына Лідчыны ў архіве Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы”;

**Сацукевіча Івана Іванавіча**, Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт, магістра гісторыі “Назвы вуліц і прадмесцяў Ліды як гісторыка-культурная спадчына”;

**Юрэцкага Станіслава Сцяпанавіча,** Апарат Прэзідыума НАН Беларусі, кандыдата гістарычных навук “В. Шукевіч - даследчык старажытнасцей Лідскага павета” і іншых, а таксама лідскіх даследчыкаў:

**Лаўрэша Леаніда Лявонцьевіча**, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў “Гісторыя маёнтка Востраў на Лідчыне”;

**Судніка Станіслава Вацлававіча,** галоўнага рэдактара часопіса "Лідскі летапісец" “Да пытання аднаўлення Лідскай ратушы”;

**Хітруна Аляксандра Часлававіча**, навуковага супрацоўніка Лідскага гістарычна-мастацкага музея “Пакінуў спадчыну тугі і веры, або Чарговыя разгадкі жыццёвай і творчай дзейнасці Валянціна Таўлая ў Лідзе”.

Адным з ініцыятараў і арганізатараў канферэнцыі выступіў наш зямляк, старшы навуковы супрацоўнік інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук кандыдат гістарычных навук **Кірыл Сыцько**. Ён расказаў пра парафіяльныя хронікі касцёлаў дэканата Лідчыны як гістарычныя крыніцы (даклад “"Хронікі" парафій Лідскага дэканата 1849 г. як





гістарычная крыніца"):

- Вывучэннем гэтай тэмы я займаюся даўно - з 2006 года, - патлумачыў навуковец. - У 30-я гады мінулага сагоддзя, па сутнасці, знішчылі ўсю навуковую праслойку, якая займалася палявой археаграфіяй.







ДЗЯРЖАЎНАЯ НАВУКОВАЯ ЎСТАНОВА
«ІНСТЫТУТ ГІСТОРЫІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»

ПАДЗЯКА

Лаўрэшу Леаніду Ляонцьевічу

1929

Дырэктар
Інстытута гісторыі НАН Беларусі

В.В. Даніловіч



ДЗЯРЖАЎНАЯ НАВУКОВАЯ ЎСТАНОВА
«ІНСТЫТУТ ГІСТОРЫІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»

ГРАМАТА

Суднік Станіслаў Вацлававіч

1929

Дырэктар
Інстытута гісторыі НАН Беларусі

В.В. Даніловіч

З таго часу, уласна кажучы, да гэтай тэмы ніхто не вяртаўся, гістарычныя крыніцы, якія захоўваліся ў парафіях, не выкарыстоўваліся, ляжалі там мёртвым грузам. Я вырашыў запоўніць гэты прабел, таму што гэта таксама наша гістарычвая спадчына, якую нельга страціць.

... У апошнія гады, якія праходзяць пад знакам шанавання малой радзімы, паўсюдна вялікая ўвага ўдзяляецца гісторыі рэгіёнаў. Бо з яе, як з мазаікі, складваецца гісторыя ўсёй краіны. Адным з пазлаў, якія яшчэ адсутнічаюць у гэтай шырокамаштабнай карціне, і стала навукова-практычная канферэнцыя "Гісторыка-культурная спадчына Лідчыны". Другім павінна стаць асобнае выданне, куды ўвойдуць каля 50 артыкулаў (у тым ліку тыя, якія прагучалі падчас мінулай сустрэчы), прысвечанай нашаму рэгіёну ў гістарычным разрэзе - ад старажытных часоў да сучаснасці. Выхад кнігі запланаваны на наступны год.

Пасля Ліды падобныя канферэнцыі плануюцца ў Ашмянах і Глыбокім.

Прыемным момантам канферэнцыі стала ўзнагароджанне выкладчыкаў і вучняў Лідчыны, якія актыўна займаюцца краязнаўчай дзейнасцю і занялі прызавыя месцы на міжнародных і іншых даследчых конкурсах. Узнагароды атрымалі і супрацоўнікі "Лідскага летапісца": сталы аўтар, пісьменнік Леанід Лаўрэш і рэдактар Станіслаў Суднік.

***Паводле***
***Вікторыі ПАЗНЯК (ЛГ).***
***Фота Лідскага музея.***

# КРОНІКА ЛІДЫ



7 ліпеня Лідскі замак прыняў фестываль нацыянальных культур "Суквецце сяброўства".



2 жніўня ў Лідзе адкрылі ПЦР-лабараторыю. Ліда стала першым райцэнтрам у Гарадзенскай вобласці, дзе адкрылася ўласная ведамасная ПЦР-лабараторыя.



3 жніўня артысты Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. паказалі ў Лідзе сваю візітную картку - спектакль "Паўлінка", першая пастаноўка якога адбылася ў 1944 годзе. Гэта была адна з апошніх пастановак дакрызіснай трупы.



9 жніўня ў Беларусі прайшлі выбары Прэзідэнта краіны. Паводле дадзеных ЦВК Прэзідэнтам стаў А.Р. Лукашэнка.

8 верасня ў Беліцы ўстаноўлены крыж дзеля абароны ад каронавіруса, нашэсцяў, навалаў і іншай пошасці. Асвяцілі крыж ксёндз Віктар з Няцечы і бацюшка Уладзімір з Ліды.





20 верасня Указам Святейшага Патрыярха Кірыла епіскап Лідскі і Смаргонскі Парфірый быў узнагароджаны ордэнам прападобнага Серафіма Сароўскага III ступені - з увагай да стараннай архіпастырскай працы і ў сувязі з 50-годдзем з дня нараджэння.

21 верасня Бярозаўка адзначыла 30-годдзе з дня прысваення ёй статусу горада.



## Дворышчу - 500 гадоў

***Валерый Сліўкін***

# Маёнтак Дворышча

## Частка 1. 1520-1850 гг.

Былы панскі двор маёнтка Дворышча знаходзіцца за 12 км на паўночны ўсход ад Ліды на правым беразе ракі Жыжмы. Маёнтак Дворышча ў лепшыя свае гады ахопліваў тэрыторыю плошчай да 100 км$^2$ і ўключаў 22 вёскі.




***Фрагмент сучаснай карты Лідскага раёна***



***Герб Іллінічаў "Корчак".***

Дворышча (дворищо, двориско, дворыще) - слова старажытнарускае, сустракаецца з XII стагоддзя. Першае з вядомых ужыванняў адносіцца да наўгародскага дворышча Яраслава Мудрага. Дагэтуль у Ноўгарадзе ім карыстаюцца - *Ярославово дворище*. У XV-XVI стагоддзях паняцце "дворышча" шырока выкарыстоўвалася ў Вялікім Княстве Літоўскам. Разумелася, як гаспадарчая адзінка "з палямі, сенажацямі, лясамі, дубровамі, рэчкамі, пажыткамі", буйнейшая, чым двор, але меншая, чым маёнтак. Уключала ад аднаго да 8 двароў: *"В селе дворищ 4, на них 10 дымов"*; *"село Вотин, в котором селе дворищъ чотыры, а пятое пустое дворище; на тых дворищах з бояры, с огородныки дымовъ оселыхъ"*. Дворышча магло размяшчацца і ў горадзе: *"три дворища в месте киевском"*. Пасля прыняцця "Уставы на валокі" (1557) паняцце *"дворышча"* было заменена польскім словам нямецкага паходжання *"фальварак"*. Пад дворышчамі пачалі разумець разбураныя ці згарэлыя двары. У нашы дні тапонімы Дворышча вядомыя ў Расіі (18), ва Украіне (20) і Беларусі (10), найбольшая канцэнтрацыя прыпадае на Пскоўскую вобласць (7). Паняцце таксама выкарыстоўвалася як мера зямельнай плошчы - *"паўтары дворышчы зямлі"*.

У першай палове XV стагоддзя землі ў басейне Жыжмы былі ўласнасцю вялікіх князёў літоўскіх, у другой палове XV стагоддзя перайшлі баярам вялікакняскага атачэння. У 1520-м годзе маёнтак Дворышча апынуўся ў Юрыя Іванавіча Іллініча. У судовым рашэнні ад 18 лістапада 1520 г. па скарзе лідскага баярына Марціна Станькевіча супраць Васко Сяньковіча і братоў яго з-за сенажаці каля р. Жыжмы згадваецца намеснік Дворышскі пана Юрыя Іванавіча Іллініча, які не мог прысутнічаць у судовым паседжанні, паколькі *"при пане своем на Ивьи был"* (1. № 164).

чины, ижь судья єго старший Тимохъ, намѣстникъ Дворышский пана Юрьєвъ Ивановича Ильинича, на тотъ часъ при пане своємъ на Ивьи былъ, а, для того

У 2020 г. Дворышча мае законнае права адзначыць свой паўтысячагадовы юбілей.

Першы з вядомых уладальнікаў маёнтка Дворышча - Юры Іванавіч Ілініч (к. 1470 - 1526) - асоба легендарная: маршалак гаспадарскі (1501-1519), намеснік і староста лідскі (1501-1502, 1507-24), намеснік берасцейскі (1510-1524), ковенскі (1514, 1519-1523), маршалак дворны (1519-1526), заснавальнік Мірскага замка - "пярліны беларускага дойлідства".

На Лідскай зямлі Ю.І. Іллінічу належалі Бердаўка, Збляны, Дворышча, Прыдыбайлы. 10 сакавіка 1522 г. на вальным Гарадзенскім сойме кароль Жыгімонт даў Іллінічу ў пажыццёвае трыманне Ліду,

Беліцу і Ліпнішкі (2. № 403). Сваім сынам: Яну (к.1495-1536), Станіславу (к.1500-1531),Шчаснаму (к.1500-1542) пакінуў велізарную спадчыну - больш за 40 маёнткаў, у тым ліку і Дворышча (3. № 252 і 253). Пахаваны ў Вільні ў Кафедральным саборы разам з жонкай Ядвігай Янаўнай з роду Заберазінскіх.

Дворышча ўспадкаваў Шчасны Юр'евіч Ілініч, жанаты з Соф'яй Янаўнай Радзівіл (к.1510-1541). Адзіны іх сын Юры Шчаснавіч (1530-1569) у дзіцячым узросце застаўся сіратой і выхоўваўся ў сям'і дзядзькі Мікалая Янавіча Радзівіла. У 1567 г. з маёнтка Дворышча ён ставіў на службу 12 вершнікаў і 6 драбаў. Адзін узброены ваяр выстаўляўся ад 20 дымоў, гэта значыць, што вакол Дворышча ў тыя гады пражывала больш за 2 тысяч сялян. Юры Шчаснавіч у 1555 г. атрымаў тытул графа на Міры і воляю лёсу засяродзіў у сябе ўсю радавую зямельную ўласнасць. Дзяцей у яго не было, здароўе было слабое, і за год да смерці сваім спадчыннікам ён прызначыў Мікалая Крыштафа Радзівіла "Сіротку".



***Мікалай Крыштаф Радзівіл "Сіротка"***

Мікалай Крыштаф (Хрыстафор) Радзівіл "Сіротка" (1549-1616) - уладальнік Дворышчы, Зэльвы, Міра і Нясвіжа, маршалак надворны (з 1569), як і бацька яго, быў кальвіністам. У 1570 г. у Дворышчы правёў валочную памеру. Пад уплывам Пятра Скаргі (1536-1612) у 1574 г. стаў каталікам. У канцы 1575 г. моцна захварэў. Маёнтак Дворышча з прылеглымі сёламі, палямі і лясамі "Сіротка" спачатку аддаў у заклад, а 22 жніўня 1577 г. прадаў за паўцаны віленскаму біскупу Валяр'яну Пратасевічу.



***Валяр'ян Пратасевіч - Шушкоўскі***

Валяр'ян Пратасевіч-Шушкоўскі (1504 -1579) родам з м. Крайск Менскага ваяводства (цяпер вёска Лагойскага раёна). Пісар у канцылярыі каралевы Боны Сфорцы. Канонік жмудскі (1533-37), канонік віленскі (1537-44). Пісар ВКЛ і сакратар караля Жыгімонта II Аўгуста (1544-47). Біскуп луцкий (1547-55), біскуп віленскі (1556-79). З 1566 г. узначальваў камісію Літоўскага Статута. Браў удзел у падрыхтоўцы Люблінскай




***Мемарыяльная табліца ў памяць Валяр'яна Пратасевіча ў Вялікім двары Віленскага ўніверсітэта***

уніі. Для барацьбы з ідэямі Рэфармацыі і кальвіністамі ў 1569 г. запрасіў у Вільню езуітаў і заснаваў у 1570 г. езуіцкі калегіюм, у якім, апроч царкоўных прадметаў, навучалі старажытнагрэцкай мове і латыні, матэматыцы і гісторыі, геаграфіі, рыторыцы, паэзіі.

У 1578 г Валяр'ян Пратасевіч падарыў Дворышча "навечна" Віленскаму езуіцкаму калегіюму. Кароль Стэфан Баторый зацвердзіў гэты падарунак (4. S.83).

Таксама, як і пара Ілінічаў, В. Пратасевіч пахаваны ў Віленскім Кафедральным саборы.

Езуіцкія калегіюмы валодалі цэлым шэрагам пераваг: высокі ўзровень адукацыі, лепшыя прафесары і выкладчыкі, найболей дасканалыя метады навучання, але самае галоўнае - навучанне было бясплатным. Езуіты прымалі ўсіх ахвотнікаў вучыцца, незалежна ад веравызнання, больш таго, бацькам абяцалі, што дзеці застануцца ў бацькоўскай веры. У Віленскім калегіюме, ператорваным 1 красавіка 1579 г. у Віленскую езуіцкую Акадэмію, навучаўся цвет ліцвінскай шляхты. У 1586 г. у Акадэміі 84 прафесары навучалі 700 навучэнцаў.

У лютым 1585 г. кароль Стэфан Баторый дазволіў езуітам абмяняць маёнтак Шырвінты на маёнтак Тракелі, размешчаныя побач з Дворышчам. У 1590 г. у Тракелях была праведзена валочная памера. Дворышча, Тракелі і блізкія селішчы склалі адзіны гаспадарчы комплекс агульнай плошчай больш за 10 тысяч гектараў. Гэтая велізарная гаспадарка знаходзілася ў валоданні манахаў езуітаў амаль дзвесце гадоў, прадукты і прыбыткі з маёнтка ішлі на ўтрыманне студэн-

таў і прафесараў Віленскай езуіцкай акадэміі. Дворышчаўскія сяляне падпарадкоўваліся рэктарам Акадэміі, пачынальна з самых першых Якуба Вуека (1578-79) і Пятра Скаргі-Павенцкага (1580-82). Рэктары ўвесь час трымалі ў Дворышчы сваіх адміністратараў, кантралявалі і асабіста наведвалі гаспадарку.

Увесну 1591 г. трэці рэктар Віленскай акадэміі іспанец Гарсія Алабіяна (1549 -1624) заснаваў у Дворышчы філіяльны касцёл Святой Багародзіцы Ружарыі (Св. Маці Божай Ружанцовай) і 1 траўня 1591 г. па распараджэнні Правінцыяла Ордэна езуітаў Марэлі, надзяліў філіял падараваннем - в. Мейлуны, а таксама штогадовымі 10 злотымі з маёнтка Дворышча і Тракелі і па 3 грошы з падданых (5. S.211). У 1595 г. езуіты прывезлі ў Тракельскі касцёл з Вільні копію абраза Маці Божай Снежнай.



***Абраз Маці Божай Тракельскай***

У снежні 1659 г. Дворышча і Тракелі моцна пацярпелі ад маскоўскіх войскаў Івана Хаванскага. Тракельскі касцёл згарэў. Мяркуючы па падатках, выплачаных езуітамі ў 1661 г., у Дворышчы і Тракелях засталося ўсяго 16 дымоў. Да 1690 г. колькасць дымоў узрасла да 54 (6. S. 230). Ад падпалу шведскімі салдатамі-пратэстантамі ў 1706 г. Дворышча па легендзе выратавала сотня злотых, выплачаная манахамі. З 1729 па 1772 г. пры Тракельскім касцёле існавала езуіцкая місія, увесь час пражываў езуіцкі місіянер. У 1770 г. у Дворышчы была пабудавана новая драўляная капліца.

У 1773 г. Ордэн езуітаў быў расфармаваны, Віленская акадэмія зачынена. Землі маёнтка Дворышча прыняла Размеркавальная Камісія, якая прадала маёнтак трокскаму суддзі Міхалу Ромеру (?-1783), з абавязкам штогадовай выплаты ў Касу Адукацыйнай Камісіі 6 % ад кошту маёнтка. Разам з зямлёй М. Ромеру перайшлі: драўляная жылая хата, хата эканома, млын вадзяны драўляны, хата млынара, спіртовы завод мураваны са складам, свіран са склепам, стайня, два хлявы для жывёлы, аўчарнік, вышкі, гумно, ляднік, печ для абпалу вапны.

Неўзабаве асобныя часткі велізарнага маёнтка разышліся паміж дробнымі ўладальнікамі і арандатарамі другой і трэцяй рукі. У лютым 1793 г. расійскія войскі правялі ў Дворышчы прымусовую канфіскацыю для ўтрымання войска.



***Герб Шукевічаў Адравуж***

У траўні 1794 г. мястэчка Дворышча з фальваркамі знаходзілася ў спадчыннай уласнасці ўслонімскага земскага суддзі Ігнацыя Шукевіча (к. 1740-1802) герба Адравуж.

Падчас паўстання Касцюшкі раніцай 25 чэрвеня (6 ліпеня) 1794 г. Дворышча было занята рускім корпусам (300 кавалерыстаў, казакі і дзве палявыя гарматы) пад камандаваннем генерал-маёра Багдана Фёдаравіча Кнорынга.

*"Учорась прыбыў я ў Дворышча, дзе маю зараз мой лагер... Выслананы быў пікет па лідскай дарозе, якім сустрэты моцны пост мяцежнікаў, якія збіраліся у Лідзе пад камандай генерала Цыцыянава (Сцыпіёна дэль Кампа -ВС), але быў разбіты. А ўслед таму сабраны быў атрад з драгунаў, казакоў і падлоўчых у Ліду ў тую ж хвіліну пад*




***Багдан Фёдаравіч Кнорынг (1746-1825)***

*начальствам спадара палкоўніка Часменскага, дзе тыя мяцежнікі і быўшыя там канфедэраты ім пабіты, прагнаны і рассеяны..."* (7).

Паколькі ўладальнік маёнтка Ігнацы Шукевіч прыняў удзел у паўстанні ў якасці таргавіцкага канцылярыста, Дворышча было разрабавана, некаторы час там стаяў ваенны лагер.

У канцы XVIII стагоддзя Дворышча з фальваркамі Уладзіслававa, Тракелі і Гураў заставалася ў спадчынным валоданні Ігнацыя Шукевіча. Дворышча, Уладзіслававa і Тракелі арандавала ўдава старасты шатэрніцкага (?) Пузына, а фальварак Гураў арандаваў Станіслаў Воўк. У той час маёнтак ахопліваў 22 вёскі з 224 дымамі і 1265 паданымі (4. S.84 ). Напачатку XIX стагоддзя, па М. Шымялевічу, часткай земляў валодалі Валадкевічы, затым Дворышча разам з Тракелямі перайшло наваградскаму падкаморыю Стэфану Незабытоўскому, у якога маёнтак купіў Войцах Пуслоўскі. 4 жніўня 1811 г. В. Пуслоўскі прадаў Дворышча і Тракелі капітану польскіх войскаў Антонію Наркевічу. Ні Наркевіч, ні яго спадчыннікі належнай грашовай сумы ў карысць Агульнаадукацыйнай камісіі не пераводзілі, і Размеркавальная Камісія ў 1821 г. вярнула землі Пуслоўскаму, які 17 лютага 1822 г. на пакрыццё запазычанасці выплаціў Камісіі 33817 рублёў срэбрам (там жа, S.84 ).

Па іншых крыніцах напачатку XIX стагоддзя Дворышча знаходзілася ў пажыццёвым валоданні ў Цыпрыяна Шукевіча (1755-1844), прэзідэнта І-га дэпартамента Гарадзенскай губерні (6.) Ц. Шукевіч прыняў удзел у паходзе Напалеона на Маскву. У тэрміны, пазначаныя маніфестам 1812 г., у Дворышча не вярнуўся, маёнтак у лютым 1814 г. паступіў у казённае кіраванне. Каля 1815 г. . *"Поезуитское имение Дворжище с фольварками Трокели, Гуров и всеми к оному принадлежностями, заторгованное от казны, перешло в Вечное владение Действительного Статского Советника и Кавалера Войтеха Пусловского"* (9. Л.73)

За тры гады да гэтага, 18 красавіка 1812 г. Войцах Пуслоўскі купіў у графа генерала Іллі Андрэевіча Безбародкі (1756-1815) суседнія Геранёны і Ліпнішкі за 534 тыс. рублёў асігнацыямі.

Войцах Ян Пуслоўскі (1762-1833) - прадстаўнік старажытнага ліцвінскага роду гербу Шаліга, які знаходзіўся ў роднасных сувязях з Вішнявецкімі, Сабескімі, Масальскімі. Скончыў павятовую школу ў Слоніме. Дэпутат Трыбунала ВКЛ, дэпутат Чатырохгадовага сойма (1788-1792), маршалак слонімскай шляхты (1797-1816), міністр фінансаў Каралеўства Польскага, дзейны стацкі дарадца Расійскай Імперыі з 1810 г, кавалер ордэнаў Св. Ганны 2 і 1-га класа.

Гаспадарчы дзеяч, таленавіты фінансіст і эканаміст. Валодаў шырокімі масівамі земляў у Заходняй Беларусі і Літве: Пяскі, Шыдловічы, Ольшава, Косава-Мерачоўшчына, Сынкавічы, Старыя Дзявяткавічы, Міхалінаў і Шулякі - у Слонімскім павеце, Хомск у Кобрынскім, Свіслач, Зарубічы, Квасоўка - у Гарадзенскім, Планты, Тэлеханы і Кужлічын у Пінскім, Сянно - у Магілёўскай губерні, прадмесце Антокаль у Вільні, Кучкурышкі з Лесам Язова (Пукштаны) у Віленскім павеце, Жыжмары, Рэканцішкі - у Трокскім павеце, Бейшагола, Таўрагіне і Віжуны ў Ковенскай губерні. У Лідскім павеце яму належалі Геранёны, Ліпнішкі, Дворышча і Тракелі. У канцы жыцця ў яго маёнтках пражывала каля 20 тысяч рэвізскіх душ.



***Войцах Ян Пуслоўскі (1762-3.03.1833) герба Шаліга. Партрэт пэндзля Валенція Ваньковіча***

У 1803 г. Войцах Пуслоўскі купіў маёнтак Шыдловіцы каля Слоніма, дзе стварыў буйны прамысловы цэнтр, пазней названы Альбярцінам. Невялікая папяровая фабрыка XVII стагоддзя стала пачаткам буйнога для таго часу прамысловага комплексу. Побач былі створаны каля дзясятка фабрык па вытворчасці тканін, шоўку, запалак, смалы, цвікоў, паперы, кардону і дываноў. Пабудаваў чыгуналіцейны завод, цагельню, тартак і млын, а таксама заводскую сядзібу і гасцініцу. Падчас вайны 1812 г. пастаўляў збожжа рускаму войску. У 1821 г. купіў Косава, стварыў там фабрыку дываноў. Меў папяровую фабрыку пад Вільняй, суконную фабрыку ў Хомску, склады лесу і шкіпінаравы завод у Міхаліне, бровары, смалярні, цагельні, млыны. Будаваў хаты, дарогі, цэрквы і касцёлы, трымаў коней пры паштовых станцыях. Быў незвычайна паваротлівым прадпрымальнікам.

Быў жанаты з Юзэфай Агнешкай Францішкай Друцкай-Любецкай (1776 - 1830), роднай сястрой князя Ксаверыя Друцкага-Любецкага (1778-1846), міністра фінансаў Царства Польскага (1821-30) і чальца Расійскай Дзяржаўнай Рады. Жылі Пуслоўскія ў Шыдловічах. Мелі 7 дзяцей. Двое сыноў былі жанатыя са сваімі стрыечнымі сёстрамі, Ксаверый-Францішак (1806-1874) - з князёўнай Юліяй Друцкай-Любецкай (1811-1888), Ян-Уладзіслаў (1801-1859) - з Генавефай

Друцкай-Любецкай (1821-1867).

Войцах і Юзэфа Пуслоўскія, Францішак-Ксаверый Друцкі-Любецкі былі пахаваны ў фамільным склепе Пуслоўскіх у Ольшаве (цяпер Бярозаўскага раёна).

Маёнтак Дворышча пасля скону Войцаха Пуслоўскага перайшоў *"правам спадчыны сыну яго ўжо зацверджанаму Герольдыяй у дваранскай добрай якасці адстаўному паручніку шляхоў зносін Вандаліну Войцахавічу Пуслоўскаму"* (9.Л.73).



***Вандалін Пуслоўскі (1814-1884)***

У 1838 г. ён прыступіў да будаўніцтва палаца ў Мерачоўшчыне за 2 км ад Косава, які цяпер завецца Косаўскі палац.

**Маёнтак Дворышча ў 1847 г.**

Маёнтак складаўся з мызы Дворышча, фальваркаў Тракелі і Гураў, хутароў Уладзіслававa і Божы Дар, 18 вёсак і 4 чыншавых сяліб. Усяго ў маёнтку налічвалася 149 цяглавых двароў і 1147 душ, з іх 575 мужчынскіх. *"Хозяйства именуются тягловыми на основании учреждения оных с древних времен и по инвентарям: первому при взятии имения от казны на вечное владение и второму, утвержденному Виленским губернским инвентарным комитетом с Высочайшей Воли установленным"* (9. Л.2).

Да мызы Дворышча адносіліся 10 вёсак: Бянейкі, Дашкелі, Дворышча, Гурыны, Ёчавічы, Кабыльнікі, Міргінцы, Пашунцы, Сцеркі, Юрэвічы. Размяшчаліся вёскі ад двара на адлегласці ад 2 да 8 км, у сукупнасці мелі 76 цяглавых двароў, 270 душ мужчынскага і 273 жаночага полу.

**Вёска Дворышча** -15 двароў, 54 душы мужчынскага полу і 54 жаночага. Гаспадары двароў: Брындза Міхаіл, 50 гадоў; Дзянкевіч Сямён, 74 гады; Лукаш Мацвей, 50 гадоў; Ясінскі Франц, 70 гадоў; Жук Іосіф, 49 гадоў; Некраш Аляксандр, 40 гадоў; Ендза Іван, 50 гадоў; Драб Станіслаў, 22 гады; Казак Карл, 48 гадоў; Аўсейка Мацвей, 25 гадоў; Гусель Якаў, 48 гадоў; Лайціс Аляксандр, 48 гадоў; Кавальчук Марцін, 60 гадоў; Залога Іван, 55 гадоў; Часновіч Казімір, 30 гадоў. У вёсцы - 11 коней, 40 валоў, 26 кароў, 36 галоў дробнай рагатай жывёлы, 48 авечак, 34 свінні, 72 птушкі.

**Вёска Бянейкі** - 9 двароў, 35 душ мужчынскага полу, 31 жаночага. Гаспадары двароў: Некраш Іван, 70 гадоў, Бучынскі Сцяпан, 60 гадоў; Яскель Казімір, 30 гадоў; Трайгіс Гаўрыла, 63 гады; Стасюкевіч Мацвей, 26 гадоў; Яскель Юрый, 39 гадоў; Балін Іосіф, 40 гадоў; Барыла Матэвуш, 35 гадоў; Яскель Мацвей, 50 гадоў. У вёсцы - 13 коней, 20 валоў, 15 кароў, 17 галоў дробнай рагатай жывёлы, 21 авечка, 14 свінняў, 46 птушак.

**Вёска Гурыны** - 5 двароў, 17душ мужчынскага і 16 жаночага полу. Гаспадары двароў: Лук'ян Пётр, 45 гадоў; Пашнік Станіслаў, 30; Сарэла Матэвуш, 40; Драб Марцін, 80; Пашнік Іван, 30. У вёсцы - 1 конь, 10 валоў, 6 кароў, 11 галоў дробнай рагатай жывёлы, 14 авечак, 11 свінняў, 25 птушак.

**Вёска Дашкелі** - 5 двароў, 19 душ мужчынскага полу і 17 жаночага. Гаспадары двароў: Некраш Франц, 46 гадоў; Пакшыс Юрый, 60; Пакшыс Іван, 70, Некраш Карл 50, Ёўхімовіч Ігнат 40. У вёсцы - 3 кані, 11 валоў, 9 кароў, 7 галоў дробнай жывёлы, 17 авечак, 9 свінняў, 29 птушак.

**Вёска Ёчавічы** -3 двары, 10 душ мужчынскага полу і 8 жаночага. Гаспадары двароў: Маміца Андрэй, 70 гадоў; Матукевіч Іван, 30; Лукаш Іван, 50. У вёсцы - 2 кані, 6 валоў, 4 каровы, 7 галоў дробнай рагатай жывёлы, 12 авечак, 6 свінняў, 19 птушак.

**Вёска Кабыльнікі** - 13 двароў, 43 душы мужчынскага полу і 51 жаночага. Гаспадары двароў: Бабель Франц, 19 гадоў; Бучынскі Мацвей, 40; Бучынскі Іван, 30; Буй Іосіф, 30; Барыла Пётр, 50; Залога Лаўрэнцій, 55; Вайтовіч Вікенцій, 33; Яскель Ігнат, 33; Драб Іван, 60; Курман Іван, 35; Козін Франц, 30; Вайтовіч Матэвуш, 60; Томшыс Фадзей, 50. У вёсцы - 8 коней, 26 валоў, 19 кароў, 25 дробнай жывёлы, 27 авечак, 21 свіння, 71 птушка.

**Вёска Міргінцы** - 10 двароў, 38 душ мужчынскага полу і 40 жаночага. Гаспадары двароў: Бабнік Пётр, 40 гадоў; Улас Дзяменцій, 30; Аўсейка Іван,

25; Кебеш Матэвуш, 35; Грышэвіч Іосіф, 30; Улас Іосіф, 50; Гусель Сцяпан, 45; Дзяркач Якаў, 48; Драб Мацвей, 50; Кароль Франц, 40. У вёсцы - 11 коней, 24 валы, 19 кароў, 24 дробнай жывёлы, 27 авечак, 27 свінняў, 71 птушка.

**Вёска Пашунцы** - 8 двароў, 30 душ мужчынскага полу і 29 жаночага. Гаспадары двароў: Савета Франц, 50 гадоў; Лукашэвіч Антон, 40; Лукашэвіч Карл, 35; Даўляшэвіч Рафаіл, 60; Буй Юрый, 53; Улас Якаў, 40; Лыскаўка Сямён, 30; Казак Іван, 35. У вёсцы - 3 кані, 18 валоў, 11 кароў, 11 галоў дробнай жывёлы, 19 авечак, 9 свінняў, 35 птушак.

**Вёска Суцькі** - 4 двары, 12 душ мужчынскага і 13 жаночай полу. Гаспадары двароў: Томшыс Іосіф, 61 год; Пакшыс Франц, 60; Майсей Мацвей, 40; Залога Станіславаў, 37. У вёсцы - 3 кані, 8 валоў, 7 кароў, 9 галоў дробнай жывёлы, 7 авечак, 5 свінняў, 25 птушак.

**Вёска Юрэвічы** - 4 двары, 12 душ мужчынскага полу і 14 жаночага. Гаспадары двароў: Кароль Лаўрэнцій, 41 год; Драб Адам, 60 гадоў; Буй Марцін, 50; Жыдзіс Іван, 30; Каўкель Лаўрэнцій, 20. У вёсцы - 1 конь, 10 валоў, 6 кароў, 4 галавы дробнай рагатай жывёлы,12 авечак, 6 свінняў, 23 птушкі.

У склад **фальварка Тракелі** ўваходзілі:

**в. Эйтуны** - 20 двароў, 78 душ мужчынскага полу і 86 жаночага. Гаспадары двароў: Вайтовіч Карл, 40 гадоў; Кузюк Карл, 60; Курман Мацвей, 38; Трайгіс Казімір, 20; Кайлевіч Тамаш, 60; Юхневіч Міхаіл, 68; Жук Франц, 21; Мікавоз Пётр, 26; Драб Матэвуш, 72; Бычынскі Мацвей, 26; Курман Міхаіл, 27; Бічэль Мацвей, 63; Сарэла Франц, 48; Кайлевіч Іосіф, 58; Сарэла Мацвей, 50; Грабліс Станіслаў, 47; Жук Франц, 70. У вёсцы - 21 конь, 46 валоў, 28 кароў, 36 галоў дробнай рагатай жывёлы, 81 авечка, 44 свінні, 102 птушкі;

**в. Мігуны** - 19 двароў, 64 і 75 душ;

**в. Дайноў** - 11 двароў, 35 і 35 душ;

**в. Граблі** - 4 двары, 17 і 18 душ;

**в. Папашаны** - 4 двары, 12 і 14 душ.

Разам: 58 цяглавых двароў, 206 душ мужчынскага полу і 228 жаночага.

Да **фальварка Гураў** адносіліся:

**в. Вайтовічы** - 7 двароў, 23 душы мужчынскага полу і 28 жаночага;

**в. Шнуровічы** - 4 двары, 15 і 17 душ;

**в. Скворні** - 4 двары, 21 і 19 душ;

у сукупнасці - 15 цяглавых двароў, 59 душ мужчынскага полу і 64 жаночага.

**Пры панскім двары** лічыліся 29 душ мужчынскага полу і 3 жаночага, рамеснікаў і лясных вартаўнікоў налічвалася 11 душ мужчынскай полу і 4 жаночага.

Маёнтку належалі 8758 дзесяцін зямлі, у тым ліку: ворнай - 5279, сенакоснай - 643, пашавай - 188, лясной - 2420, грамадскага засеву - 54, пад сядзібамі, будынкамі і гародамі - 174. Пад 4-мя чыншавымі сялібамі: сядзібнай - 4 дзесяціны, ворнай - 68, сенакоснай - 11, разам 83 дзесяціны. У сялян зямлі ворнай было 2390 дзесяцін, сенакоснай - 283, пад адмысловымі пашамі - 116, пад сядзібамі і гародамі - 149 дзесяцін, разам 2938 дзесяцін. На кожную сялянскую гаспадарку прыпадала 21 дзесяціна, у тым ліку, адна дзесяціна сядзібнай зямлі, 18 ворнай і 2 сенакоснай. Гаспадаркі вёсак Дайнава, Граблі, Мігуны, Папашаны, Эйтуны былі надзелены 17-цідзесяціннымі ўчасткамі, гаспадаркі вёсак Скворні, Шнуровічы, Вайтовічы - 16-цідзесяціннымі ўчасткамі, яны плацілі менш чыншу і даніны.

Глебы супяшчаныя, камяністыя, адносна ўраджайныя для пасеву ўсіх гатункаў азімага і яравога хлеба пры ўнясенні гною. Звычайна на адну дзесяціну пад азімы пасеў вывозілася ад 250 да 300 аднаконных фур гною. Апрацоўка абшарніцкіх земляў і ўборка ўраджаю праводзілася паншчынаю, згонамі, адпрацоўкай сялянскай пазыкі і збольшага наймам сялян.

Лясы знаходзіліся ў распараджэнні абшарніка. На апал сяляне секлі хмызнякі, якія растуць у межах паселішчаў, на пабудову і папраўку будынкаў купляў абшарнік з суседніх лясоў і адпускаў па меры патрэбы.

Сенажаці лугавыя. Рака Жыжма сплаўная, у ёй мелася рачная рыба, *"лоўля якой па рацэ дазволена сялянам без плацяжоў"*. Дарогі: камерцыйны гасцінец з г. Ліды ў м. Вераноў; прасёлкавыя звязваюцца з камерцыйным гасцінцам.

У 1847 г. у маёнтку Дворышча меліся: панскі дом, тры эканамічныя хаты, чатыры хаты для прыслугі, 5 свіранаў, 2 стайні, 6 адрын для жывёлы, 6 гумнаў з трыма коннымі малатарнямі, рэя для складавання сена, 2 драўляныя аўчарнікі, 2 мураваныя аўчарнікі, валоўнік, 2 леднікі, мураваны склеп, магазейн сельскі, бровар паравы мураваны, бровар драўляны, карчма мураваная і 12 корчмаў драўляных. Прыходскі рымска-каталіцкі драўляны касцёл у в. Тракелі з хатай для святара і капліца ў в. Дворышча.

Панскі двор у 1847 г. размяшчаўся за 300 м ад вёскі Дворышча, уключаў: жылы дом драўляны на каменным падмурку, хату эканома, хату для прыслугі, свіран са склепам, стайню, вінакурны бровар. На мосце цераз р. Жыжму быў уладкованы драўляны вадзяны млын на 3 паставы і сукнаваляльня (10. Л.34). Паблізу знаходзілася хатка млынара. Бліжэй да вёскі Дворышча размяшчалася мураваная карчма і драўляная капліца. Па вёсках лічыліся: 156 сялянскіх хат, 149 гумнаў, 120 свіранаў, 8 рэяў, 108 хлявоў. Панскія і сялянскія будынкі ў большай частцы былі трухлявыя.

Хлебаробства вялося простае збожжавае трохпольнае. Зямля апрацоўвалася сахою звычайнаю ў два валы і драўлянаю бараною ў адзін конь. Са збожжавых лепш радзіліся жыта, авёс і ячмень. З карняплодаў - бульба. Сяляне сеялі галоўным чынам жыта, авёс і бульбу. З агароднай гародніны - просты бурак, капусту, рэпу, моркву і цыбулю. Сярэдні ўраджай пшаніцы, жыта, ячменю, гароху - сам 4, аўсу, грэчкі, ільнянога сем’я - сам 3, бульбы - сам 6.

*"Урожай ярового хлеба на крестьянских полях одним зерном меньше противу господского потому что они не имеют столько средств к удобрению земли навозом".*

Для дамашняга ўжывання сяляне разводзілі лён і менку. Ільнянога валакна выраблялася да 250 пудоў у год. Сярэдні збор сена з дзесяціны каля 50 пудоў. Эканоміяй збіралася сена да 17450 пудоў, сялянамі- 14150 пудоў.

Жывёлы панскай - 336 галоў, коней - 47, авечак танкарунных - 1076. У сялян жывёлы працоўнай - 454, непрацоўнай буйной - 479, дробнай - 746. Пчаліных вулляў - 111. Сваю жывёлу сяляне пасвілі на пашах, на сваіх папарах, па хмызняках і на сенажацях пасля ўборкі сена.

На броварах выкурвалася да 6412 вёдраў віна хлебнага (84 тыс. літраў). З пуду хлеба атрымлівалася 8 літраў, з цэнтнера бульбы 20 літраў. Піцейны продаж праводзіўся ад эканоміі з выручкаю ў год да 800 руб. срэбрам, сядзельцамі ў піцейных дамах былі хрысціяне. Праводзіўся аптовы продаж хлебнага віна на 2200 руб. срэбрам. *"Винокурение не делает никакой пользы, кроме удобнейшего сбыта произведений и лучшего прокормления скота; в неурожайных летах действие винокурень прекращается"* (9. Л.4).

Прадукты і тавары прадаваліся ў гарадах Вільні, Лідзе і мястэчках Ліпнішкі і Вераноў. Перавозка тавараў рабілася з разліку 28 вёрст з грузам у 20 пудоў - адзін запражны дзень з паншчыны. Сярэднія цэны пры продажы за чвэрць (210 літраў): пшаніцы- 4,15 руб., жыта - 2,6 руб., ячменю - 1,85 руб., аўсу - 1,2 руб., грэчкі - 1,6 руб., гароху - 2 руб., бульбы - 60 капеек, ільнянога сем'я - 6 рублёў. Вядро віна хлебнага каштавала 60 капеек, пуд валакна льнянога - 2,5 рубля.

На выпадак неўраджаю сяляне забяспечваліся хлебам з сельска-запаснога магазейна, штогод з кожнай рэвізскай душы збіралася па 4 гарнца жыта, і па 2 гарнцы яравога. Па прычыне агульнага неўраджаю ў 1843-46 гадах, увесь сабраны ў 1847 г. азімы і яравы хлеб быў раздадзены на харч сялян і забеспячэнне іх палёў.

Дзяржаўныя падаткі сяляне плацілі самі - з кожнай гаспадаркі па 7 рублёў срэбрам у год. За асоб, якія былі на сталых паслугах у абшарніка, падаткі ўносіліся з іх жалавання з душы па 1,64 рубля ў год. У выпадку няплаты сялянамі падаткаў ва ўстаноўленыя тэрміны, яны выплачваліся абшарнікам, які пасля зыскваў за гэта работамі ці грашыма. Прыватную зямную павіннасць - 44 р. 32 к., броварнае мыта - 321,32 р. і на Полацкі кадэцкі корпус - 33,24 р. плаціў абшарнік. Нядоімка сялян за адпушчаную з эканоміі пазыку ў хлебе, і за закладзеныя ў казну падаткі складала ў 1847 г. 2025,58 р.

Стан сялян сярэдні, па прычыне агульнага ў 1844 г. падзяжу жывёлы і неўраджаю. Сяляне займаліся, галоўным чынам, пасевам, разводзілі жывёлу. Акрамя хлебных прадуктаў прадавалі гародніну і бульбу, дробнымі партыямі палатно хатняга вырабу і гаспадарчую дробязь. Наймаліся для перавозкі грузаў. Рамеснікі зараблялі па сваім майстэрстве, прыслуга двара і лясныя вартаўнікі атрымлівалі адзежу і жалаванне.

Гадавы прыбытак маёнтка: ад земляробства - 5459,45 руб., ад жывёлагадоўлі і малочнай вытворчасці - 512 р, воўны -1500 р., продажу піва - 3000 р., ад млына і валюшні - 60 р, сялянскія чыншы - 55 р, чыншавыя сялібы - 69 р. Усяго срэбрам 10 655 рублёў 42 кап.

Статыстычную справаздачу па маёнтку Дворышча (9, л.1-36) склаў паверааны абшарніка Вандаліна Пуслоўскага Іосіф Ёч. Вандаліну было не да справаздач, поўным ходам ішло будаўніцтва Косаўскага палаца.

У 1848-49 гг. Вандалін Пуслоўскі прадаў Гераёны Самуэлю Ланеўскаму Ваўку, Ліпнішкі - былому старшыні Навагрудскага межавага апеляцыйнага суда Аляксандру Антонавічу Вольскаму (1800 - к 1865), а маёнтак Дворышча здаў А.А. Вольскаму ў арэнду.

**Першакрыніцы:**


1. Літоўская метрыка. Том 20. Трэцяя кніга судовых спраў. Пецярбург. 1903. № 164.
2. Літоўская метрыка. Том 20. Другая кніга судовых спраў. Пецярбург. 1903. № 403.
3. Літоўская метрыка. Том 4. Вільнюс. 2015. № 252 і 253.
4. Szymielevicz M. Dworzyszcze i Trokiele// Ziemia Lidzka. № 3. 1939.
5. Kurczewski J. Biskupstwo Wilenskie. Wilno. 1912. S. 211.
6. Metryka Litewska. Rejestry podymnego Wielkiego Ksiestwa Litewskiego: Wojewodztwo wilenskie 1690 г. / Opracowal A.Rachuba. Warszawa, 1989. S.230
7. Анищенко Е.К. Восстание и война 1794 г. в Литовской провинции со ссылкой на АВПРИ Ф. 79. Оп. 6. Д.1838. Л. 222-222 об.
8. Боровой Р.В., Бабицкий Ю.В. Историко-архивные и библиографические исследования// Эскизный проект детальной планировки центра н.п. Дворище. Минск. 1991.
9. LVIA. Ф. 394. Оп. 4. Д. 782 - Инвентарь имения Дворище Вандалина Пусловского. 1847 г.
10. LVIA. Ф. 382. Оп.1. Д.528. Дело о предоставлении сведений о количестве мельниц в Виленской губернии Управляющему путями сообщения и публичными зданиями. 1861-1864. 47 л. Л.34.


***Паводле lida.info.***

**10 гадоў таму назад адноўлена вежа Гедыміна Лідскага замка і частка яго сцен**

*Леанід Лаўрэш*

# Лідчына ў XIV стагоддзі

## Некаторыя моманты ў гісторыі Еўропы XIV стагоддзя

У 1302 г. у Францыі з'яўляюцца так званыя Генеральныя штаты - саслоўна-прадстаўніцкая ўстанова з правамі дарадчага органа, якая склікалася ў крытычныя моманты па ініцыятыве каралеўскай улады для аказання дапамогі ўраду. Іхняя галоўная функцыя - прызначэнне падаткаў ў дзяржаве. Да Вялікай французскай рэвалюцыі Генеральныя штаты працяглы час не склікаліся, але ва ўмовах вострага палітычнага крызісу кароль, Францыі быў прымушаны сабраць у гэтым органе прадстаўнікоў трох саслоўяў. 17 чэрвеня 1789 г. Генеральныя штаты абвясцілі сябе Нацыянальным сходам, а 9 ліпеня Нацыянальны сход абвясціў сябе Установўчым сходам, які стаў вышэйшым прадстаўнічым і заканадаўчым органам рэвалюцыйнай Францыі, як тое самае ружжо, якое працяглы час вісела на сцэне але ўсё ж стрэліла.

У 14-ым стагоддзі пачынаецца ўздым Тэўтонскага ордэна ў Прусах. Некалькі дзесяцігоддзяў пасля пакарэння мясцовых плямёнаў манахі-рыцары выкарысталі для ўздыму гаспадаркі ў здабытай краіне. Моцна дапамаглі ім у гэтым каланісты з перанаселеных нямецкіх земляў, якія пачалі масава наплываць у Прусію. Ордэн пачаў актыўны наступ на Літву, а ў 1308 г. здабыў багатае славянскае Памор'е з буйнейшым балтыйскім портам Гданьскам[1].

На пачатку XIV ст. пачаўся Малы ледніковы перыяд, адчуліся кліматычныя змены - моцныя дажджы ўлетку і суровыя, марозныя зімы. Ураджаі гінуць, сяляне кідаюць нядаўна разораную раллю, людзі ў гарадах пачынаюць паміраць з голаду. На 1315 - 1317 гг. прыходзіцца пік голаду, так званы "вялікі голад". Падчас "вялікага голаду" гіне ад 15 да 25 % гарадскога насельніцтва. Голад у той час адрозніваўся ад голаду сёння. Дапамогі чакаць не было адкуль, і нават невялікі недарод, які можна было перажыць, разумна размеркаўшы рэсурсы, выклікаў паніку сярод насельніцтва. У Лівонскай хроніцы Германа Вартберга паведамляецца: *"У 1315 годзе ў часы гэтага магістра (Герхард Ёрке) былі дарагавізна і голад у Лівоніі, так што людзі забівалі з голаду сваіх дзяцей, выкопвалі з магілаў трупы памерлых, здымалі з шыбеніц павешаных, варылі і жэрлі іх."* [2]

У 1348 г. з Крыма ў Еўропу прыйшла чума - самая магутная пандэмія таго часу. Чума прыйшла адразу у дзвюх формах - лёгачнай і бубоннай. Людзі ра-таваліся рознымі маскамі, у якія клалі травы. Гэта мела нават нейкі сэнс бо адпужвала пераносчыкаў інфекцыі - блох. Напачатку чума прыйшла ў Італію і Іспанію, потым у Паўдзённую Германію і Францыю, потым хвароба перакінулася ў Англію. Пасля гэтага вярнулася на мацярык, прыйшла ў Польшчу, а потым у наш край. Эпідэмія цягнулася да 1353 г. Памерла каля 50 % тагачаснага насельніцтва. Страшныя часы, але адначасова ў культуры пачынаецца эпоха Протарэнесансу, эпоха Дантэ, Петраркі, Бакача. Пасля эпідэміі Еўропа прыходзіць ў прытомнасць амаль што цэлае стагоддзе, і толькі дзесьці з XVI ст. пачынаецца больш-менш устойлівы эканамічны рост.

У 1337 г. пачалася так званая Стогадовая вайна паміж Францыяй і Англіяй, якая ўскосна зачапіла і наш край. Пра гэта я раскажу далей.

## Пачаткі гісторыі горада і замка

**Першыя згадванні Ліды.** Доктар гістарычных навук, прафесар С. В. Марозава ў сваім фундаментальным артыкуле "Ліда на старонках летапісаў і хронік Вялікага Княства Літоўскага"[3] заўважае, што ў "Хронікі Літоўскай і Жамойцкай" пасля запісу пад 1323 г. пра заснаванне Вільні ідзе невялікае апавяданне ад назвай "Огонь вечный перунови", там сярод іншага напісана: *"Пановал князь Гедимин лет много на князстве Литовском, Руском и Жомойтском, и много мевал воен, а завше выгравал фортуне. Сплодил седмь сынов, осмую дочку Анну…"*. Далей, каля 1330 г. Гедымін надзяліў сваіх сыноў удзельнымі княствамі, прычым *"Кестутови Троки Старые зо всем князством Жомойтским, з Городном и Ковном, Упитом и Лидою"*[4]. Гэта першае пісьмовае згадванне Ліды.

**Лідскі замак.** Крыжацкія наезды на нашы землі ўчасціліся ў канцы XIII - пачатку XIV ст. Старыя драўляныя ўмацаванні з муравамі вежамі-стаўпамі ўжо не маглі стрымаць ворага. Таму ў першай палове XIV ст. узнікае абарончая сістэма з магутных замкаў у Лідзе, Наваградку, Крэве, Медніках, Вільні, Троках, Коўні і г. д.[5] Гэта былі як старыя драўляныя, з цягам

[1] Краўцэвіч А. Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага 1248-1377 гг. Гародня - Уроцлаў, 2015. С. 90.

[2] Цыт па: Краўцэвіч А. Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага 1248-1377 гг. С. 88.

[3] Марозава С. В. Ліда на старонках летапісаў і хронік Вялікага Княства Літоўскага // Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання горада: матэрыялы рэспуб. навук.-практ. канф., (Ліда, 3 кастр. 2008 г.). Ліда, 2008. С. 8-13.

[4] Летапісы і хронікі Беларусі. Сярэднявечча і раннемадэрны час. Смаленск. 2013. С. 444.

[5] Краўцэвіч А. Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага 1248-1377 г. С. 100.

часу адбудаваныя з каменю і цэглы замкі-дзядзінцы, так і новы тып замкаў - кастэлі, запазычаны на Захадзе. Слова "кастэль" паходзіць ад лацінскага слова castellum - замак. У XIII - XIV стст. кастэлем у Заходняй Еўропе называлі невялікі мураваны замак, які звычайна меў адну ці дзве вежы і будаваўся ў нізіннай мясцовасці на штучным насыпе.

Будаўніцтва Лідскага замка, аднаго з самых вялікіх на тэрыторыі Беларусі (памеры двара складаюць прыблізна 80 х 80 метраў), прыпадае на 20-ыя гады XIV стагоддзя. На чале Вялікага Княства Літоўскага тады стаяў князь Гедымін. Ён разумеў, што спыніць наступ крыжацкага войска могуць толькі мураваныя замкі з моцнымі залогамі. Таму, скарыстаўшы дыпламатычныя хады, князь заключыў часовае перамір'е з Ордэнам і вясной 1323 года разаслаў лісты ў ганзейскія (паўночна-нямецкія) гарады, якія не вельмі шанавалі крыжакоў, з запрашэннем на працу розных рамеснікаў, у тым ліку і муляроў. Ёсць меркаванні, што ганзейскія майстры прынялі непасрэдны ўдзел у пабудове Лідскага замка.

Для пабудовы замка была абрана невялікая пясчаная выспа (дзюна) у балоцістай сутоцы дзвюх рэк - Лідзейкі і Каменкі. Выспу пераўтварылі ў штучную прамавугольную пляцоўку і месцамі яе дасыпалі жвірам, камянямі, буйной рачной галькай да вышыні 5-6 метраў. З поўначы, на адлегласці 7 метраў ад яе праходзіў шырокі (каля 20 метраў) роў, які злучаў дзве ракі і аддзяляў умацаванне ад горада.

Прафесар Міхась Ткачоў у свой час падлічыў, што для будаўніцтва Лідскіх муроў спатрэбілася каля 23 тысяч кубічных метраў каменю, каля 1,5 мільёна цаглін, вялікая колькасць вапны і пяску. Розныя пісьмовыя крыніцы сведчаць, што работы на замку вяліся 5-7 гадоў. Падчас раскопак на тэрыторыі Лідскага замка ў пяску былі знойдзены фрагменты прыладаў працы і зброі людзей каменнага веку. Пясок на замчышча вазілі з найбліжэйшых радовішчаў. Лідскі замак пабудаваны з палявога каменю і цэглы. Таўшчыня сцен унізе - 2 метры, уверсе яны звужаюцца да 1,5 метра і пераходзяць у баявую галярэю. Парапет галярэі, таўшчынёй у 70 сантыметраў, складзены з цэглы, мае адзін рад байніц трох тыпаў. Насціл галярэі апіраўся на драўляныя бэлькі сячэннем 20 х 20 сантыметраў. На паўднёвай і ўсходняй сценах знаходзіліся два цагляныя данскеры (туалеты) на каменных фігурных кансолях. На пачатку замак меў толькі адну вежу - у паўднёва-заходнім куце двара[6].

Пасля з'яўлення замка, наш горад, які існаваў да гэта як малазначнае паселішча на рацэ Каменцы, пачаў расці каля замка. Таму, Гедымін бясспрэчна можа лічыцца заснавальнікам нашага горада, яму цалкам заслужана пастаўлены помнік.

У першай палове XIV ст. горад, у першую чаргу дзякуючы замку, з'яўляўся адным з рэгіянальных ваенна-адміністрацыйных цэнтраў ВКЛ. У 1382 г. Ліда становіцца цэнтрам намесніцтва[7].

Доўга думаў, ці напісаць пра Гедыміна больш падрабязна? Але вырашыў, што чым рабіць кампіляцыю, сумленней будзе адправіць чытача да ўжо напісанага раней[8].

Прайшоў час. Не толькі просты народ, але і шляхта забылася, калі і хто будаваў наш замак. У народзе захавалася добрая памяць пра каралеву Бону, і будаўніцтва Лідскага замка доўгі час, пэўна, да прац Тэадора Нарбута, прыпісвалася менавіта каралеве Боне. Рэктар лідскіх піяраў у першай палове XIX ст., ксёндз Язафат Вайшвіла пісаў: *"Замак у горадзе прыпісваюць каралеве Боне, як быццам яна яго пабудавала. Амаль што кожны, у каго пра гэта пытаеш, так кажа. Нават лідскі магістрат менавіта гэтак каля 1820-га года рапартаваў, і гэтак жа лічыў і сам бурмістр Вінцэнт Бенстажыцкі. Так ён і напісаў у рапарце, выконваючы загад урада, які патрабаваў інфармацыю пра Лідскі замак.*

*... Я запытаў аднаго шляхціца:*

*- Ці ведаеш, чый замак?*

*Пан шляхціц адразу адказаў:*

*- Ведаю вельмі добра - каралевы Боны.*

*- А ці Бона яго вымуравала?*

*- Так, Бона, няма сумнення.*

*- Як даўно?*

*- Дастаткова даўно.*

*- А хто гэта такая, каралева Бона? Жонка якога караля?*

*- Гэтага не ведаю.*

*- А ці яна была хрысціянкай, ці паганкай?*

*- Паганкай!*

*- А дзе яна жыла?*

*- Тут, у Лідзе.*

*- А пахаваная дзе?*

*- У нашым замку.*

*- А хто пахаваны пасля яе?*

*- Кароль.*

*- А як яго звалі?*

*- Не ведаю.*

*- А што яшчэ ведаеш пра гэты замак?*

*- Больш нічога не ведаю.*

*- А хто яго знішчыў?*

*- Не ведаю.*

*Вось і ўсё, што можна даведацца пра замак ад мясцовых людзей"* [9].

**Вайдыла.** Пасля смерці Гедыміна зімой 1341 г. Альгерд з Кейстутам былі старэйшыя пасля Нарымонта сярод Гедзімінавічаў, а ў Вільні сядзеў самы малодшы сын Гедыміна - Яўнут, малады і няздольны да ўлады. У 1345 г. Альгерд і Кейстут вырашылі ўзяць уладу - Кейстут з Трокаў з войскам прыйшоў у Вільню

[6] Трусаў А. Мінулае і сучаснасць Лідскага замка // Лідскі летапісец. 2007. №2(38). С. 14-29.

[7] Насевіч В. Лідскі павет // Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 198-199.

[8] Гл. напрыклад: Краўцэвіч А. Гедымін. Мінск, 2012.

[9] Wspomnienie domku Pijarow Lidzkich. Napisal ks. Jozafat Wojszwillo, ostatni rektor Pijarow lidzkich // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu., sygn.3667/III. S. 13-14.

і паланіў Яўнута, пасля гэтага паклікаў Альгерда і перадаў яму Вільню як старэйшаму, прызнаючы вярхоўную ўладу брата. Альгерд з Кейстутам падзялілі ВКЛ на "паловы", Альгерд быў уладаром у Віленскай палове і меў тытул вялікага князя, Кейстут быў уладаром у Троцкай палове, і яму падпарадкоўваліся ўсе родзічы, якія мелі там удзелы.

Пасля падзелу Ліда належала Альгерду, які ў сваю чаргу падараваў горад свайму слузе Вайдылу. "Хроніка Быхаўца": *"Быў у вялікага князя Альгерда нейкі халоп, парабак нявольны, звалі яго Вайдыла. Спачатку быў ён пекарам, потым прызначыў яго князь пасцель слаць і ваду піць падаваць, і вельмі палюбіўся ён Альгерду, і даў быў вялікі князь яму Ліду трымаць і вывеў яго ў людзі. Потым, калі пасля смерці вялікага князя Альгерда мінула больш за два гады, князь вялікі Ягайла ўзняў Вайдылу вельмі высока і аддаў за яго сястру сваю родную, княгіню Мар'ю, што была замужам за князем Давыдам. І тым князю вялікаму Кейстуту надта вялікую крыўду і прыкрасць учыніў, што братанку ягоную ды Ягайлаву сястру за халопа аддаў. І ўвабраўся той Вайдыла ў вялікую моц за князем Ягайлам, ды пачаў з немцамі соймы чыніць, раіцца і падпісвацца пад граматамі супраць вялікага князя Кейстута"* [10].

Пра гэта ж дарэнне паведамляе "Віленскі летапіс" [11].

А ў "Летапісцы вялікіх князёў літоўскіх" маюцца чатыры блокі звестак пра Вайдылу. Трэба трошкі расказаць пра гэтага не чужога для Ліды чалавека. Для прастаты разумення летапісаў, тэксты пра Вайдылу падаю ў прафесійным перакладзе на сучасную беларускую мову.

*"Быў у вялікага князя Альгерда нейкі парабакнявольнік, халоп Вайдыла. Спачатку быў ён пекарам, а пасля [князь Альгерд] прызначыў яго пасцель сабе слаць і ваду падаваць сабе піць. Пасля [Вайдыла] так палюбіўся яму, што даў яму [князь Альгерд горад] Ліду трымаць і ўзвысіў яго. Потым жа, пасля смерці вялікага князя Альгерда два ці больш гадоў мінула, князь вялікі Ягайла яшчэ больш узвысіў Вайдылу і аддаў за яго сястру сваю родную - княгіню Марыю, што пасля была [замужам] за князем Давыдам.*

*І быў той Вайдыла ў вялікай моцы ў вялікага князя Ягайлы, і пачаў ён з немцамі соймы чыніць і граматы ўкладаць супраць вялікага князя Кейстута. Быў нехта астродскі комтур*[12]*, звалі яго Гунстынам. Ён быў кумам князю вялікаму Кейстуту, хрысціў княгіню Янушаву, дачку яго. Той [Гунстын] расказаў князю вялікаму Кейстуту: "Ты таго не ведаеш, што князь вялікі Ягайла часта пасылае да нас Вайдылу і ўжо змовіўся з намі, каб цябе пазбавіць тваіх уладанняў, а яму б з маці яны дасталіся".*

*Князь вялікі Кейстут, ведаючы, што князь вялікі Вітаўт добра жыве з князем вялікім Ягайлам, пачаў скардзіцца сыну свайму, вялікаму князю Вітаўту: "Ты з ім добра жывеш, а ён ужо змовіўся на нас з немцамі". Князь жа вялікі Вітаўт [так] гаварыў бацьку свайму: "Не вер гэтаму, гэта няпраўда, бо ён жа са мною добра жыве і, напэўна, паведаміў бы мне [пра гэта]".*

*Потым адбылася знамянальная падзея: князь вялікі Ягайла аддаў Полацк брату свайму, князю Скіргайлу, а яны (палачане) не прынялі яго. І князь вялікі Ягайла паслаў усё сваё войска літоўскае і рускае з братам сваім князем Скіргайлам на Полацк, і магістар лівонскі прыйшоў з войскам да Полацка, і аблажылі яны горад. І князь вялікі Кейстут зноў пачаў скардзіцца сыну свайму, вялікаму князю Вітаўту, моцна крыўдуючы на князя Ягайлу: "За Вайдылу сястру сваю, а маю братавую аддаў; ад немцаў мне паведамілі, што яны змовіліся супраць нас; а па-трэцяе: з кім мы ваюем? З немцамі. А яны з імі Полацк здабываюць. Усё гэта паказвае, што яны з немцамі заадно супраць нас". І сказаў князь вялікі Вітаўт бацьку свайму, вялікаму князю Кейстуту: "Яшчэ і гэтаму не зусім веру". Сказаўшы гэта, паехаў вялікі князь Вітаўт у Дарагічын"* [13].

Улічваючы, што Альгерд памёр у 1377 г., шлюб Вайдылы з Марыяй Альгердаўнай мог адбыцца каля 1379 г.

Трэба сказаць, што імя Вайдылы ў розных крыніцах падаецца як "Воидило" альбо Woydilo, а ў хроніцы Віганда - Waydel, Waydelen. Гэта імя мае балцкую этымалогію і, верагодна, Вайдыла быў балтам. З вялікай верагоднасцю можна казаць, што звесткі пра "нізкае" паходжанне Вайдылы з'яўляюцца тэндэнцыйнымі і накіраваны на тое, каб апраўдаць жорсткія дзеянні Кейстута супраць яго[14]. Трэба сказаць, што пры дварах вялікіх князёў ВКЛ існавала пасада пасцельнічага (лац: cubicularius), які апрача засцілання ложка для князя, падаваў яму пітную ваду. З гэтага бачна, што Вайдыла меў асобыя адносіны з князем, які давяраў яму сваё жыццё. Цікава, што князь Альгерд піў толькі звычайную пітную ваду (*"понеже пива и меду не пиаше, ни вина, ни кваса кисла"*), бо, верагодна, баяўся атручвання. Чэшскі храніст Бенеш Крабіцэ з Вейтміле паведамляе, што яго бацька Гедымін быў атручаны.

Згодна з хронікай Віганда, пасля Вялікадня 1376 г. атрад крыжакоў ледзь не захапіў у палон баярына Вайдэла (Waydel), які паляваў каля Даўдзішак. Парабкі папярэдзілі свайго гаспадара, тым не менш крыжакі захапілі 40 коней, што паказвае на багацце Вайдылы, які ўжо меў сваіх парабкаў і як найменей

[10] Беларускія летапісы і хронікі. Мінск, 1997. С. 99.

[11] Летапісы і хронікі Беларусі. Сярэднявечча і раньнемадэрны час. Смаленск. 2013. С. 170-171.

[12] Камтур горада Астрога ў Прусіі.

[13] Беларускія летапісы і хронікі. Мінск, 1997. С. 51-52.

[14] Ліцкевіч А. У. Комплекс звестак "Летапісца вялікіх князёў літоўскіх" пра нобіля Вайдылу: да праблемы верагоднасці і кантэксту // Studia Historica Europae Orientalis. Исследования по истории Восточной Европы: науч. сб. Вып. 6. Минск 2013. С. 140.

40 конных слуг[15].

Лідскі намеснік князя Вайдыла валодаў каля нашага горада Дубровенскай воласцю, якую ў 1387 г. Ягайла перадаў віленскаму касцёлу святых Станіслава і Уладзіслава (гл. далей). Яшчэ Адам Кіркор паведамляў пра існаванне тут у XIX ст. каменных падмуркаў двара Вайдылы.

Каб даведацца пра смерць Вайдылы, зноў працытуем летапіс:

*"Князь жа вялікі Кейстут сабраў усе свае сілы, і ўварваўся ў Вільню, і паланіў вялікага князя Ягайлу з яго маці і братамі, і граматы тыя знайшоў, якія з немцамі [яны] ўклалі, а да сына свайго, вялікага князя Вітаўта, ганца паслаў у Дарагічын [паведаміць] пра тое, што ўчынілася. І ганец тон знайшоў вялікага князя Вітаўта ў Гародні. І князь вялікі Вітаўт за адзін дзень з Гародні прыімчаў да бацькі свайго, вялікага князя Кейстута [у Вільню]. Ён жа сказаў сыну свайму, вялікаму князю Вітаўту: "Ты мне не верыў, а вось тыя граматы, [якія сведчаць], што яны змовіліся [з немцамі] супраць нас, але Бог нас збярог. Я ж князю вялікаму Ягайлу нічога [дрэннага] не ўчыніў, не рушыў ні скарбаў яго, ні стадаў, а самі палоненыя ходзяць толькі з невялікаю вартаю. Вотчыну ж яго, Віцебск і Крэва і ўсе землі, што бацька яго трымаў, - усё гэта аддаю яму і на нішто іхняе не пасягаю. А ўчыніў усё гэта, аберагаючы галаву сваю, уведаўшы, што супраць мяне змова рыхтуецца".*

*Князь вялікі Ягайла вельмі ўзрадаваўся прыезду вялікага князя Вітаўта. І прысягнуў князь вялікі Ягайла вялікаму князю Вітаўту і дзядзьку свайму, вялікаму князю Кейстуту, што ніколі супраць яго выступаць не будзе, а заўсёды і ва ўсім будзе ў яго (Кейстута) волі. І князь вялікі Кейстут адпусціў яго (Ягайлу) з маці і з братамі і з усім яго скарбам. ... Потым князь вялікі Кейстут пайшоў да Ноўгарадка Северскага на князя Карыбута, а сына свайго, вялікага князя Вітаўта, пакінуў у Вільні. Ідучы да Ноўгарадка Северскага, [князь вялікі Кейстут] загадаў павесіць Вайдылу"* [16].

З іншай крыніцы, "Скарбца..." Даніловіча даведваемся, што Кейстут выступіў супраць Карыбута і па дарозе напаў на Дуброўню, за 5 вёрст ад Ліды, схапіў тут Вайдылу і загадаў яго павесіць[17]. Але ёсць меркаванне, што Вайдыла ўжо раней уцёк у Прусію і знайшоў прытулак у крыжакоў. Адсюль ён мог кіраваць змовай супраць Кейстута ў 1382 г. і быць схопленым, калі патаемна вярнуўся ў ВКЛ[18].

Пра Вайдылу таксама пісаў і польскі гісторык Мацей Стрыйкоўскі.

## Далейшая гісторыя Ліды

14 жніўня 1385 г. у Крэўскім замку было падпісана пагадненне з Польшчай, вядомае зараз пад назвай "Крэўская унія". Ягайла мусіў ажаніцца з непаўналетняй 12-гадовай польскай каралеўнай Ядвігай (дачка польскага караля Людвіка Венгерскага, які не меў сыноў, і пасля яго смерці ў 1382 г. яна стала каралевай) і заняць польскі сталец. Узамен ён абавязваўся прыняць каталіцтва і ахрысціць у яго братоў, сваякоў і іншых падданых, вызваліць палонных хрысціян (палякаў), заплаціць 200 тыс. фларынаў за зрыў пагаднення аб шлюбе Ядвігі з Вільгельмам Габсбургам, вярнуць забраныя і назаўсёды далучыць свае землі да Каралеўства Польскага[19]. Ёсць меркаванне, што тэкст пагаднення з гэтымі ўмовамі вядомы толькі паводле пазнейшых, падробленых самімі палякамі спісаў[20].

12 лютага 1386 г. Ягайла прыбыў у Кракаў. Канчатковае зацвярджэнне уніі адбылося 15 лютага 1386 г., калі Ягайла быў ахрышчаны ў Вавельскім кафедральным саборы Кракава і з тых часоў афіцыйна выкарыстоўваў імя Уладзіслаў або яго лацінскую версію. 18 лютага адбылося вянчанне з дванаццацігадовай Ядвігай. 4 сакавіка Ягайла быў урачыста каранаваны архібіскупам гнезненскім Бадзантам і афіцыйна пачаў тытулавацца "каралём Польшчы, вярхоўным князем Літоўскім і дзедзічам Рускім", паклаўшы пачатак каралеўскай дынастыі Ягайлавічаў (Ягелонаў).

На наступны год адбыўся абрад сімвалічнага хросту літоўскіх паганцаў, які атрымаў назву Ягайлавага хросту: Ягайла з Ядвігай прыехалі ў Вільню, дзе знішчылі паганскія сімвалы (непагасны агонь у гонар Перуна, абагаўляных змей, высеклі святыя гаі), раздавалі новаахрышчаным белыя суконныя світкі, скураныя боты і грошы (таму асобныя паганцы хрысціліся па 2 разы і болей). У Вільні Ягайла выдаў дазвол на стварэнне каталіцкіх біскупства і 7 плябаніяў (прыходаў). 27 лютага 1387 года ў Вільні Ягайла надаў Віленскаму біскупству разам ў іншымі вёскамі лідскую вёску Дуброўна на рацэ Жыжма з прылеглымі землямі (недалёка ад сучаснай вёскі Біскупцы)[21]. Некаторыя гісторыкі лічаць, што верагодна цэнтрам Дубровенскай воласці была ўсё ж вёска Дуброўня, што пад Лідай[22].

Пасля Крэўскай уніі 1385 г. Ліда аказалася важным, бліжэйшым да Вільні населеным пунктам, каля якога ляжаў шлях ад сталіцы ВКЛ да польскай сталіцы Кракава. Такое геаграфічнае размяшчэнне Ліды разам з наяўнасцю добра ўмацаванага і да таго ж досыць камфартабельнага замкавага комплексу еўрапейскага

[15] Там жа. С. 141-142.

[16] Беларускія летапісы і хронікі. Мінск, 1997. С. 52.

[17] Skarbiec diplomatow papiezkich, cesarskich, krolewskich, ksiazecych, uchwal narodowych, postanowien roznych wladz i urzedow, poslugujacych do krytycznego wyjasnienia dziejow Litwy, Rusi Litewskiej i osciennych im krajow. Danilowicz Ignacy. Wilno, 1860. № 477, заўвага 8.

[18] Ліцкевіч А. У. Комплекс звестак "Летапісца вялікіх князёў літоўскіх" ... С. 152-153.

[19] Ліцкевіч А. // Вялікае княства Літоўскае. Энцыклапедыя. Т. 3. Мінск, 2010. С. 424-425.

[20] Насевіч В. Л. Пачаткі Вялікага Княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мінск, 1993. С. 125.

[21] Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wilenskiej. Krakow, 1939. Т. 1, z. 2. S. 4

[22] Ліцкевіч А. У. Комплекс звестак "Летапісца вялікіх князёў літоўскіх". С. 143-144.

тыпу, зрабіла горад месцам прыпынку Ягайлы ў яго частых паездках. Тут адбываліся важныя для абедзвух дзяржаў сустрэчы, перамовы, урачыстасці[23]. Усё гэта вабіла ў Ліду і хрысціянскіх місіянераў з захаду.

Верагодна, менавіта ў Лідскім замку вялікі князь Ягайла падпісваў дзяржаўныя дакументы, на якіх было ўказана, што яны былі падпісаны ў Лідзе. У 1387 г. Ягайла заклаў у Лідзе адзін з першых касцёлаў у ВКЛ. Ён перадаў яму вёску, якая зараз называецца Плябанцы, і даход з нейкай іншай воласці. Таксама Ягайла надаў яму зямлю "на 6 сох", 3 пляцы, лугі і корчмы, дзесяціну з усёй каралеўскай маёмасці ў Лідскім павеце і 6 рублёў. Гэты фундуш быў пацверджаны 7 ліпеня 1616 г. каралём Жыгімонтам III[24]. Касцёл знаходзіўся на падзамчы і згарэў у 1392 г. пры нападзе крыжакоў. У 1397 г. быў пабудаваны новы касцёл. Яго асвяціў віленскі біскуп Андрэй, які зноў адкрыў пры касцёле францішканскую місію, бо ранейшыя місіянеры гэтага ордэна былі хутчэй за ўсё забітыя або выгнаныя падчас нападу крыжакоў на Ліду ў 1394 г. І гэты касцёл згарэў у 1406 г.

Фрагмент прывілею касцёлу, дадзены Ягайлам, бярог сярод іншых дакументаў Лідскі пробашч. У дадатку да пятага тома "Старажытнай гісторыі літоўскага народа" Т. Нарбут змясціў тэкст гэтага прывілея, а таксама спіс пробашчаў Лідскага касцёла[25].

У Лідзе 10 студзеня 1389 г. Ягайла загадаў цівунам выплачваць дзесяціну закладзеным у ВКЛ касцёлам[26], 20 траўня 1397 г. Ягайла разам з сваім стрыечным братам Вітаўтам надаюць віленскаму біскупу Андрэю 200 грывен са свайго скарба і 10 мер мёду з Віленскага замка[27], а 3 чэрвеня таго ж года ў Лідзе браты дазваляюць біскупу Андрэю закласці кляштар меншых братоў (францішканаў) у Лідзе і высвеціць касцёл пад вызнаннем св. Крыжа і св. Францішка[28].

Надзвычай важным наступствам шлюбу Ягайлы і каралевы Ядвігі, стала аднаўленне, ці стварэнне ўніверсітэта, які да нашага часу мае назву Ягелонскі. Універсітэт, хоць і быў заснаваны ў 1364 г. па ініцыятыве польскага караля Казіміра III Вялікага, але пасля яго смерці стварэнне гэтай установы прыпынілася. 26 ліпеня 1400 Вялікі князь ВКЛ і кароль Польшчы Ягайла, дзякуючы падараванням каралевы Ядвігі, аднавіў дзейнасць універсітэта. Для беларускай моладзі таго часу Кракаў на доўгі час стаў самым блізкім месцам, дзе можна было атрымаць вышэйшую адукацыю.

Ужо ў сярэдзіне XV ст. на Лідчыне з'яўляюцца першыя бакалаўры гэтага ўніверсітэта[29]. І, нагадаю, ступень бакалаўра атрымаў у Кракаве вялікі беларус Францішак Скарына.

## Межы будучай гістарычнай Лідчыны

Гісторык Алег Ліцкевіч, прааналізаваў літоўска-крыжацкі дагавор 1379 г. і такім чынам апісаў абрысы мяжы паміж будучым Лідскім і Гарадзенскім паветамі. Сярод іншага ў дагаворы гэтак абазначана мяжа: *"Вось сёлы на мяжы паміж Пераломам і Гародняй: Мікуландорф (Miculandorf) Бутэнера (?) з Гародні; другое - Заблоцце (Sablocza), сяло Помена, паляка; трэцяе - Вялікае Сяло (Grosedorf), дзе сядзяць судовы (яцвягі); чацвёртае - Астрына (Astryne); пятае - Раміландорф (Ramylandorf); шостае - Кентыняны (Kentynane), і Тамянаны (Tatyanane), і Сукендорф (Sukendorf)"* [30].

Дзе "Мікуландорф" - в. Мікулішкі Шчучынскага раёна. Пра ўладальніка Мікулішак Ліцкевіч піша наступнае: *"Здаецца, вялікая літара, з якой у арыгінале пададзена гэтае слова, сведчыць аб тым, што "Бутэнер" - гэта прозвішча. Таму магчымы варыянт, што гэта быў немец на службе ў князя Кейстута. Больш нічога пра гэтага чалавека невядома. З іншага боку, "Beutner" у старанямецкай мове азначала "пасечнік, пчаляр" ... Таму ў дагаворы 1379 г. магла ісці гаворка пра тое, што сяло належала Мікуле, які быў гарадзенскім бортнікам (мабыць, плаціў мядовую даніну)"* [31].

Можна дапусціць, што пад "Забалаццю" маецца на ўвазе вёска Забалаць Воранаўскага раёна, ад якой на адлегласці 16 км жылі скалвы. Пра гаспадара Забалаці Помена можна сказаць, што польскі нобіль герба "Помян" у другой палове XIV ст. меў у гэтым раёне зямельнае ўладанне. Імя "Помен" падобна на назву польскага шляхецкага роду герба "Помян", гэты род ў XIV- XV стст. меў некалькі разгалінаванняў у Куяўскай і Серадзскай землях. Цікава, што паляк Помен, верагодна, першы польскі нобіль на службе ў літоўскіх князёў, якія яшчэ былі паганцамі, як Кейстут. У 1413 г. невядомы прадстаўнік гэтага роду адаптаваў у Га-

[23] Баравы Р. Ліда // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 196.

[24] Kurczewski Jan. Biskupstwo Wilenskie. Wilno, 1912. S. 208.

[25] Баравы Р. Ліда // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 197; Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага княства Літоўскага. Мінск, 2008. С. 233.; Narbutt T. Cokolwiek z historyi miasta Lidy // Narbutt T. Dzieje starozytne narodu litewskiego. T. 5. Wilno, 1839. Dodatek I. S. 1.

[26] Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wilenskiej. S. 28-29.

[27] Там жа. S. 51.

[28] Там жа.

[29] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. Ze studiow nad ksztaltowaniem sie i rozanicowaniem spolecznym bojarstwa litewskiego // SZ. Warszawa, Poznan, 1959. T. IV. S. 102.

[30] Ліцкевіч А.У. Гародня і Гарадзенскі рэгіён у другой палове XIII-XIV ст. назва і межы // Гарадзенскі палімпсет, 2012. Людзі старой Гародні. XV-XX ст. С. 36.

[31] Там жа. С. 38.

родле род літоўскага нобіля Станіслава Сака[32].

Вялікае Сяло (Grosedorf) - гэта сучасная вёска Вялікае Сяло Шчучынскага р-на. За 3 км на поўнач ад Вялікага Сяла ёсць вядомае нам гарадзішча Касцянёва, дзе стаяла памежная драўляная цвердзь Наваградскага княства, разбураная падчас вайны ў другой палове XIII ст.

Астрына - гэта сучасны пасёлак у Шчучынскім раёне. За 3 км на паўднёвы ўсход ад Астрыны, на беразе ракі Астрынкі, знойдзена гарадзішча Кульбачына. Тут памежная цвердзь Гарадзенскага княства, таксама, як і Касцянёва, знішчаная ў другой палове XIII ст.

Алег Ліцкевіч лічыць, што "наяўнасць побач з Астрыной і Вялікім Сялом рэшткаў старых памежных старажытнарускіх цвердзяў XIII ст. дазваляе меркаваць, што на гэтым адрэзку мяжа Гарадзенскага рэгіёна ў 1379 г. паўтарала канфігурацыю старажытнай мяжы былога Гарадзенскага княства" [33].

Лакалізацыя вёскі "Раміландорф" не высветлена, верагодна назва ўтварылася да імя нобіля-ўладальніка. "Сукендорф" - гэта, верагодна вёска Сухінічы Мастоўскага раёна.

Мяжа на лініі Мікулішкі - Забалаць - Вялікае Сяло - Астрына аддзяляла Гарадзенскі рэгіён ад Радунскай воласці, якая ў 1387 г. разам з іншымі валасцямі Троцкага рэгіёна была перададзена князю Скіргайлу Альгердавічу. А частка тэрыторыі на нашым, усходнім беразе Котры, якая паводле дагавора 1379 г. яшчэ належала да Гарадзенскага рэгіёна, у XV ст. увайшла ў склад асобнай Астрынскай воласці[34].

## Лідчына ў "Паведамленнях аб літоўскіх шляхах"

Важнай крыніцай па гісторыі ВКЛ і Лідчыны XIV ст. з'яўляецца "Паведамленне аб літоўскіх шляхах" ("Die Littauischen Wegeberichte"), якое было напісана на мяжы XIV-XV ст., напярэдадні Вялікай вайны ВКЛ і Польскага каралеўства з Тэўтонскім ордэнам. "Паведамленне аб літоўскіх шляхах" упершыню было надрукавана ў другім томе "Scriptores Rerum Prussicarum" у Лейпцыгу ў 1863 г. Гэты тэкст утрымлівае апісанне дарог праз тэрыторыю заходняй часткі ВКЛ, у большасці сваёй зробленае паміж 1385 і 1404 г. Шпіёнаў ордэна - Паўла, Урбана, Івана і Астапку ў першую чаргу цікавілі шляхі і гасцінцы для арміі, адлегласці паміж паселішчамі, наяўнасць вады і харчавання. Але часам яны ўзгадвалі імёны ўладальнікаў тагачасных беларускіх вёсак і двароў.

На тэрыторыі будучага Лідскага павета крыжакі адзначылі наступных уладальнікаў:

- **Васюту** (уладальнік вёскі на поўдзень ад Ражанкі: "Waisedendorf");

- **Гасцілку** (вёска "Hostilkandorf" на ўсход ад Гародні ў накірунку Ражанкі, верагодна, сучасныя Гасцілаўцы Лідскага раёна);

- **Куманта** (Ражанка);

- **Сангайлу** (Ліпічна);

- **Сцегявіла** (Жалудок і землі ўздоўж ракі Лебяды: "Stegewillen lant")[35].

Ніжэй прывяду пераказы (не рызыкую назваць гэта перакладамі, бо рабіў гэта сам) кавалка, датычнага Лідчыны.

**83. З Гародні ў Салешнікі, вяртаючыся праз Пералом.**

Перш за ўсё, з Гародні на другі бок возера (Белае), за 3 мілі ад замка. Ад Астрынскага замка, да Астрыны - 3 мілі, ёсць рака з назвай Котра, дзе шмат аховы. Адтуль да Васілішак - 2 мілі праз непрыгожы лес, тут вы можаце спыніцца на працягу 2 начэй і добра паляваць. Адтуль да Дубічаў - 5 міль добрай дарогі, тут ёсць паселішча і замак. Ад Эйшышкаў да Дубічаў - 3 мілі, яны знаходзяцца за адну мілю ад дарогі. Ад Эйшышак да Салешнікаў - 5 міль ... З Салешнікаў вярнуцца назад па пустцы ў 12 міляў у княскі двор у Пераломе; тут можна знайсці дастаткова корму. Пасля пераправы цераз раку Нёман мы вяртаемся на дарогу.

**86. Шлях з Прэвалкі** (населены пункт на Балтыцы - *Л.Л.*) **да Салешнікаў.**

Дарога праходзіць ад Прэвалкі да Салешнікаў. Першая ноч каля Стрэвінінкая (падаю сучасную назву), другая ў Шырвісе, у трэцюю ноч - у Эйшышках, чацвёртая - у Дворышчы, і пятая- каля Лідскага замка.

**87. Шлях ад Перапома на Бакшты.**

Першая ноч - у двары Мікулы (3 мілі ад Перапома). Другая ноч - праз 3 мілі ў Берштах каля ракі пад назвай Котра; трэцяя начоўка - праз 3 мілі ў Бакштах каля Новага Двара; чацвёртая ноч - праз 4 мілі ў Лідзе.

**88. Шлях ад Лютцана** (зараз Гіжыцко ў Польшчы) **у Астрыну.**

... праз 4 мілі ў Вількушы, дзе вы можаце павярнуць у патрэбным кірунку, і, калі вы хочаце ехаць у начны час, тады вам трэба праехаць 8 міль у бок Нёмана да каралеўскага двара Васілішкі або Астрына, дзе багатыя землі. ...

**89. Шлях ад Луцка да Астрыны.**

… затым Волкуш (вёска ў Аўгустоўскім павеце) - 4 мілі па адкрытым полі, адтуль - 4 мілі да Гародні, потым - 4 мілі да возера, маёнтка караля, потым - 4 мілі да Астрыны, нерухомасці караля. Далей - рака Котра, праз яе давядзецца пераходзіць. Адтуль вы можаце скіроўваць туды, куды патрэбна.

**90. Шлях ад Перапома да Эйшышак.**

... першая ноч будзе ў Пераломе, адтуль па дарозе - дзве вялікія мілі, корму дастаткова; далей ад-

[32] Ліцкевіч А.У. Гародня і Гарадзенскі рэгіён у другой палове XIII-XIV ст. назва і межы // Гарадзенскі палімпсест, 2012. Людзі старой Гародні. XV-XX ст. С. 38-39.

[33] Там жа. С. 40.

[34] Там жа. С. 41.

[35] Данскіх Сяргей. Вытокі шляхты ВКЛ: землеўладальнікі беларускага Панямоння // Герольд Litherland. 2004. № 3-4 (15-16). С. 110-112.

туль - за 4 мілі Берщы, шлях цвёрды і добры, але ёсць рака, якая называецца Котра, яна вельмі цяжка замярзае, ушыркі - 30 футаў, вакол шмат дрэў, і таму лёгка зрабіць мост. Пасля ракі яшчэ далёка да дарогі. Калі не жадаеце ісці сюды, тады вы павінны ведаць, што ёсць возера, з якога рака выцякае, праз яго вы можаце перайсці ў зімовы перыяд, калі яно замерзне. Ад Берштаў - дзве мілі да Бакштаў, адтуль будзе цвёрдая і добрая дарога. На шляху будзе рака, але вельмі малая, меншая, чым Котра, і яны гарантуюць, што праз яе таксама будзе мост. Ад Бакштаў за 2 мілі - Васілішкі, тут зямля багатая і добрая. Ад Васілішак праз 2 мілі знаходзіцца Забалаць, тут добрыя палі і вёскі. Ад Забалаці да Скалева - дзе мілі, там жывуць тыя, якіх паланілі каля Рагніта, ад аднаго сяла да іншага ёсць добрая дарога, але ёсць там і рака, якая завецца Пелясой, яна нешырокая, яны сцвярджаюць, што праз яе маецца мост. Ад Скалева далей праз 2 малыя мілі - Радунь. Тут прыгожы, багаты і густанаселены край. Ад Радуні праз $2\,^{1}/_{2}$ мілі знаходзяцца Эйшышкі; дарога добрая і зямля багатая.

**91. Дарога з Гародні ў Крэва.**

... Ад Гародні праз 3 мілі ўверх па рацэ Пыранцы. Тут таксама вы будзеце мець праз $1^{1}/_{2}$ мілі мост, тут паўсюдна добры корм. Адсюль праз 4 мілі - Астрына, каралеўская сядзібы, корм заўсёды добры; тут шырокае і адкрытае поле і некалькі рэк, але яны бясшкодныя. Далей дрэнны лес, яго лепей абыйсці і 3 мілі ехаць да Васілішак, тут добрая і пастаянная ежа і не перашкаджаюць рэкі. Адтуль да ракі Жыжма - 3 мілі, у вярхоўях ракі балота, якое не замярзае, таму тут цяжка зрабіць дарогу, але на рацэ ёсць добры мост, тут добрая і пастаянная ежа. Дарога ідзе праз прасторнае і зялёнае поле. Адтуль да Ліды - 2 мілі, лясы ці рэкі не перашкаджаюць. Адтуль да ракі ... - 3 мілі; калі яна не замерзла, дык вам трэба зрабіць мост, абодва берагі ракі добрыя, і тут знойдзецца корм. Адтуль праз $1^{1}/_{2}$ мілі - Ліпнішкі, вам нічога не патрабуецца, пастаянна ёсць яда, лясы ці рэкі не перашкаджаюць. Адтуль праз 3 мілі ў вёсцы дом, можна адпачыць, пастаянна ёсць харчаванне і добрая ежа; далей дарога праз добрае адкрытае поле, рэкі ці лес не замінаюць. Адтуль да Крэва - 3 мілі, добры край, няма праблем з харчаваннем і кормам.

Зваротны шлях. ... Адтуль, праз 3 мілі ўверх па рацэ Лебяда, край Сцегявілы, тут заўсёды добра і дастаткова корму. Вам трэба будзе зрабіць мост.

**93. ... да Турэйска і Гародні.**

... потым да Ваўкавыска - 2 мілі, тут можна правесці 2 ці 3 ночы, таму што ёсць пастаянная вада, а таксама добрая і прыгожая зямля; потым Дзярэчын - праз 4 мілі, вы не можаце паставіць тут лагер, бо няма вады. Праз 4 мілі адсюль - Слонім, тут не трэба марнаваць час, хаця зямля добрая і дастаткова вады, і тут можна стаяць 2 ночы. Праз 6 міляў адсюль - Збляны, тут трэба чакаць ноч і спаць у лесе ля Нёмана. Потым праз 4 мілі - Турэйск, тут досыць ежы і вады. Потым праз 4 мілі - Лядск, ёсць добрая вада і добры корм, потым Васілішкі - праз 3 мілі, тут добра і можна застацца на 2 ночы, таму што дастатковая колькасць вады. Праз 4 мілі адсюль - Астрына, тут ёсць вада, і тут добра; адсюль 3 мілі - да ракі, якая называецца Пыранка, тут зноў выходзім на добрую дарогу, і да Гародні - 4 мілі.

... Каб прайсці ад Ваўкавыска ў Гародню добрым шляхам, вы павінны ісці ад Ваўкавыска да Нёмана 4 мілі, дарога досыць добрая, і ёсць вада; затым праз 2 мілі - двор Куманта Ражанка, дзе вы можаце, пры жа-данні, жыць тры ночы ў палатках, вады і ўсяго неабходнага дастаткова; адтуль ісці да Лядска, так, як апісана вышэй.

**95. Прыпынкі па дарозе ў Наваградак.**

**Шлях да Наваградка.** Першая ноч - у Путрышках, другая - у Гасцілкавічах каля Юргена, трэцяя - на двары Куманта, чацвёртая - у двары Васюты, пятая - у Наваградку.

**96. Шлях да Ліды.**

Гэта яшчэ адзін шлях да Ліды. Першая ноч - у Путрышках, другая - у Астрыне, трэцяя - у вялікакняскай маёмасці Васілішкі, чацвёртая - у Лідзе.

**98. Прыпынкі на шляху з Гародні ў Наваградак.**

.... Трэцяя ноч - праз $1^{1}/_{2}$ мілі ад Ятвезі ў Ражанцы, двары Куманта, дастаткова корму і вады. Чацвёртая ноч - за 3 мілі ад Ражанкі, у двары Сцегявіла Шалутка (недзе каля Жалудка), дастаткова корму вады. Пятая ноч - за 2 мілі ад Шалуткаў каля Нёмана, дзе часта перапраўляюцца цераз гэтую раку ...

Ад Наваградка можа вярнуцца праз адно месца за $2^{1}/_{2}$ мілі, дзе ёсць дастаткова ежы і вады, але назву месца магістр не ведае. Другая ноч - у Лідзе, праз $2^{1}/_{2}$ мілі, тут дастаткова ежы і вады. Трэцяя ноч - праз 2 мілі на шляху ад Ліды, у двары Гарадзенскага ваеннага начальніка. Чацвёртая ноч - праз 2 мілі ў вёсцы Васілішках, прадуктаў харчавання і вады будзе дастаткова. Пятая ноч - за 2 мілі ад Васілішак ля возера ў Астрыне, вялікакняскай нерухомасці, ежы і вады будзе дастаткова. Шостая начоўка - за 3 мілі ад Астрыны, недалёка ад возера, у двары вялікага князя; далей - у Гародні...

**99. Дарога з Гародні ў Наваградак.**

... Ад Гародні да Гасцілкавага двара - 4 мілі, нічога не трэба правіць, і ўсё нязменна добра; ад двара Гасцілкі праз зялёнае поле без вёсак да Ятвеска - 4 мілі. Ад Ятвеска да двара Куманта - 2 мілі па нязменна добрай дарозе, не трэба расчышчаць і стамляцца. Ад двара Куманта праз 3 мілі - двор Сангайлы Ліпічна, дарога нязменна добрая, не трэба расчышчаць ці будаваць. Праз 4 мілі ад Ліпічны, недалёка ад Нёмана - сядзіба князя Збляны, пасля Зблянаў - добрая дарога. Адтуль да Наваградка - 8 міль ...

**100. Дарога ад Трабаў да Наваградка.**

... За 3 мілі ад Бярэзіны - Валожын, ёсць дастаткова ежы і вады; ад Валожына - за $1^{1}/_{2}$ мілі Пятроў бор, ёсць ежа і вада; ... праз 2 мілі ўверх (па Нёмане) ад Бакштаў - Любча, ёсць дастаткова ежы і вады, ад Любчы праз 2 мілі - Нягневічы, потым праз 2 мілі - Наваградак, ёсць дастаткова ежы і вады. З Наваградка можа пайсці ў Ліду, Ваўкавыск або Сталовічы .... [36]

[36] Scriptores Rerum Prussicarum. Die Geschichtsquellen der Preussischen Vorzeit bis zum Untergange der Ordensherrschaft. Bd. 2. Leipzig, 1863. S. 701-708.

## Персанажы Шэкспіра ў Літве

У 1388-1389 гг. княжанне Ягайлы ў Вялікім Княстве Літоўскім ускладнілася супрацьстаяннем з Вітаўтам, які быў абураны тым, што Скіргайлу былі нададзены ўладанні за кошт вотчыны Вітаўта. Выказваючы незадавальненне ліцвінскіх баяраў рэзкім узмацненнем інтэграцыі з Польшчай, Вітаўт зноў перайшоў на бок Тэўтонскага ордэна, чым распачаў другі эпізод грамадзянскай вайны ў Літве з намерам стаць вялікім князем. У абмен Вітаўт абяцаў перадаць ордэну Жамойць аж да Нявежы. Ягайла ў адказ Вітаўту пазбавіў яго Падляшша і Берасцейскай зямлі.

Вывучаючы войны ВКЛ з крыжакамі ў XIV ст., стала сустракаеш прозвішчы замежных і ў тым ліку ангельскіх рыцараў, якія ваявалі супраць нашых продкаў на баку Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў. Пачаўшы даследаваць тэму еўрапейскіх рыцараў у Прусіі ў XIV ст., я з цікавасцю зразумеў, што сярод іх былі вельмі вядомыя асобы.

У Прусіі пабывалі практычна ўсе арыстакраты Еўропы, яна як магніт вабіла шараговых ваяроў, жадаўшых стаць рыцарамі. Аднак з канца XIII ст. лік рыцараў-крыжакоў, якія прыбываюць у Прусію і Лівонію, пачаў памяншацца. У канцы XIII ст. Тэўтонскі ордэн усё радзей мог прапанаваць замежным рыцарам удзел у займальных наступальных дзеяннях. Часцей за ўсё прыезджыя ваяры маглі разлічваць на сумную залогавую службу, небяспечную і нецікавую партызанскую вайну. У 1330-ых гадах вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Лютар фон Браўншвейг (Luther von Braunschweig) прапанаваў план прыцягнення новых рыцараў у Прусію. Лютар сам быў адораным паэтам і заахвочваў аўтараў рэлігійных і гістарычных прац пісаць пра Тэўтонскі ордэн. Ён стварыў традыцыю, пры якой паходы супраць Літвы сталі неабходным складнікам рыцарскай галантнасці. Для гэтага была адроджана былая традыцыя святкавання Круглага стала караля Артура. Простыя ваяры з Еўропы пераконваліся ісці ваяваць у Прусію, удзельнічаць у "Reisen" (такім сярэднявечным эўфемізмам называліся вайсковая паходы). Важнае значэнне меў лік пасвечаных у рыцары па заканчэнні Reisen. Цырымонія пасвячэння ў рыцары стала неад'емнай часткай кожнага крыжовага паходу. Гонар яе правядзення аддавалі самому высакароднаму з прыезджых крыжакоў. Пасвячэнне адбывалася, як толькі хтосьці з кандыдатаў здзяйсняў годную дзею. Пасля гэтага Вялікі магістр запрашаў самых адважных ваяроў за стол, падобны Кругламу сталу караля Артура, і ўзнагароджваў найбольш адважных воінаў[37]. Французскі гісторык Эрнест Лавіс так апісаў гэтае мерапрыемства: *"У пышным шатры накрываўся круглы стол, за які садзіліся пры гуку труб і цымбал дзесяць прызнаных найадважных рыцараў, і імёны іх услаўляліся потым паэтамі ва ўсім хрысціянскім свеце. Гэтыя рыфмаваныя расказы таксама запальвалі мужнасць, як у мінуўшы час пропаведзь Пятра Пустэльніка або св. Бернара, і, дзякуючы ... гэтаму, існаванне Ордэна працягвала падавацца патрэбным"* [38].

У адрозненні ад рыцараў, якія ўдзельнічалі ў гэты ж час у Стогадовай вайне ў Францыі, матэрыяльная зацікаўленасць не была галоўнай для крыжакоў. У значнай ступені гэта тлумачылася беднасцю мясцовага насельніцтва ў параўнанні з астатняй Еўропай. Адзіным багаццем тут былі коні, у XIV ст. вялікі князь літоўскі Вітаўт меў 20.000 коней[39]. Тэўтонскія рыцары захоплівалі землі, а не рухомую маёмасць. Ордэн прыцягваў замежных удзельнікаў не грашыма, а рыцарскімі забавамі, банкетамі і адмысловымі знакамі рыцарскай гонару[40]. Эрнест Лавіс пісаў што воінаў вабіла цікаўнасць паглядзець зблізку на гэты ордэн, гонар рыцарства, панаваўшага на зямлі аднятай у няверных, а больш за ўсё пагоня за моцнымі ўражаннямі і цікавымі прыгодамі, аповядамі аб якіх можна было б потым займаць дам. Гэтыя далёкія паходы глыбока засталіся ў рыцарскіх норавах. Многія нямецкія песні пачынаюцца словамі: *"Жыў аднойчы рыцар, які паехаў у Прусію"*, многія французскія казкі захоўваюць нам успамін аб гаротным становішчы рыцара, які, прыняўшы ўдзел *"у святым паходзе ў Прусію"*, аказваўся ў становішчы ашуканага мужа[41]. Як прыклад адносінаў рыцарства Еўропы да крыжовага паходу ў Прусію, цікавы раман Антуана дэ ла Саль "Маленькі Жан дэ Сантрэ", які ўяўляе сабою амаль што навучальны дапаможнік для тых, хто прагнуў прысвячэння ў рыцары. Падобна таму, як гэта адбываецца ў сучасным спорце, у той час былі "прафесійныя" рыцары, якія выклікалі на бой супернікаў у чужых краях і блукалі ад аднаго двара правіцеля да другога ў пошуках праціўнікаў, якія прынялі бы іх умовы. Дзеля гэтага Жан дэ Сэнтрэ праехаў вялікую частку Еўропы, з Францыі ён адправіўся ў Арагонскае каралеўства, дзе гаспадар засыпаў яго падарункамі. Пазней ён пабываў пры двары імператара, які асабіста прысутнічаў на двубоях, дзе ён выступаў супраць нямецкіх рыцараў. Нарэшце, пярайшоўшы ад рыцарскіх гульняў да рэальнай вайны, ён адпраўляецца ў "крыжовы паход" у Прусію, дзе, нарэшце знаходзіць сабе славу.

Але ж падарожжа ў Прусію было занадта дарагім для бедных рыцараў, і таму Тэўтонскі ордэн выплачваў грашовыя субсідыі. Гэта ў значнай ступені

[37] Jonathan Riley-Smith, The Crusades, A Short History. New Haven. 1987. P. 214.

[38] Э. Лависс. История Тевтонского Ордена // Тевтонский орден. Москва. 2005. С. 64-65.

[39] Э. Лависс. История Тевтонского Ордена. С. 56.

[40] Keen Maurice. Chaucer's Knight, the English Aristocracy and the Crusades // English Court Culture in the Later Middle Ages. Ed. V. J. Scattergood and J. W. Sherborne. New York: St. Martin's. 1983. P. 45-61.

[41] Э. Лависс. История Тевтонского Ордена // Тевтонский орден. М. 2005. С. 62.

[42] Urban William. The Teutonic knights and Baltic chivalry. [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: https://www.jstor.org/stable/24448704?seq=1 - Дата доступу: 04. 09. 2020.

здымала грань паміж крыжакамі і наймітамі. Практыка выплачванні грашовых сум для праезду стала настолькі шырока распаўсюджанай, што нават Баварскі герцаг, адзін з найбагацейшых людзей у Святой Рымскай імперыі, прыняў грошы ад Ордэна за службу ў 1322 г.[42]

Зацішша ў Стогадовай вайне выклікала прыток французскіх, бургундскіх і ангельскіх рыцараў. Маршал Францыі Жан Бусіко (Jean Boucicaut) асабіста ўдзельнічаў у чатырох кампаніях на баку Ордэна і арганізаваў абарону сем'яў крыжакоў у Францыі ад разбойнікаў, пакуль мужчыны ваявалі ў Прусіі. З 1329 г. ангельскія рыцары пачалі рэгулярна ўдзельнічаць у зімовых або летніх наездах (Reisen) на Літву. Перыяды найбольшай актыўнасці былі, калі наступалі перамір'і ў Стогадовай вайне, асабліва ў 1347-52, 1362-68, і 1390-98 гг. Напрыклад у 1362-68 гг. ангельскія рыцары са сваімі атрадамі, амаль штогод ваявалі ў Прусіі. Кульмінацыя актыўнасці - паміж лістападам 1367 г. і лютым 1368 г., калі каралеўскія ліцэнзіі на ўдзел у вайне ў Прусіі былі прадстаўлены чатырнаццаці рыцарам і іх атрадам, у суме - дзевяноста сем ваяроў. Напрыклад, тры сыны графа Уорвіка (Warwick) адпраўляліся ў паход з дзевяццю эсквайрамі[43] і дваццаццю ёменамі[44], пры трыццаці конях і з адной тысячай марак на выдаткі, а Уільям Далезон, эсквайр (William Dalleson, esquire) - у суправаджэнні аднаго ёмена, павінен быў выдаткаваць трыццаць марак. Для некаторых экспедыцыя ў Прусію стала звычкай. Томас Уфард, сын Роберта, графа Суфолка (Thomas Ufford, son of Robert, earl of Suffolk), ваяваў на баку тэўтонскіх рыцараў у 1348, 1362, 1365 гг. і, магчыма, у 1352 г. Сэр Томас Бойнтан (Sir Thomas Boynton) упершыню ўдзельнічаў у ваеннай кампаніі ў Прусіі яшчэ падлеткам у 1362 г. і паўторна ўзімку 1367-68 гг. Тады ж Х'ю Дэспансер (Hugh Despenser) атрымаў першую ліцэнзію на ўдзел у Балтыйскім крыжовым паходзе, яшчэ раз ён ваяваў у Прусіі і Літве ў 1383 г. У 1360-х гг. у крыжовых паходах у Прусію ўдзельнічалі рыцары з усіх рэгіёнаў Англіі і з розных узроўняў дваранства. Ад графа Уорвіка ў 1365 г. і яго сыноў у 1367-68 гг. і ягонага ўнука на пачатку 15 ст. і графа Хераформа (earl of Hereford) у 1363 г. і да правінцыйных дваран, накшталт Джэфры Скроўпа Машэма (Geoffrey Scrope of Masham) з Ёркшыра, забітага ў Літве ў 1362 г. Або Рычарда Волдагрэва (Richard Waldegrave) з Суфолка, які з графам Херафордам удзельнічаў у паходзе да Віслы ў 1363 г. У балтыйскіх крыжовых паходах удзельнічала мноства высакародных сем'яў Англіі (Beauchamps, Uffords, Bohuns, Percies, Despensers, Fitz Walters, Beauchamps, Scropes, Courtenays, Montagues, Counenay)[45]. **Генры Персі** (Henry Percy), знакаміты Хотспур (Hotspur), сын першага графа Нартумберленда (first earl of Northumberland), пра якога падрабязней я распавяду далей, быў у Балтыйскіх крыжовых паходах у 1383 г.[46] і, верагодна, пад Лідай у 1392 г.[47]

**Кароль Генрых IV (Граф Дэрбі)**. Самы вядомы ангельскі ваяр, які стаў прататыпам рыцара ў "Кентэрберыйскіх аповядах" самага значнага ангельскага паэта Сярэднявечча Джэфры Чосера (1344-1400)[48] і героем трагедый Вільяма Шэкспіра "Рычард II" і "Генрых IV", быў граф Дэрбі, будучы кароль Англіі Генрых IV. Крыніцай сюжэту для Шэкспіра з'явіліся некалькі ананімных п'ес і летапісы Халіншэда, з якімі, аднак, Шэкспір абышоўся вельмі вольна. П'еса пра валадаранне Генрыха IV складае сярэднюю частку тэтралогіі, пачаткам якой з'яўляецца "Рычард II", а канцом - "Генрых V". Усе яны звязаны паслядоўнасцю гістарычных падзей і супольнасцю некаторых персанажаў. Дзеянне п'есы разгортваецца ў Англіі пачатку XV ст., калі каралеўская ўлада сцвярджала сябе ў барацьбе з феадаламі[49].




***Генрых IV Балінгброк (Henry IV Bolingbroke)***

[43] Эсквайр - ангел. esquire, ад лацінскага scutarius - шчытаносец, у сярэднявеччы - збраяносец рыцара, пазней тэрмін "эсквайр" часта ўжываецца як раўназначны тэрміну "джэнтльмен".

[44] Ёмен (yeomen) - у той час у Англіі так зваліся дробныя землеўласнікі, якія самастойна апрацоўваюць зямлю.

[45] Christopher Tyerman. England and the Crusades, 1095-1588. The university of Chicago press. 1988. P. 268.

[46] Maurice Hugh Keen. Nobles, Knights, and Men-at-arms in the Middle Ages. The Hambledon Press, 1996. P. 122.

[47] Narbutt Teodor. Dzieje staro?ytne narodu litewskiego. Wilno. 1839. T. 5. S. 482.

[48] Maurice Keen. Chaucer's Knight, the English Aristocracy and the Crusades. [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: http://www.wsu.edu:8080/~hanly/chaucer/coursematerials/interactive/6514.4214.html - Дата доступу: 04. 07. 2010.

[49] Аникст А. Шекспир. Москва., 1964 . [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: http://william-shakespeare.ru/books/item/f00/s00/z0000000/index.shtml - Дата доступу: 04. 09. 2020.

Генрых IV Балінгброк (Henry IV Bolingbroke), вядомы таксама як Генрых Ланкастар, ангельскі кароль, заснавальнік Ланкастарскай галіны дынастыі Плантагенетаў. Генрых, старэйшы сын Джона Гонта (герцага Ланкастара, 4-га сына Эдуарда III) і яго першай жонкі Бланш (прапраўнучкі ангельскага караля Генрыха III), нарадзіўся ў замку Балінгброк за 20 км на поўначы ад Бостана ў 1367 г., верагодна, у красавіку.

У дзесяць гадоў яму быў нададзены тытул графа Дэрбі і самая ганаровая ўзнагарода ў каралеўстве - Ордэн Падвязкі. У 1380 г. ён ажаніўся з адной са спадчынніц графа Хэрафорда, Марыяй Багун, і ў 1384 г. пераняў і гэты графскі тытул (з 1397 г. Генрых стаў 1-м герцагам Хэрафордам).

У 1387 г. падчас адсутнасці свайго бацькі ў Англіі, Генрых Балінгброк увайшоў у змову з чатырма іншымі лордамі, абуранымі тыраніяй ягонага стрыечнага брата - караля і злоўжываннямі каралеўскіх фаварытаў. Спачатку апелянтам удалося дабіцца поспеху: фаварыты караля былі асуджаны парламентам за здраду, а сам кароль быў пастаўлены пад кантроль Рады. Аднак, вярнуўшыся ў 1389 г., Джон Гонт ўстаў на абарону свайго пляменніка - караля і змог на час пагадніць апанентаў[50].

Прысвяціўшы сябе рыцарскім подзвігам, з 1390 г. па 1393 г. Генрых правёў у крыжовых паходах, вандраваў па Цэнтральнай Еўропе, дабраўся да Венецыі, пабываў на Кіпры і ў Палестыне.

У 1390 г. Генрых вырашыў далучыцца да крыжовага паходу ў Літву, у якім удзельнічалі французскія рыцары. Бацька, Джон Гонт, даў яму 3533 фунты на выдаткі. Былі нанятыя караблі з Данцыга, каб перавезці трыста ангельскіх ваяроў. 20 ліпеня 1390 г. экспедыцыя выходзіць з Бостана і праз тры тыдні высаджваецца ў Памераніі. Дэрбі прыйшоў у Данцыг 10 жніўня, а 16 жніўня прыбыў Кёнігсберг[51]. Прускія гісторыкі прызнаюць добрую службу hraf Henrich von Derby і яго паплечнікаў[52].

Магістр Энгельгард Рабэ сумесна з Вітаўтам і лівонскімі рыцарамі рыхтаваўся да вайсковага паходу. У жніўні, пасля прыбыцця добраахвотнікаў з Англіі і Францыі, падрыхтоўка для вайны ў Прусіі была скончана.

Войска выступіла пад камандаваннем магістра Энгельгарда Рабэ (Engelhard Rabe), бо Вялікі магістр Конрад Цольнер (Konrad Zolner) быў цяжка хворы. Французамі камандаваў рыцар Бусіко, сын маршала Францыі.

Пад Коўняй злучыўся з галоўнымі сіламі магістр Інфляндскі са сваімі рыцарамі.

Мэтай паходу быў захоп Вільні і ўзвядзенне на велікакняскі пасад Вітаўта.

Пад замкам Вісельвальдэ (Wissewalde), недалёка ад старой Коўні, са сваім войскам чакаў Скіргайла. Было вырашана бараніць пераправы.

Але магістр з атрадам адборных рыцараў, абыйшоўшы Скіргайлу з поўначы, пераправіўся цераз раку ўброд і раптам напаў на ліцвінскае войска і разграміў яго. Гэтая бітва адбылася ля мястэчка Віжуны. Скіргайла страціў сто чалавек. Рыцары ўзялі ў палон трох руска-літоўскіх князёў: Сымона сына Яўнута, Глеба Святаслававіча Смаленскага і Глеба Канстанцінавіча Чартарыскага (па версіі Стрыйкоўскага гэтыя князі былі забітыя) і адзінаццаць баяраў. Перамогу крыжакі адсвяткавалі шумным баляваннем.

Скіргайла з часткай свайго войска замкнуўся ў замку Вісельвальде, другая частка войска адступіла да Вільні. Недалёка ад Вільні, пад Веркамі, адбылася другая бітва, у якой ліцвіны зноў атрымалі паразу і адступілі ў Вільню.

4 верасня 1390 г. аб'яднаныя сілы крыжакоў і Вітаўта абклалі Вільню. Адначасова па рэках Нёмане і Віліі былі дастаўленыя харчовыя прыпасы і ваенны рыштунак.

Крыжакі мелі перад сабою тры магутныя цвердзі: Верхні і Ніжні Замак і Крывы Горад. Крывы Горад складаўся з драўляных хат і быў акружаны магутнымі палісадамі і равамі[53]. Верхні замак абараняў польскі гарнізон пад камандай Мікалая Маскажэўскага (Mikolaj Moskorzewski), падканцлера польскага. Абаронай Крывога Горада кіраваў князь Карыгайла (Казімір), родны брат Ягайлы. Міхал Балінскі цытуе данясенне, напісанае некім з палякаў на старанямецкай мове: *"... абклалі Вільню, найболей моцна ўмацаваны горад у краях Літоўскіх, які складаецца з трох градаў з залогамі. Адзін з іх - Крывы Замак, у якім сабралася некалькі тысяч ваяроў, старых і люду паспалітага, як для абароны замка, так і для захавання свайго жыцця. У гэтым замку мёў даводства над залогай наш брат найбліжэйшы Пан Казімір"*. Вітаўт са сваімі жмудзінамі бок аб бок з графам Дэрбі і ангельскай пяхотай абклаў Крывы горад, немцы і французы - Верхні Замак. Усе вайсковыя кідальныя машыны праціўніка пачалі абстрэл Вільні з мэтай запаліць горад[54].

6 верасня пачаўся агульны штурм падпаленага горада. Верагодна, прыхільнікі Вітаўта адчынілі вароты горада, і непрыяцель уварваўся ў яго, забіваючы ўсіх. Длугаш[55] лічыў, што галоўнай прычынай падзення добра ўмацаванага горада была здрада. Ягайла пісаў: *"...у гэтым замку, такі быў лік узброеных людзей, што сілай узяць яго было немагчыма, - толькі здрадай і падманам..."*, пасля ўварвання крыжакоў у Крывы Горад, як піша далей Ягайла, *"...там такая*

[50] Голдсмит. История Англии. Глава XVI. Генрих IV. [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: http://silonov.narod.ru/parents/engl16.htm - Дата доступу: 04. 09. 2020.

[51] Die Chronik Wigands von Marburg. Hrsg. von T. Hirsch // Scriptores rerum Prussicarum. Bd. 2. Leipzig, 1863. P. 789.

[52] Voigt J. Geschichte Preussens. Bd 5. P. 541.

[53] Голубович В., Голубович Е. Кривой город - Вильно // Краткие сообщения Института истории материальной культуры. Вып. 11. М.- Л., 1945. С. 114.

[54] Balinski M. Historya miasta Wilna. Wilno. 1836. T.1. S. 129-134.

[55] Jana Dugosza Kanonika Krakowskiego. Dziejow polskich ksieg dwanascie. T. III. Ks. IX, X. Krakow, 1868. S. 465.

*пачалася разня, падчас пажару ў гэтым замку, што шмат тысяч людзей шляхетнага роду, нават князёў, а потым і шляхты, і чэрні без літасці было забіта"*[56]. Балінскі цытуе ангельскага аўтара хронікі Уолсінгема (Walsingham), які славу частковага здабыцця Вільні аддае графу Дэрбі і піша пра 4000 забітых ліцвінаў[57]. Паніка і вялікая колькасць шукаўшых паратунку людзей не далі магчымасці Карыгайлу выратавацца ў Верхнім Замку. Ён быў забіты. Длугаш пісаў: *"... полымя з-за варожага прыступу нельга было спыніць, князь Казімір, інакш Карыгайла, родны брат польскага караля Уладзіслава, кідаецца ўцякаць з агню, але трапляе жывым у рукі ворагаў, якія ў вялікім мностве атачалі падпалены замак, і адразу ж падае абезгалоўлены; насадзіўшы галаву забітага на доўгую дзіду, ворагі паказваюць яе для застрашвання абаронцаў Верхняга замка, пераконваючы іх здацца і здаць замак ..."* [58]. У лісце камтура ордэна аб выніках штурму напісана: *"Пасля першага штурму войска крыжакоў апанавала драўляны замак, у якім было забіта тысячы людзей і згарэла шмат ваяроў пешых і конных з некалькімі русінскімі князямі, а менавіта аднаго з братоў Польскага караля Карыгайлу, у тым замку ўзята ў палон некалькі тысяч людзей рознага веку"* [59]. Балінскі адзначае, што пазней, вялікі князь ВКЛ Вітаўт надаў вялікія фундушы Віленскаму капітулу за душу свайго стрыечнага брата[60].

Верхні замак не быў узяты і трымаўся 5 тыдняў. Маскажэўскі выгнаў з замка ўсіх, хто мог быць людзьмі Вітаўта[61].

Длугаш піша аб 14 000 забітых, Фойгт, спасылаючыся на хроніку Віганда, гаворыць аб 7000 забітых[62].

Крыжакі разышліся па цэлым краі. Дзе пабываў у гэты час граф Дэрбі, не вядома.

У лістападзе з Польшчы падышоў Ягайла з польскім войскам, але да гэтага часу крыжакі адступілі, і ўзімку 1391 г. Ягайла адступіў у Польшчу.

20 кастрычніка Дэрбі вярнуўся ў Кёнігсберг, дзе заставаўся да 9 лютага 1391 г., наладзіўшы вялікі банкет паміж Калядамі і Трыма Каралямі на ангельскі манер. Затым ён вярнуўся ў Данцыг і застаўся там да канца Вялікадня 1391 г., пры гэтым атрымаў падарункі ад новага магістра, Конрада фон Валенрода, і вёў перамовы з Польшчай аб абмене двух палонных ангельскіх рыцараў[63]. Тым часам, пачаліся сваркі паміж ангельцамі і шатландцамі, што дайшлі да двубою, у якім быў забіты вядомы шатландскі рыцар Вільгельм Дуглас (Wilhelm Douglas). Двубоі былі гэтак жа паміж ангельцамі і французамі. Гэта вымусіла Вялікага магістра забараніць двубоі ў ваенны час[64]. Выкупіўшы палонных, граф Дэрбі атрымаў ад папы Баніфацыя IX вызваленне ад крыжацкага зароку і ў канцы сакавіка прыплыў у Англію. 30 красавіка граф прыбыў у Лондан, 3 лістапада выступіў у парламенце[65].

Ангельская дапамога таксама спынілася з-за таго, што іх рыцары патрабавалі, каб менавіта яны неслі сцяг св. Георгія, хоць, традыцыйна гэты сцяг заўсёды неслі немцы. Акрамя таго граф Дэрбі ўмяшаўся ва ўнутраныя справы ордэна, патрабуючы палепшыць магчымасці ангельскіх купцоў гандляваць у Прусіі. Раздражнялі немцаў таксама і сталыя бойкі ангельцаў з шатландцамі. У цэлым ангельцы сталі прычыняць больш праблем, чым каштавала іх дапамога. У 1394 г. Вялікі магістр Ордэна адказаў адмовай на афіцыйны ангельскі запыт аб удзеле ў паходзе гэтага года, і пасля 1394 г. ангельскія рыцары рэдка згадваюцца ў хроніках аб Прусіі. Трэба адзначыць, што французскія рыцары карысталіся большай павагай з боку ордэна, іх заўжды было болей за англічан, і яны не ўмешваліся ў камерцыйныя справы ордэна з патрабаваннем прэферэнцый для французскага гандлю. Французскія рыцары традыцыйна былі больш аддадзеныя рыцарскаму кодэксу паводзінаў, і, як гэта неаднаразова было падчас Стогадовай вайны, вялі сябе пад час рэальных баявых дзеянняў, як на рыцарскім турніры[66]. У 1394 г. пры аблозе Вільні насуперак волі Вялікага магістра ордэна французскія рыцары выклікалі на двубой польскіх рыцараў, вінавацячы іх у дапамозе язычнікам. Длугаш пісаў аб гэтым: *"Пакуль доўжылася аблога, паміж рыцарамі абедзвюх бакоў узнікалі частыя спрэчкі і лаянкі: французы вінавацілі палякаў у тым, што тыя аказваюць дапамогу варварам супраць вернікаў; палякі ж пярэчылі, што паступаюць свята і набожна, бо дзеля веры сталі на абарону новаахрышчаных супраць ілжэзмагароў за веру. Абодва бакі ўмовіліся, што ў доказ справядлівасці сваёй справы як палякі, так і французы ўступяць у рыцарскі двубой пры двары Венцаслава (у той час караля Чэхіі) у Празе ў прызначаны дзень у роўным ліку, па чатыры рыцары з кожнага боку. Калі прыйшоў гэты дзень, абодва бакі выканалі ўмову, а мена-*

[56] Голубович В., Голубович Е. Кривой город - Вильно. С. 117.
[57] Balinski M. Historya miasta Wilna. T. 1. S. 136.
[58] Jana Dugosza Kanonika Krakowskiego. Dziejow polskich ksieg dwanascie. T. III. Ks. IX, X. S. 465.
[59] Voigt J. Geschichte Preussens. Bd 5. P. 545.
[60] Balinski M. Historya miasta Wilna. T.1. S. 138.
[61] Balinski M. Historya miasta Wilna. T.1. S. 143.
[62] Voigt J. Geschichte Preussens. Bd 5. P. 548.
[63] Thomas Frederick Tout. Henry IV. [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: http://www.thepeerage.com/e36.htm - Дата доступу: 04. 09. 2020.
[64] Balinski M. Historya miasta Wilna. T.1. S. 146.
[65] Thomas Frederick Tout. Henry IV. [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: http://www.thepeerage.com/e36.htm - Дата доступу: 04. 09. 2020.
[66] Urban William. The Teutonic knights and Baltic chivalry. [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: https://www.jstor.org/stable/24448704?seq=1 - Дата доступу: 04. 09. 2020.

*віта: калі прыбылі чатыры рыцары з боку караля Уладзіслава, Ян з Влошчава, кашталян добжынскі, Мікалай з Вашмунтова, Ян з Здакова і Яраслаў Чэх, з боку ж французаў чатыры рыцары з'явіліся ў Прагу, яны адправіліся ў сад пры звярынцы, каб засведчыць рыцарскую сілу і шчасце. Аднак па загадзе Венцаслава, караля Чэхіі ... праціўнікі былі ўтрыманы ад сутычкі і прыведзены, француз у пары з палякам і паляк з французам, да каралеўскага стала, дзе іх спачатку пышна прынялі і пачаставалі, а затым кароль Венцаслаў, выступіўшы як пасярэднік, памірыў іх і прывёў да згоды"* [67].

У ліпені 1392 г. граф Дэрбі, зноўку адплыў у Прусію. Высадзіўшыся ў Памераніі, ён прыбыў у Данцыг 10 жніўня. Тут ягоныя ваяры забілі немца і былі настолькі агрэсіўныя, што Тэўтонскі ордэн быў рады пазбавіцца ад "памагатых". Паўдзельнічаць у новым наездзе на Літву не ўдалося, і Дэрбі паслаў большасць сваіх ваяроў дахаты, а сам 23 верасня пачаў паломніцтва ў Святую Зямлю. Кніга ягоных грашовых выдаткаў паказвае нам маршрут. Граф пабыў у Празе з 13 да 25 кастрычніка 1392 г., правёўшы тры дні з каралём Венцаславам у ягоным замку; правёў першыя чатыры дні лістапада ў Вене, ведучы перамовы з эрцгерцагам Альбрэхтам III і Жыгімонтам Вугорскім. Прыбыў у Венецыю 29 лістапада. Адсвяткаваў Каляды ў Зары каля Канстанцінопаля, адплыў на востраў Радос, адкуль прыбыў у горад Яфа. З Яфы з адным аслом, загружаным правізіяй, наведаў Ерусалім. З Ерусаліма ў лютым граф Дэрбі адплыў на Кіпр, дзе, магчыма, сустрэўся з Генры Персі (Хотспурам), які прыкладна ў гэты час таксама быў на Кіпры[68]. Вярнуўся ў Венецыю ў канцы сакавіка 1393 г., да 13 траўня жыў у Мілане. Далей праз Павію, 22 чэрвеня прыбыў у Парыж. У Лондан граф прыехаў 5 ліпеня і там старанна маліўся ў цэрквах[69].

А ў верасні 1392 г. пачалася яшчэ адна велізарная выправа рыцарскай Еўропы на чале з магістрам ордэна Конрадам Валенродам (абраны на гэты пост у 1391 г.)[70]. Але гэта не з'ўляецца нашай тэмай.

* * *

Ангельскі Кароль Рычард II так і не дараваў апелянтам. У 1398 г., пасля таго як Генрых і яшчэ адзін былы апелянт, герцаг Норфалк, спрабавалі развязаць сваю асабістую спрэчку двубоем, абодва рэвалі былі па загадзе караля выгнаны з Англіі. У наступным годзе памёр герцаг Ланкастарскі (Джон Гонт), бацька нашага героя. Рычард II канфіскаваў вялікія ўладанні герцага, якія павінны былі адысці графу Дэрбі.

Генрых нечакана апынуўся на чале ўсіх незадаволеных тыраніяй караля лордаў. Скарыстаўшыся адсутнасцю Рычарда (кароль узначаліў паход у Ірландыю), Генрых і яго паплечнікі ў ліпені 1399 г. высадзіліся ў Англіі і рушылі на Лондан. Паспешна вярнуўшыся, кароль Рычард II не змог аказаць годны супраціў. У жніўні кароль быў узяты ў палон і пасаджаны пад арышт у замку Пантэфракт. Спадзеючыся захаваць жыццё, Рычард падпісаў адрачэнне ад пасаду. Аднак у 1400 г., пасля каранавання графа Дэрбі як Генрыха IV, Рычард быў забіты.

Неўзабаве Генрых усвядоміў, што атрымаць карону значна прасцей, чым захаваць яе. Першыя дзесяць гадоў прайшлі ў барацьбе. Спачатку ў студзені 1400 г. ён разграміў прыхільнікаў у той час яшчэ жывога Рычарда II. З 1403 г. па 1408 г. Генрых вёў барацьбу з адной з самых магутных сямей Англіі - Персі.

З 1408 г. здароўе Генрыха IV прыкметна пагоршылася, гісторыкі мяркуюць, што ў караля была праказа. Парой ён зусім не мог займацца дзяржаўнымі справамі. У перыяд з 1410 г. па 1411 г. ад імя бацькі краінай кіраваў ягоны сын - прынц Валійскі. Узніклі супярэчнасці паміж бацькам і сынам, яны выраслі ў сапраўдны канфлікт. Пры ангельскім двары пачалася барацьба за ўладу паміж хворым каралём і маладым прынцам. У 1412 г. кароль, узяўшы кіраванне краінай у свае рукі, вымусіў прынца пакінуць каралеўскую раду. Але 20 сакавіка наступнага года Генрых IV памёр, молячыся ў Вестмінстэрскім абацтве. Пахаваны ў Кентэрберы[71].

**Генры Персі Хотспур.** Нартумберленды (Northumberland) - лінія графаў, а пасля герцагаў з сямейства Персі. Нартумберленды пакінулі прыкметны след у гісторыі Англіі.

Персі мелі значныя ўладанні ў Паўночнай Англіі. Першыя свае маёнткі, якія знаходзіліся ў Ёркшыры, яны атрымалі яшчэ з рук Вільгельма Заваёўніка за заслугі ў Нармандскай заваёве. На поўдні Персі валодалі графствам Дарэм.

Землі Персі размяшчаліся таксама на прымежнай тэрыторыі Шатландыі, што давала Персі, падобна шэрагу іншых лордаў, дадатковыя магчымасці для палітычнага манеўравання паміж Лонданам і Эдынбургам.

Традыцыйна Персі займалі пасаду намеснікаў памежных земляў, іх абавязкам было ахоўваць ангельскія тэрыторыі, якія межавалі з Паўднёвай Шатландыяй. Першы граф Нартумберленд (1342-1408) Генры лорд Персі, чацвёрты барон Персі, бацька Хотспура, быў першым прадстаўніком свайго клана, чые дама-

[67] Jana Dugosza Kanonika Krakowskiego. Dziejow polskich ksieg dwanascie. T. III. Ks. IX, X. S. 466-467.

[68] Richard Kyngeston, Lucy Toulmin Smith. Expeditions to Prussia and the Holy Land Made by Henry Earl of Derby, 1894. P. 311.

[69] Thomas Frederick Tout. Henry IV. [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: http://www.thepeerage.com/e36.htm - Дата доступу: 04. 09. 2020.

[70] Balinski M. Historya miasta Wilna. T. 1. S. 145.

[71] Голдсмит. История Англии. Глава XVI. Генрих IV. [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: http://silonov.narod.ru/parents/engl16.htm - Дата доступу: 04. 07. 2010.

[72] NORTHUMBERLAND. [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: http://www.rootsandleaves.com/family/Burke's/NORTHUMBERLAND.htm - Дата доступу: 04. 07. 2010.



***Гары Хотспур***

ганні распасціраліся далей уласных уладанняў і традыцыйных рэгіянальных канфліктаў з іншымі сем'ямі. Ён вёў сваё паходжанне ад сэра Вільгельма дэ Персі (каля 1030-1096), нармандскага барона, прыбыўшага ў Англію з Вільгельмам I Заваёўнікам у 1066 г. Ледзі Мэры - маці першага графа Персі была дачкой герцага Генры Ланкастара, чый бацька Эдмонд быў другім сынам караля Генрыха III.

У 1377 г. сэр Генры Персі стаў маршалам Англіі і першым графам Нартумберлендам.

Сэр Генры Персі (20 траўня 1364 (1366?) - 21 ліпеня 1403), таксама вядомы па мянушцы "Гары Хотспур" (Harry Hotspur, Гарачая Шпора - Падшыванец), быў старэйшым сынам Генры Персі, 1-га графа Нартумберленда. Яго маці - Маргарэт Нэвіл, дачка Ральфа Нэвіла, 2-га барона Навіла дэ Рэбі (1291 - 1367) і Алісы дэ Адлей.

Гары Хотспур пасвечаны ў рыцары каралём у Віндзоры 23 красавіка 1377 г. У якасці збраяносца суправаджаў свайго бацьку пры ўзяцці замка Бервік 1378 г.[72]

Ужо ў 1383 г. Гары Хотспур першы раз прымае ўдзел у крыжовым паходзе ў Літву[73]. Хотспур унесены у спісы (The Calendar of the Patent Rolls) тых, каму дазволена ў гэты час выехаць за мяжу ў крыжовы паход[74]. У той год ў верасні вялікае войска крыжакоў, пад камандай Вялікага магістра Кондрада Цольнера выступіла на Літву. З імі ішла літоўска-жмудская харугва Вітаўта. На тэрыторыі Літвы да Вітаўта далучылася шмат прыхільнікаў.

Войскі рухалася дзвюма дарогамі і 11 верасня сабралася каля Трокаў. У Трокскім замку была моцная залога з ваяроў Скіргайлы, якія мелі ўсё неабходнае для абароны. Крыжакі ўжылі аблогавыя прыстасаванні. Ім удалося праламаць сцяну замка. Залога дамовілася з крыжакамі аб бесперашкодным выхадзе і пакінула замак, пасля чаго ён быў прыведзены ў належны стан і Вітаўт пакінуў у ім сваю залогу, да якой Вялікі магістр дадаў 60 сваіх ваяроў. Кашталянам замка прызначылі крыжака Яна Рабэ. Па Літве пайшла гаворка аб узяцці Вітаўтам Трокаў, і шляхта, якая служыла яшчэ яго бацьку, пачала сцякацца пад сцягі Вітаўта. Пасля ўзяцця Трокаў падышлі крыжакі з Ельблонга, Балгі, Брандэнбурга і Хрыстбурга. Гэтае войска высунулася да Вільні. Пасля цяжкіх баёў на подступах 18 верасня крыжакі ўвайшлі ў прадмесці горада і запалілі яго[75]. Віганд так апісвае штурм горада: *"На наступны дзень войска спяшаецца да Вільні, і магістр высылае наперад 4-х камандораў, ... , каб спалілі, горад русінаў, як здолеюць. І адбываецца там бітва на мосце. Шматлікія ліцвіны адбілі хрысціянаў, але і хрысціяне ў сваю чаргу адбілі ідалапаклоннікаў, сякучы іх і ўдараючы. У трэці раз ідалапаклоннікі, прыкметна ўзмацніўшы свае шэрагі, прагналі хрысціянаў, а аднаго брата [Ордэна] да смерці пранізала страла, іншага раніла. Горад згарэў. Спадар Хуберт з Зэндзендорфа нёс сцяг святога Георгія. Пасля 3-х гадзін магістр са шматлікімі крыжакамі зняліся і адышлі да Нярыса, і войска падзялілася. Хрысціяне спяшаюцца на караблі, каля якіх не былі 11 дзён, і разам з магістрам цэлыя ўступаюць у Прусію"* [76].

Вялікі магістр абвясціў Жмудзь уласнасцю ордэна, узяў закладнікаў і, падзяліўшы войска на малыя аддзелы, адправіў іх да мяжы Прусіі. У гэты ж час Вітаўт, ізноў атрымаўшы паўнамоцтвы вялікага князя, штодня далучаў да сваіх уладанняў новыя валасці і такім чынам істотна павялічыў свае сілы[77].

У гэты год Вітаўт разам з крыжакамі захапіў Коўню і Трокі, спаліў прадмесці Вільні, тым не менш Ягайла разам з братам Скірагайлам вярнуў заваяваныя гарады і прымусіў Вітаўта вярнуўся на тэрыторыю ордэна[78].

Аб канкрэтных дзеяннях Хотспура ў гэты час нічога не вядома, але ж вядома, што толькі напрыканцы 1383 г. Гары Хотспур вярнуўся на радзіму з-за абвастрэння сітуацыі ў Францыі.

* * *

Палітыку на англа-шатландскай мяжы ў канцы XIV ст. шмат у чым фармавалі два наймацнейшыя роды: з ангельскага боку - Персі, а з шатландскага - Чорныя Дугласы.

Сталая англа-шатландская вайна была пабочнай галіной Стогадовай вайны. Адным з пікаў абва-

[73] Maurice Hugh Keen. Nobles, Knights, and Men-at-arms in the Middle Ages. The Hambledon Press, 1996. P. 122.
[74] John H. Pratt. Literary Criticism. Chaucer and War. University Press of America, 2000. P. 125
[75] Narbutt Teodor. Dzieje starozytne narodu litewskiego. Wilno, 1839. T. 5. S. 334-335. ; Voigt, V. P. 423
[76] Kronika Wiganda z Marburga. Poznan. 1842. S. 295.
[77] Narbutt Teodor. Dzieje starozytne narodu litewskiego. T. 5. S. 336.
[78] Энцыклапедыя ВКЛ 2005. Т. I. С. 10.

стрэння "памежнай вайны" паміж сем'ямі Дугласаў і Персі з'явілася бітва пры Атэрберне (Otterburn). Шатландска-французскае ўварванне ў Паўночную Англію было ўзначалена графамі Джэймсам Дугласам і Мюрэем. Пры Атэрберне (15 жніўня 1388 г.) яны нанеслі паразу ангельскаму войску, якім камандаваў сэр Генры Персі (бацька Хотспура). На пачатку ангельцы рашуча атакавалі шатландскія палявыя ўмацаванні, і перавага была на іх баку. Але потым, падчас праследавання войска шатландцаў, Хотспур дапусціў памылку, прыняўшы дапаможны лагер за галоўны лагер шатландскага войска і разам са сваім братам Ральфам быў узяты ў палон. Ангельцы страцілі каля 2000 чалавек. Страты шатландцаў былі невялікімі, аднак граф Джэймс Дуглас у гэтай бітве загінуў. Для вызвалення братоў Персі, каралём Англіі Рычардам II быў выплачаны вялізны выкуп у 3000 фунтаў[79].

У 1391 г. Ягайла перадаў Ліду свайму брату Карубуту Альгердавічу.

У 1391 г. Хотспур атрымаў пост начальніка залогі горада Кале ў Францыі. А ў 1392 г., верагодна, прыняў удзел у наездзе на Ліду.

Тэадор Нарбут так апісаў наезд крыжакоў: *"Пад Аліту перадавыя атрады крыжакоў падашлі ў студзені 1392 г. У выправе прымалі удзел Ян Румпенхайм* (Jan Rumpenheim), *Конрад Ліхтэйнштэйн* (Konrad Lichtenstein) *з замежнымі гасцямі. Князь Вітаўт, таксама ўдзельнічаў у гэтай выправе. Калі войска ўжо выходзіла з Аліты, ангельцы паспрачаліся з немцамі за права несці харугву св. Георгія. Справа дайшла да крывавай сутычкі. З абодвух бакоў у бойцы удзельнічалі знатныя людзі, ангельцамі кіраваў Персі, сын графа Нартумберленда, іншымі Рупрэхт з Шакендорфа. Мэтай выправы было месца Ліда, у якой у гэты час для аховы краю знаходзіўся князь Карыбут з войскам. Праз замёрзлую дрыгву крыжакі раптам падышлі да Ліды і падзамча. Карыбут не стаў бараніць адзін з лепшых замкаў Літвы і ўцёк са сваім дваром і войскам, пакінуўшы ўсё што было ў замку і горадзе на здабычу непрыяцелю. Здабыта было шмат зброі і вайсковага рыштунку"* [80]. Такім чынам Нарбут наўпрост піша што пад Лідай быў сын графа Нартумберленда Персі (Хотспур). Але пры тым ён спасылаецца на Фойгта[81], які ў сваю чаргу расказвае аб падзеях, абапіраючыся на "Хроніку Віганда".

Але Віганд, даючы інфармацыю аб "reisen" на Ліду, піша толькі тое, што англічанамі кіраваў спадар Персі (Aglici eciam extederunt vexillulum per dominum nobilem de Perse). У спасылцы да гэтага тэксту даецца каментар: *"Яўна той жа, які і на С. 154 спадар Персі з Англіі паходзіць з роду герцага Нартумберленда* (памылка, не герцага а графа - *Л. Л.*) *і ёсць падставы меркаваць што гэта не вядомы Генры Персі* (Хотспур - *Л. Л.*), *а спадар Томас Персі ... Верагодна, што гэта Томас, бо граф Генры Дэрбі (будучы кароль Генры IV) падчас свайго паходу ў Прусію ў 1390 г. атрымаў пашпарт (дазвол) на выезд за мяжу ад караля Рычарда II для рыцара Томаса Персі ... з тэрмінам дзеяння ў 1 год"* [82]. А праз старонку Віганд зноў піша: *"sc. Dominus Perse de Anglia"* [83].

Такім чынам, хто з роду Персі быў пад Лідай у 1392 г., дакладна высветліць, верагодна, ужо не магчыма. Аўтар каментарыяў да "Хронікі Віганда" лічыць, што гэта быў Томас Персі (дзядзька Хотсупра), але нават з ягонай інфармацыі бачна, што дазвол у сэра Томаса дзейнічаў толькі да 1391 г.

Сучасны ангельскі гісторык Крыстофер Туерман таксама лічыць, што Хотспур быў у балтыйскім паходзе ў 1383 г., а ягоны дзядзька праз 9 гадоў, г. зн. у 1392 г.[84] Іншы сучасны ангельскі гісторык, Маўрыс Кін паведамляе нам, што *"Хотспур, знакаміты сын першага графа Нартумберленда, быў у Прусіі у 1383 г. Ягоны дзядзька, сэр Томас Персі, здаецца, служыў там у 1391 г."* [85].

Польскі гісторык Зінкс (Henryk Zinks) са спасылкай на іншыя крыніцы піша: *"На наступны год* (1392 г. - *Л. Л.*) *быў у Прусіі на чале сваёй дружыны Генры Персі ..., ён аднак не жадаў браць удзел у вайне супраць Вітаўта, з якім меў справу летась і ведаў, як хрысціяніна, са сваёй дружынай вярнуўся з-пад Кёнігсберга"* [86]. Крыжакі з Вітаўтам ужо ў студзені 1392 г. былі каля Аліты, і Хотспур, безумоўна, сустрэўся з Вітаўтам у Прусіі яшчэ ў 1391 г., г. зн. - летась. Ваяваць супраць Вітаўта Персі змог бы толькі пасля заключэння Вастраўскага пагаднення (4 жніўня 1392 г.). Такім чынам, Хотспур мог прымаць удзел у "Reisen" пад Ліду на пачатку 1392 г. Прысутнасць абодвух Персі, пляменніка і яго дзядзькі, амаль адначасова і ў адным месцы, пры тым што хранікёры завуць іх проста "Персі", уносіць блытаніну ў гэтае пытанне і, хто з роду Персі быў пад Лідай у 1392 г., абсалютна дакладна высветліць, верагодна, не магчыма.

З ліста караля Кіпра каралю Англіі Рычарду II ад 15 ліпеня 1393 г., вядома, што Генры Персі ўвесну быў на Кіпры і, магчыма, сустрэўся з графам Дэрбі[87], што ўскосна можа сведчыць аб ягоным удзеле ў выправе 1392 г.

Неабходна дадаць, што дзядзька Хотспура Томас Персі, граф Вурсцер (Thomas Percy Worcester) таксама значны персанаж трагедый Вільяма Шэкспіра

[79] Sir Henry Percy. [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: http://www.1911encyclopedia.org/Sir_Henry_Percy - Дата доступу: 04. 07. 2010.

[80] Narbutt Teodor. Dzieje starozytne narodu litewskiego. T. 5. S. 482.

[81] Voigt J. Geschichte Preussens. Bd 5. P. 607-609.

[82] Die Chronik Wigands von Marburg. Hrsg. von T.Hirsch // Scriptores rerum Prussicarum. Bd. 2. Leipzig, 1863. P. 646.

[83] Die Chronik Wigands von Marburg. Hrsg. von T.Hirsch // Scriptores rerum Prussicarum. Bd. 2. Leipzig, 1863. P. 648.

[84] Christopher Tyerman. England and the Crusades, 1095-1588. The university of Chicago press. 1988. P. 268.

[85] Кёнисбереwhere Гельмут. Средневековая Европа. 400-1500 годы. М. 2001. С. 323.

[86] Zinks Henryk. Polska w oczach Anglikow XIV-XVI. Lublin. 2002. S. 32 - 33.

[87] Richard Kyngeston, Lucy Toulmin Smith. Expeditions to Prussia and the Holy Land Made by Henry Earl of Derby, 1894. P. 311.

"Рычард II" і "Генрых IV" [88].

З 1393 г. па 1395 г. Хотспур служыў губернатарам горада Бардо.

На далейшы лёс сям'і Персі паўплываў канфлікт графа Генры з Рычардам II, які пажадаў, каб граф прыняў удзел у карнай экспедыцыі ў Ірландыю (1398). Аднак замест гэтага граф выехаў з Лондана ў свае землі ў Паўночнай Англіі.

У 1399 г. кароль Рычард II абвінаваціў графа Нартумберленда і ягонага сына ў здрадзе. У адказ яны, змовіўшыся з іншымі баронамі, паднялі паўстанне і пасадзілі на ангельскі трон свайго фаварыта Генрыха Ланкастара (Генрых IV). Поспех спрыяў далейшаму ўзмацненню ўплыву сям'і Персі. Граф Нартумберленд быў прызначаны канетаблем Англіі і атрымаў права на спагнанне падаткаў з вострава Мэн.

Частыя згадванні ў хроніках імя Персі ў той час звязаны з вайсковымі сутыкненнямі на мяжы з шатландцамі. Даволі тыповай з'яўляецца фраза храніста Уолсінгема (Walsingham), датычная падзей 1400 г.: *"Шатландцы, варожыя да ангельцаў, уварваліся ў памежныя ўладанні, але Персі і яго сын Генры (Хотспур)… з дапамогай сваіх аддзелаў і лучнікаў прымусілі шатландцаў уцякаць".*

У пачатку 1400-га года сэр Генры, па мянушцы Хотспур стаў намеснікам Усходняй Маркі і адміралам Англіі, атрымаўшы права на збор падаткаў з Усходняй Маркі.

У 1402 г. шатландскія бароны, прынялі рашэнне распачаць буйнамаштабны паход на паўночная графствы Англіі. У ліку ўдзельнікаў гэтага паходу былі таксама каля 50 французскіх рыцараў. Агульная колькасць шатландскага войска дасягала 40 тысяч чалавек.

У вайне з шатландцамі і іх разгроме ў бітве каля мястэчка Хамілдон Хіл галоўную ролю адыграў наш герой Гары Хотспур. Пасля перамогі Хотспур са сваімі людзьмі прайшоўся па шатландскай тэрыторыі і ўзяў штурмам некалькі шатландскіх цвердзяў. Вынікам перамогі пры Хамілдоне стала агульнае аслабленне Шатландыі. На цэлы год (да ліпеня 1403 г.) было забяспечана досыць стабільнае становішча на паўночнай мяжы[89].

Палітыка бацькі Хотспура, графа Нартумберленда прывяла да таго, што ў першыя гады XV ст. ён стаў адным з найбольш магутных лордаў Англіі. Яго поўны тытул гучаў наступным чынам: "Магутны лорд Генры, граф Нартумберленд, лорд бароніі Кокермаўт і Петуорт, барон Персі, Поінгс, Фіцпэйн і Браян, захавальнік Усходніх і Сярэдніх Марак Англіі на шатландскай мяжы і рыцар Ордэна Падвязкі" [90].

У 1403 г., вырашыўшы, што кароль не дастаткова аддзячыў ім за дапамогу, Персі ўзбунтаваліся супраць ангельскага караля Генрыха IV. Была арганізаваны змова, у якой дзеля звяржэння Генрыха і ўзвядзенні на пасад Эдмунда Марцімера (пляменніка Рычарда II), аб'ядналіся пад кіраўніцтвам Нартумберленда шатландцы і валійцы. Аднак, калі ўсё было гатова для ўзброенага выступу, граф раптам захварэў і замест таго, каб узначаліць рокаш, застаўся ў сваім замку Бервіку.

Узначаліў паўстанне Генры Персі Хотспур. Ён павёў сваё войска да Шрусберы на злучэнне з валійцамі. Злучыўшыся, мяцежнікі апублікавалі свой маніфест, у якім выказалі свае сапраўдныя і ўяўныя крыўды. Генрых IV нічога не ведаў аб змове і таму быў вельмі здзіўлены, атрымаўшы вестку аб паўстанні. Аднак у яго было войска, сабранае на выпадак вайны з шатландцамі. Добра разумеючы, што ў барацьбе з такім ворагам, як Персі, неабходна хуткасць, ён неадкладна павёў свае войска да Шрусберы, каб даць мяцежнікам бой. Бітва была вельмі крывавай; абодва палкаводцы добра ведалі сваю справу і былі адважныя. Генрыха можна было бачыць на самых небяспечных участках бітвы. З другога боку адважны Хотспур падтрымаў сваю воінскую славу, заваяваную ў шматлікіх кровапралітных бітвах, шукаючы сустрэчы са сваім галоўным крыўднікам - каралём. Аднак ён быў забіты, і гэта вырашыла зыход бітвы на карысць Генрыха IV[91].

* * *

Хотспур - адзін з галоўных герояў драмы "Генрых IV" Уільяма Шэкспіра. Шэкспір паказвае Хотспура выбітнай асобай, роўнай якой у атачэнні караля няма. Адначасова Хотспур, пры ўсёй сваёй доблесці - бунтаўшчык, якому не можа быць месцы пры цэнтралізаваным дзяржаўным парадку. У Шэкспіра ён смелы і палкі, хуткі ў думках і дзеяннях, сваю рыцарскую волю ён ставіць вышэй усё. Можна сказаць, што Хотспур - краса і гонар адыходзячага сярэднявечча. Хотспуру жыццё ўяўляецца арэнай бесперапынных рыцарскіх сутычак. Па ягоных словах: *"Як жыць, дык каралёў зрынаць; як смерць, дык слаўная, каб прынцы гінулі разам з намі!"* (частка I, V, 2).

П'еса Шэкспіра шматкроць пастаўлена ўсімі тэатрамі свету. Неаднаразова па п'есе зняты фільмы. Так, напрыклад, у ангельскім тэлефільме "Генрых IV" 1995-га года ў ролі Хотспура зняўся вядомы брытанскі акцёр Руфус С'юэл.

Генры Персі (Хотспур) - агульнавядомая асоба ў Англіі. Ягоным іменем з 19 ст. называюцца баявыя караблі:

- браняносны таран "Хотспур", закладзены ў 1868 г., спушчаны на ваду ў 1870 г., быў у баявым шыхце брытанскага флоту да 1904 г.

- знакаміты брытанскі эсмінец Другой Сусветнай вайны спушчаны на ваду ў 1934 г. , быў у шыхце флоту да 1947 г.

[88] Thomas Percy, 1st Earl of Worcester. [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: https://en.wikipedia.org/wiki/Thomas_Percy,_1st_Earl_of_Worcester - Дата доступу: 04. 09. 2020.

[89] Сражение при Хомилдоне (Северная Англия) в 1402 г. [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: http://www.iserguey.narod.ru/simple.html - Дата доступу: 04. 09. 2020.

[90] О Шотландии . [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: http://www.iserguey.narod.ru/articles.html - Дата доступу: 04. 09. 2020.

[91] Голдсмит. История Англии. Глава XVI. Генрих IV. [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: http://silonov.narod.ru/parents/engl16.htm - Дата доступу: 04. 09. 2020.

На працягу Другой Сусветнай вайны на ўзбраенні брытанскай арміі быў дэсантны планёр "Хотспур".

У прыгарадзе Лондана Татэнхеме знаходзіліся ўладанні сям'і Персі. Таму футбольны клуб прэм'ер - лігі, штаб-кватэра і стадыён якога знаходзіцца ў паўночнай частцы Лондана, мае назву ***Татэнхем Хотспур*** (анг. Tottenham Hotspur). За сваю больш за стогадовую гісторыю клуб стаў адным з самых тытулаваных на імглістым Альбіёне. Дата нараджэння клуба - 1882 г. Дэвіз клуба - Audere est Facere ("Адважыцца - значыць зрабіць")[92].

З верасня 1933 г. па кастрычнік 1959 г. у Англіі друкаваўся самы папулярны дзіцячы часопіс "Хотспур" (The Hotspur). Усяго было выпушчана 1197 нумароў. З канца кастрычніка 1959 г. пачаў выдавацца часопіс - комікс для дзяцей "Новы Хотспур" (New Hotspur). Гэты часопіс выдаваўся да студзеня 1981 г. і карыстаўся нязменным поспехам у дзяцей. На гэтых часопісах вырасла некалькі пакаленняў ангельцаў[93].

У сучаснай ангельскай мове слэнгавае слова "хотспур" - абазначае чалавека - халерыка з саслабелым кантролем над асабістымі паводзінамі.

І вось гэты "нацыянальны герой" Англіі - Хотспур, магчыма, ваяваў пад нашай Лідай. Гэтая інфармацыя павінна мець важнае значэнне для развіцця турызму ў нашым рэгіёне.

**Джон Бафорт.** Тэадор Нарбут так напісаў аб выправе крыжакоў на Ліду і Наваградак у 1394 г.: *"Узімку ў Прусіі сабраліся новыя госці, з Нямеччыны граф Ленінген, з Англіі граф Бэдфард, з Францыі гэтак жа вядомыя рыцары... Мэтай нападу была ўнутраная Літва, яе русінская частка. Выправа рушыла на Свята Трох Каралёў, прайшла змёрзлымі балотамі, абышла Гародню і накіравалася да Наваградка. Але крыжакі знайшлі горад спаленым гараджанамі, частка якіх прыгатавалася абараняцца ў замку, частка схавалася ў аддаленай пушчы* (верагодна жанчыны і дзеці - *Л. Л.*) *Адтуль, на шляху спусташаючы асады, крыжакі пайшлі да Ліды, дзе таксама знайшлі моцны замак, які стаяў сярод спаленага падзамча. Далей быў намер ісці на Салешнікі, і, магчыма на Вільню, але маразы раптам саслаблі, наступіла адліга, крыжакі, верагодна, дазналіся аб войску ВКЛ якое выйшла з Вільні і аб пагрозе для сябе з боку Гародні ... Такім чынам яны былі змушаныя адыходзіць з-пад Ліды дзітвянскімі балотамі... Здабычай крыжакаў у гэты раз сталі 2200 палонных, 1400 коней і шмат быдла"* [94].

Апісваючы падзеі, Нарбут абапіраўся на кнігу Фойгта (Voigt, VI, Geschichte Preussens, 1834), у якой ў зносцы № 3 на старонцы № 10 паведамляецца, што згадваны ў хроніцы Віганда "Bekvort" - гэта граф "Betfort" [95].

Адсюль у гістарычную літаратуру і ўвайшоў "граф Бэдфард", які прымаў удзел у выправе 1394 года на Наваградак і Ліду.

Але для ўважлівага назіральніка ўзнікаюць пытанні.

Граф Бэдфард - старажытны графскі тытул у сістэме дваранскіх тытулаў Англіі. Упершыню тытул графа Бэдфарда быў заснаваны ў 1137 г. для Гуга дэ Бамона. Другая крэацыя тытула адбылася ў 1366 г., калі графам Бэдфардам стаў паўночна-французскі дваранін Ангеран VII дэ Кусі (1340-1397)[96], які патрапіў у Англію ў якасці закладніка і ў 1365 г. ажаніўся з Ізабелай, дачкой ангельскага караля Эдуарда III. Ангерану ўдавалася балансаваць паміж ангельскім і французскім пасадам, але пасля смерці Эдуарда III у 1377 г. яму прыйшлося зрабіць канчатковы выбар. У выніку ён адмовіўся ад усіх земляў у Англіі і ад тытула "граф Бэдфард", але захаваў фамільныя ўладанні ў Францыі. Наступная крэацыя тытула адбылася толькі ў 1551 г., калі гэты тытул быў наданы Джону Раселу[97].

Не мог удзельнічаць у выправе і герцаг Бэдфард, бо першая крэацыя гэтага тытула адбылася ў 1414 г. а першы носьбіт гэта тытула - Джон Ланкастар нарадзіўся ў 1389 г.[98]

Такім чынам у 1394 г. не было чалавека, які быў бы носьбітам гэтага тытула. Хранікёр мог бы ў 1394 г. памылкова зваць графам Бэдфардам Ангерана дэ Кусі (гэты чалавек пакінуў след у гісторыі, напрыклад яго два разы згадвае Ёхан Хёйзінг у сваёй знакамітай кнізе "Восень сярэднявечча" [99]). Але інфармацыі аб яголным удзеле ў крыжовым паходзе ў Прусію няма.

У выданні "Хронік Віганда" 1863 года на старонцы 653 знаходзім: *"... reysa interfuerunt comes de Liningen, Bekvort* , а ў спасылцы № 2008 да гэтага сказа напісана, што "Bekvort" - гэта Johann Beaufort[100].

І гэтая інфармацыя ўсё ставіць на свае месцы бо Джон Бафорт (Johann Beaufort) - асоба ў гісторыі

[92] Tottenham Hotspur Football Club. [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: https://www.tottenhamhotspur.com - Дата доступу: 04. 09. 2020.

[93] The Hotspur. [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: http://www.britishcomics.20m.com/hotspur.htm - Дата доступу: 04. 09. 2020.

[94] Teodor Narbutt. . Dzieje starozytne narodu litewskiego. Wilno. 1839. T. 5. S. 514-516.

[95] Voigt J. Geschichte Preussens. Bd 6. 1834. S. 10.

[96] Enguerrand VII, Lord of Coucy. [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: http://en.wikipedia.org/wiki/Enguerrand_VII,_Lord_of_Coucy - Дата доступу: 04. 09. 2020.

[97] Russell (Family). [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: http://www.1911encyclopedia.org/Russell_(Family) - Дата доступу: 04. 07. 2010.

[98] Duke of Bedford. [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: http://en.wikipedia.org/wiki/Duke_of_Bedford - Дата доступу: 04. 09. 2020.

[99] Йохан Хёйзинга. Осень средневековья, Т. I., 1995. С. 91., 183.

[100] Die Chronik Wigands von Marburg. Hrsg. von T.Hirsch // Scriptores rerum Prussicarum. Bd. 2. Leipzig, 1863. P. 653. (Wigand meint den englischen ritter Johann Beaufort, welcher nebst seinen ritterlichen Genossen Stephan Scroop, Hinrich Hochton, Richard Echon und Jahann Aclum unmittelbar nach der Ruckkehr von diser Rejse 1394.)

вядомая.

Удзел Джона Бафорта ў паходзе 1394 г. на Літву пацвярджаецца гістарычнымі крыніцамі, напрыклад ангельскі гісторык пачатку XX ст. А. Полард у сваім "Нацыянальным біяграфічным слоўніку" пісаў, што Бафорт у 1394 г. ваяваў на баку Тэўтонскага ордэна ў Літве[101]. Тое ж самае пішуць і іншыя ангельскія гісторыкі[102]. Аб удзеле Джона Бафорта ў "reisen" 1394 г. піша і польскі гісторык Зінкс (Henryk Zinks)[103].

Джон Бафорт, 1-шы граф Самерсэта (John Beaufort, 1st Earl of Somerset) (1371 (?) - 16 сакавіка 1410) быў першым з чатырох пазашлюбных дзяцей Джона Гонта, герцага Ланкастара, і яго палюбоўніцы Кэтрын Свайнфорд (пазней яна стала ягонай жонкай). Бафорт нарадзіўся прыблізна ў 1371 г., і прозвішча было яму нададзена з-за феода Бафорт ягонага бацькі ў правінцыі Шампань, Францыя[104].

Такім чынам будучы кароль Генрых IV (граф Дэрбі) быў яго зводным братам.

Кароткую біяграфію Бафорта даю паводле А. Поларда. Вайсковую службу Джон Бафорт пачаў у 1390 г. у крыжовым паходзе ў Паўночную Афрыку. Бафорт быў пасвечаны ў рыцары ў 1391 г., і ў 1394 г. ён ваяваў у Літве. У 1396 г. прыняў удзел у чарговым крыжовым паходзе і ў верасні ўдзельнічаў у бітве пад Нікопалем. Пасля законнага шлюбу свайго бацькі і маці ў 1397 г. атрымаў тытул графа Самерсэта і месца ў парламенце побач з графам Уорвікам. Праз некалькі месяцаў атрымаў тытул герцага Глостара і маркіза Дарсэта, ордэн Падвязкі і месца намесніка Аквітаніі. У 1398 г. стаў адміралам флота Ірландыі, канетэблем замка Дуўр і лордам-намеснікам Пяці партоў. Пасля таго, як кароль Рычард II быў зрынуты ў 1399 г., новы кароль Генрых IV адмяніў тытулы, якія даваліся прыхільнікам старога караля, і такім чынам Джон Бафорт стаў проста графам Самерсэтам. Аднак, ён быў лаяльным да новага караля (свайго зводнага брата) і служыў яму на розных вайсковых і дыпламатычных пастах. У 1404 г. ён стаў канстэблем Англіі. Самерсэт памёр пасля доўгай хваробы 16 сакавіка 1410 г. у шпіталі св. Кацярыны недалёка ад Лонданскага Таўэра і быў пахаваны ў Кентэрберы.

Джон Бафорт, граф Самерсэт, персанаж першай часткі драмы "Генрых IV" Уільяма Шэкспіра.

## Востраўскае пагадненне 1392 г.

*4 жніўня 1392 года было заключана Востраўскае пагадненне. Падпісалі яго з аднаго боку кароль польскі Уладзіслаў, ён жа вялікі князь літоўскі, рускі і жамойцкі Ягайла, і ягоная жонка - польская каралева Ядвіга, з другога боку - князь гарадзенскі Вітаўт і ягоная жонка Ганна. Яны дамовіліся спыніць міжусобную вайну. Вітаўт стаў фактычным уладаром Вялікага Княства Літоўскага. Пагадненне паклала канец братазабойчай вайне, прывяло да разгрому крыжакоў на палях Грунвальда і дазволіла Вялікаму Княству Літоўскаму неўзабаве дасягнуць найбольшага росквіту і магутнасці.*

Пагадненне было заключана ў маёнтку Востраў (Ostrow, Ostrowo). Але да гэтага часу лакалізацыя гэтага маёнтка выклікае спрэчкі сярод краязнаўцаў і гісторыкаў. Ёсць нават меркаванне пра тое, што яно адбылося пад Люблінам у населеным пункце Востраў-Любельскі. Аўтар, працуючы з "Дзеямі народа Літоўскага" Тэадора Нарбута, знайшоў інфармацыю пра месца, дзе знаходзіўся Востраў. Вялікі гісторык дае дакладную і дастатковую інфармацыю. У пятым томе "Дзеяў..." Нарбут піша: *"Востраў, у павеце Лідскім, на захад ад Ліды недалёка ад Мыто, за левым берагам ракі Дзітва, раней уласнасць скарбу літоўскага, дзе быў вялікі палац і да гэтага часу фундамент і склепы захаваліся, гарод меў памер 9 моргаў, у апошнія часы належала да Тадэвуша Нарбута, падкаморага Лідскага. Зараз, пасля здраблення праз exdywizye, ёсць невялікім фальфаркам, які належыць да паноў Міхалоўскіх"*. Патлумачу лацінскі юрыдычны тэрмін. У Літве існаваў закон, па якім у выпадку неплацежаздольнасці даўжніка, яго маёмасць не прадавалася з аўкцыёну, але дзялілася на часткі адпаведна ліку крэдытораў.

"За левым берагам" - гэта адносна вёскі Мыто. Такім чынам маем, што Востраў знаходзіўся на левым - лідскім беразе Дзітвы. У кнізе Чэслава Малеўскага "Роды шляхецкія на Літве ў XIX стагоддзі. Лідскі павет" чытаем, што панам Міхалоўскім, сярод іншага належаў Востраў (1832-1845 гг.) з вёскай Янцавічы - 350 дзесяцін, 40 душ мужчынскіх, 35 жаночых, у 1845 г. Лідская парафія.

Неабходна дадаць, што ў польскім "Слоўніку геаграфічным" таксама прысутнічае фальварак Востраў Міхалоўскіх у вясковай акрузе Сукурчы. Паколькі Сукурчы знаходзіліся прыкладна за адзін кіламетр ад Янцавіч і Вострава, то гэта яшчэ адно ўказанне на месцазнаходжанне легендарнага маёнтка.

І ў расійскім спісе населеных пунктаў 1904 г. маёнтак Востраў на рацэ Крупка належыць Міхалоўскім. Там жа, на рацэ Крупка, фігуруе яшчэ і засценак Востраў, які належыць Гейштоўтам, а Гейштоўты - вядомы разгалінаваны шляхецкі род Лідчыны гербу Гейш. Трохі на поўдзень, па рацэ Дзітва, была вялікая ваколіца Гейштоўты. Ужо той факт, што назва засценка адрозніваецца ад прозвішча гаспадара, сведчыць пра тое, што засценак быў набыты. Чэслаў Малеўскі таксама не піша пра тое, што Гейштоўты валодалі гэтым засценкам у XIX ст. Безумоўна, што засценак - частка здрабнелага маёнтка Востраў. Астатнія населеныя

[101] Pollard A.F. John Beaufort, 1st Earl of Somerset. Dictionary of National Biography. Vol. 1. 1901. [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: http://www.thepeerage.com/e272.htm - Дата доступу: 04. 09. 2020.

[102] Douglas Richardson, Kimball G. Everingham, David Faris. Plantagenet Ancestry: A Study In Colonial And Medieval Families. Social Science, 2004. P. 660. (In 1394 he was in Lithuania, engaged in the Crusade organized by the Teutonic knights.) John_Beaufort,_1st_Earl_of_Somerset - Дата доступу: 04. 07. 2010.

[103] Henryk Zinks. Polska w oczach Anglikow XIV-XVI. Lublin. 2002. S. 33.

[104] John Beaufort, 1st Earl of Somerset. [Электронны рэсурс] - Рэжым доступу: http://en.wikipedia.org/wiki/

пункты Лідскага павета з назвай Востраў: на рацэ Жыжма пад Васілішкамі, каля Дубіч і іншыя, у нашым кантэксце цікавасці не маюць. Таксама ў спісе польскага бізнесу 1929 г. фальварак Востраў Лідскай гміны належыць Міхалоўскім.

На расійскай карце сярэдзіны XIX ст., а таксама на нямецкай карце 1913 г., што з'яўляецца перадрукам з 1893 г., каля Янцавіч абазначаны фальварак Востраў. Ёсць Востраў і на польскай тапаграфічнай карце 1929 г., назва падаецца на польскі манер: "Fw. Ostrowo". Параўнанне розных карт дазволіла прыйсці да высновы, што на тапаграфічнай карце 1983 г. на месцы Вострава абазначана купка дрэў.

* * *

Пасля знаходжання маёнтка на карце, паўстала задача знайсці яго на мясцовасці. Таму перад паездкай я паразмаўляў з Юзафам Хрулём, 1929 г. нараджэння, шляхціцам гербу Праўдзіц. Ён - сын апошняга ўладальніка фальварка Воўкавічы, які знаходзіцца каля сямі кіламетраў на поўдзень ад Вострава. Юзаф Юзафавіч адразу сказаў, што добра ведае такі фальварак. Гэта быў адзіны пункт з падобнай назвай у ваколіцах Ліды, калі рухацца ў бок Мыто. Апошні ўладальнік гістарычнага месца - Барташэвіч. Гаспадар пакінуў свой фальварак у 1939 г. і апошні раз з'явіўся на Лідчыне ў сярэдзіне 1950-х гадоў, каб паглядзець, што сталася з яго маёмасцю. Фальварак быў добра бачны з боку Крупава як зялёны сад з домам і пабудовамі. З кнігі Ч. Малеўскага "Роды шляхецкія на Літве ў XIX стагоддзі. Лідскі павет" бачна, што Барташэвічы - вялікі і разгалінаваны шляхецкі род Лідскага павета гербаў Бонча і Самсон. Самае цікавае, што ў 1835 г. Барташэвічам належалі Кербедзі, якія мяжуюць з Востравам. Верагодна, таму Барташэвічы і купілі занядбаны маёнтак. Улічваючы, што яшчэ ў 1929 г. фальварак належаў Міхалоўскім, а да Барташэвічаў ён перайшоў у 30-я гады XX ст., можна зрабіць выснову: Міхалоўскія валодалі ім больш, як 100 гадоў.

Разам з Юзафам Юзафавічам выехалі ў Янцавічы. І першы ж жыхар вёскі Янцавічы адразу згадзіўся правесці нас да Вострава. Тапонім з такой назвай жыве да нашага часу! Жыхары Янцавіч і цяпер памятаюць, што ўладальнікамі Вострава былі Міхалоўскія. А Барташэвіча ўжо не ўзгадваюць. Мясцовы жыхар - Франц Ткацэвіч, 1953 г. нараджэння, расказаў, што пра існаванне фальварка ён чуў ад старэйшых. Сам жа памятае толькі мураваныя падмуркі з рэшткамі пабудоў. Большы падмурак меў памеры прыкладна 25 на 10 м. Фальварак быў засаджаны дрэвамі, добра запомнілася вялікая груша. У пачатку 80-х гадоў XX ст. падмуркі і рэшткі пабудоў былі зруйнаваны бульдозерамі і скінуты ў вялікую яміну за сто пяцьдзясят метраў ад ваколіцы Янцавіч. Груда зямлі і вялікіх апрацаваных валуноў ляжыць на тым жа месцы і цяпер. Гэта ўсё, што засталося ад найстаражытнейшага на Лідчыне маёнтка Востраў. Франц Часлававіч адлічыў ад камянёў тыя сто пяцьдзясят метраў на ўсход, арыентуючыся на комін лідскай ЦЭЦ, і ў полі ўпэўнена паказаў месца, дзе стаяў фальварак. Па рэльефе поля і цяпер выразна праглядаецца пляцоўка двара. Так скончыў сваё гістарычнае існаванне Востраў - адзін з першых населеных пунктаў Лідчыны. Маёнтак, ад назвы якога пайшоў другасны тапонім - вёска Астроўля.



***Ягайла***



***Вітаўт***

Ткацэвіч прыгадаў, што яшчэ ў 2006 г. на месцы фальварка цэлы тыдзень "чорны археолаг" шукаў металашукальнікам скарбы. Але нічога для сябе каштоўнага не знайшоў. Для недасведчанага "чорнага археолага" - гэта безназоўны фальварак, знойдзены, верагодна, па польскай карце 1929 г. Тым не менш, з ягонай працы скарысталіся і мы. На месцы маёнтка ён накапаў вялізную колькасць ям і шурфоў. На іх паверхні ляжаць металічныя часткі гаспадарчых прылад, цвікі, фрагменты цэглы, керамікі і нават два патроны. Безумоўна, у зямлі застаўся вялізны культурны пласт. І хто ведае, магчыма, недзе на глыбіні захаваліся падмуркі. Павінны былі застацца і рэшткі склепа ці лядоўні.

**Замест пасляслоўя да тэмы Востраўскага пагаднення: чорны капальнік**

Як пісаў вышэй пра "сустрэчу" з вынікам дзейнасці "чорнага капальніка" на месцы былога фальварака ў былым населеным пункце Востраў пад Лідай, дзе раней быў двор (дварэц), у якім адбылося падпісанне Востраўскага пагаднення 1392 года паміж Вітаўтам і Ягайлам. Мясцовыя людзі расказвалі мне, што…

*"...яшчэ ў 2006 годзе на месцы фальварка цэлы тыдзень "чорны археолаг" шукаў металашукальнікам скарбы. Але нічога для сябе каштоўнага не знайшоў. Для недасведчанага "чорнага археолага" гэты безназоўны фальварак, знойдзены, верагодна, па польскай карце 1929 года. Тым не менш, з ягонай працы скарысталіся і мы. На месцы маёнтка ён накапаў вялізную колькасць ям і шурфоў. На іх паверхні ляжаць металічныя часткі гаспадарчых прылад, цвікі, фрагменты цэглы, керамікі і нават два патроны. Безумоўна, у зямлі застаўся вялізны культурны пласт. І хто ведае, магчыма, недзе на глыбіні захаваліся падмуркі ... Яшчэ доўга ў маёй кішэні ляжалі абівачныя цвікі XIX стагоддзя, падабраныя пасля чорнага капальніка".*

Але гэтым гісторыя не скончылася. Мае артыкулы пра знаходку месца падпісання дамовы 1392 года публікаваліся ў беларускіх сродках масавай інфармацыі і навуковых зборніках. І праз нейкі час, праз "трэція рукі" да мяне дайшла інфармацыя, што "чорныя капальнікі" зноў пабывалі на тым месцы і на гэты раз знайшлі рэчы XIV стагоддзя…

Мне стала вельмі сумна. Вынікам маіх інтэнсіўных пошукаў сталася рабаўніцтва каштоўнасцей вельмі не паважанымі мною людзьмі.

## Далейшыя падзеі

### Бітва каля Дакудава

Князь Карыбут, якому яшчэ да Востраўскага пагаднення Ягайла перадаў Ліду, у 1392 г. адмовіўся прызнаць Вітаўта вялікім князем ВКЛ.

З "Летапісу вялікіх князёў Літоўскіх", даведваемся: *"Князь Карыбут Альгердавіч пачаў дакараць* [вялікага князя Вітаўта], *выяўляць сваё непаслушэнства, пачаў збіраць супраць яго сваё войска і выступіў супраць яго. Князь жа вялікі Вітаўт паслаў сваё войска* [пад кіраўніцтвам] *Васіля Барэйкавіча і Гінвіла супраць яго* [Карыбута]. *І сышліся войскі каля Дакудава, і былі разбіты воі князя Карыбута, і кінуліся наўцёкі, і шмат іх было пабіта. Сам жа князь Карыбут уцёк у Ноўгарадок. Там жа былі яго княгіня і дзеці. Князь жа вялікі Вітаўт сабраў сваё войска, і сам пайшоў да Ноўгарадка, і аблажыў горад, і ўзяў Ноўгарадок, а князя Карыбута, і княгіню, і дзяцей паланіў"*[105].

### Хан Тахтамыш

У выніку міжусобнай барацьбы гэты хан быў вымушаны ў 1370-я г. шукаць прыстанішча ў сярэднеазіяцкага эміра Тамерлана (Цімура). Пасля паражэння золата-ардынскага цемніка Мамая ў Кулікоўскай бітве (1380 г.) пры дапамозе Тамерлана ён авалодаў стальцом Залатой Арды. У 1382 г. з вялікім войскам пайшоў на Маскву і захапіў яе. Умацаваўшы сваё становішча ў Залатой Ардзе, прымае рашэнне весці барацьбу супраць Тамерлана, якому быў абавязаны стальцом. У вайне 1389-95 гг. быў разбіты і ўцёк у Вялікае Княства Літоўскае.



Вялікі князь Вітаўт з разуменнем сустрэў Тахтамыша, прыняў яго ветліва, як ганаровага госця, бо бачыў ў перабежчыку сілу, якую збіраўся выкарыстаць у сваіх мэтах. У 1396 г. Тахтамыш разам з іншымі татарскімі эмігрантамі трывала асеў у ВКЛ. Тут ён з кіраўніка вялізнай Залатой Арды ператварыўся ў кліента Вітаўта, але не пакідаў думкі аб аднаўленні сваёй былой велічы. У 1396 (1397) г. Вітаўт пасяліў хана ў Лідзе, дзе той жыў два з паловай гады, валодаючы Лідскай воласцю, па сведчанні "Хронікі літоўскай і жамойцкай", *"мешкал в Литве зо всеми уланы и мурзы своими на Лиде"* [106].

Хан жыў у асобным доме. Раён за лідскім фарным касцёлам, дзе стаяў дом Тахтамыша, надоўга захаваў назву Тахтамышавага двара[107].

105 Беларускія летапісы і хронікі. Мінск, 1997. С. 58/

106 Марозава С. В. Залатаардынская палітыка Вітаўта // Гарадзенскія чытанні: зборнік матэрыялаў. Вып. 2. Гродна: Гродзенская друкарня, 2013. С. 18.

107 Живописная Россия. Т. 3. СПб - Москва, 1982. С. 170.

***Леанід Лаўрэш***

# О л ь ж а в а

Польскі гісторык Ян Глінка ў сваёй найгрунтоўнейшай працы пра род Клаўсуцяў на Лідчыне ўказаў, што Ольжава, а таксама Малое і Вялікае Ольжава, якія былі часткай адзінай маёмасці, з XV ст. належала гэтаму роду[1]. Заснавальнік роду Клаўсуцяў нарадзіўся, пэўна, каля 1300 г. і жыў у першай палове XIV ст. Хутка тры яго ўнукі, у тым ліку і Галігін, у 1401 г. прынялі ўдзел у заключэнні Віленска-Радамскай уніі. У XV ст. род асядае ў Ваверцы і вакол яе. Працяглы час яны валодалі больш, чым 30-цю маёнткамі на Лідчыне. Падрабязна пра Клаўсуцяў я раскажу ў частцы, прысвечанай Ваверцы.

Другімі ўладальнікамі нейкай часткі Ольжава ў ваколіцах Белагруды з першай паловы XV ст., былі Завішы. Каля 1442 г. вялікі князь ВКЛ Казімір пацвердзіў Завішам 12 людзей парачан у Лідскай воласці, якія ўжо перад тым былі іх спадчынай па бацьку Андрэю Завішу (кухмістру вялікага князя), і даў пяць людзей над ракой (Дзітвой?) у Ольжаве[2]. Магчыма, гэта першае згадванне Ольжава ў дакументах.

Нейкай часткай маёнтка валодаў і Пётр Гаштольдавіч, нам вядомы дакумент наступнага зместу, падпісаны ў Вільні 7 ліпеня 1468 г.: *"Ян, сын Пятра, Гаштольдавіч разам з жонкай Кацярынай і дзецьмі надалі віленскім францішканам на Пясках 10 бочак з Ольжава, 5 збожжа і 5 ярыны, а таксама 1 бочку пшаніцы і адну гароху, а таксама 1 вепрука штогод з абавязкам адпраўляць штотыдзень дзве імшы - адну за жывых, другую за памерлых"* [3]. Пра Пятра і Яна Гаштольдаў можна прачытаць ў 6-м томе "Rocznika Towarzystwa Heraldycznego we Lwowie" [4].

У 1463 г. адзін з самых магутных у той час родаў Лідчыне - Клаўсуці, фундавалі касцёл у Ваверцы. Грошы на касцёл былі ахвяраваны з двароў Ольжава і Ваверка. Ольжавам у той час валодалі наступныя прадстаўнікі роду: Міхал, Суцька, Дыль і Андрэй Галігінавічы[5].

Міхал Галігінавіч* з жонкай Зоф'яй, якая жыла яшчэ ў 1479 г., меў сына Жыгімонта - адзінага нашчадка лініі Галігінавічаў і старэйшыну ўсяго роду. Жыгімонт меў сына Мікалая і дачку Скіндарову. У Метрыцы ВКЛ захаваліся дакументы *"Справы Скіндаравай пра маёнтак Ольжава"*. З дакументаў вядома, што Мікалай быў сынам Жыгімонта, унукам Міхала Галігінавіча, памёр, не маючы дзяцей, а яго маёнтак успадкавала яго сястра, якая была замужам за Скіндарам (маці Сымона і Андрэя)[6].

У 1498 г. лідскі маршалак Войцех Кучуковіч атрымаў загад падзяліць маёнткі нябожчыка Мікалая Жыгімонтавіча паміж панамі Скіндарам і Андрэем Сіруцевічам. Сярод іншай маёмасці трэба было падзяліць і *"имен(ь)я небожчика Миколая Жикгимонтовича Олжево. ... Ино, онъ небожчикъ отписалъ одно имен(ь)е Олжово на церковь Бож(ь)ю…"* [7]. Сутнасць справы была ў тым, што Мікалай Жыгімонтавіч, памёр бяздзетным і па тагачасным законе вялікі князь Аляксандр перадаў яго маёнтак Ольжава Скіндару. Аднак, стала вядома, што нябожчык запісаў свой маёнтак царкве, а частку перадаў Андрэю Сіруцевічу. Вялікі князь і паны-рада вырашылі царкве і Сіруцевічу пакінуць толькі трэцюю частку маёмасці нябожчыка. Зямля ў той час давалася шляхце, каб яна служыла дзяржаве, і пасля смерці бяздзетнага шляхціца зямля адыходзіла да дзяржавы. Зразумела, гэта не магло падабацца землеўладальнікам. Цікава, што былі выпадкі, калі вялікія князі прымушалі аўдавеўшых шляхцянак хутка выходзіць замуж другі раз, тады зямля пакідалася за імі, і было каму служыць дзяржаве. Для гэтага ж яны дазвалялі бяздзетным землеўладальнікам усынаўляць ці ўдачараць чужых людзей[8].

Хутка і сам Войцех Кучуковіч пачаў прэтэндаваць на маёнтак Ольжава і пажадаў забраць яго ў сваёй зводнай бабулі. Пасля шматразовых скаргаў маршалка Войцеха Кучуковіча на Раклёвую Петкавічаву, вялікі князь, пагражаючы Раклёвай *"страченьемъ права"* на маёмасць, выклікаў яе ў суд, які павінен быў адбыцца ў Берштах[9].

14 красавіка 1496 г. Кучуковіч у судзе выставіў сведкаў: Станіслава Вадынскага ("писар дорогицки") і лідскіх баяр Юшку, Войтку і Богуша Караевічаў, якія

[1] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. Ze studiow nad ksztaltowaniem sie i rozanicowaniem spolecznym bojarstwa litewskiego // SZ.- Warszawa, Poznan, 1959. T.V. S.52-53.

[2] Шымялевіч Міхал. Збор твораў / укл. Л. Лаўрэш. Гродна, 2019. С. 39-40.

[3] Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wilenskiej. Krakow 1939. T. 1, z. 2. S. 295.

[4] Rocznik Towarzystwa Heraldycznego we Lwowie. 1921-1923. T. 6. Krakow, 1923. S. 120-122.

[5] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. Ze studiow nad ksztaltowaniem sie i rozanicowaniem spolecznym bojarstwa litewskiego // SZ. Warszawa, Poznan, 1959. T. IV. S. 92-93.

[6] Там жа. S. 101.

[7] Русская историческая библиотека, издаваемая Археографической комиссией. С.-Петербург, 1910. Т. 27. С. 693-694.

[8] Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-русского государства ко времени издания первого Литовского статута. Москва, 1892. С. 683.

[9] Там жа. С. 661.

* Магчыма, гэта і ёсць легендарны Міхайла Гілігінавіч, ваверскі баярын, удзельнік Грунвальдскай бітвы і ініцыятар заснавання Ваверскай парафіі ў 1413 годзе. *Рэд.*

сведчылі, што муж Марыны Анцушка, запісаў ёй Ольжава пажыццёва, а не на вечнасць[10]. А Марына, якая была два разы замужам, перадавала маёмасць сваім дзецям ад другога шлюбу з Раклём, а не ад першага - Кучуковічам.

З дакумента ад 8 ліпеня 1496 г. даведваемся, што Войцех Кучуковіч меў наступную прэтэнзію да пані Марыны Раклёвай Петкавай: *"... ты тое именье держишъ, а тое именье тобе не придет, то моя отчизна и дедина"*. Марына адказвала: *"... мне тое именье Олжова муж мои, а дед твои ... записал за вено вечно. И тот тестаментъ пани Петковая мужа своего Анъцушъков перед нами положила"*. Войцех Кучуковіч адказаў, што насамрэч гэты тастамант фальшывы. Пасля спрэчак, Кучуковіч пагадзіўся, каб Марына *"на томъ присягнула из дочкою, иж она того тестаменту не фалшовала"*. Марына прысягнула, і суд пакінуў маёнтак за ёй[11]. Яшчэ раз заўважу, што Войцех Кучуковіч хацеў адсудзіць маёнтак у сваёй, хоць і не роднай, але бабулі (*"муж мои, а дед твои"*).

Верагодна, унук Марыны Раклёвай Петкавай, Станіслаў Якубавіч Раклевіч, 30 кастрычніка 1556 г. атрымаў прывілей на вольную карчму ў сваім Ольжаўскім маёнтку - вёсцы Раклевічы. Можна не сумнявацца, Раклевічы - гэта сучасная вёска Раклёўцы. З прывілея бачым, што землеўладальнік Станіслаў Якубавіч Раклевіч прасіў у вялікага князя дазволу пабудаваць у сваім Ольжаўскім маёнтку ў вёсцы Раклевічы карчму, каб гандляваць у ёй півам, мёдам, *"горелкою шинъковати"*, што па яго меркаванні, не будзе перашкаджаць ужо існым гаспадарскім корчмам. Вялікі князь улічыў, што яго (гаспадарскіх) корчмаў тут няма, і дазволіў Раклевічу пабудаваць карчму[12].

Як звычайна, ранейшае вялікае адзінае ўладанне з часам распрадавалася на кавалкі. Гэтак, 29 жніўня 1493 г. гаспадарскі маршалак і Лідскі намеснік Станіслаў Петрашкевіч (Кішка) купіў *"Олжово, отчизное имение Григория Симоновича"* [13]. Такім чынам, нейкі кавалак Ольжава належаў ужо бацьку Рыгора Сымановіча.

Станіслаў Петрашкевіч (Пятровіч) Кішка паходзіў з магнацкага роду Кішкаў гербу Дуброва і быў сынам Пятрашкі Стрцамілы. Атрымаў мянушку "Кішка", ад якой пайшло прозвішча роду. Займаў шэраг дзяржаўных пасад, у тым ліку падстолія (1487-1488), стольніка літоўскага (1491 г.), намесніка лідскага (з 1493 г.). Удзельнічаў у пасольстве ў Маскву наконт шлюбу дачкі маскоўскага гаспадара Івана III Алены з вялікім князем Аляксандрам.

У 1496 г. браў удзел у выправе караля Яна Ольбрахта на малдаўскага гаспадара, дзе з уласным аддзелам разбіў татараў пад Брацлавам. У 1499 г. атрымаў пасаду намесніка смаленскага, распачаў умацаванне горада. У чэрвені 1502 г. кіраваў абаронай Смаленска ад маскоўскіх войскаў. У 1503 г. разбіў татараў у бітве каля Прыпяці. У тым жа годзе стаў вялікім гетманам і заставаўся ім да 1507 г., калі з маскоўскага палону вярнуўся Канстанцін Астрожскі. У 1506 г. браў удзел у бітве пад Клецкам.

З 1508 г. стаў гарадзенскім старастам. У 1508 і 1511 гг. удзельнічаў у камісіі па размежаванні Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага ў Мазовіі. Каля 1512 г. стаў земскім маршалкам.

Другі раз ажаніўся з дачкой троцкага ваяводы Пятра Мантыгірдавіча Белага Соф'яй, ад якой меў сына Пятра і дачку Ганну (жонка Яна Радзівіла, кашталяна троцкага, а потым Станіслава Кезгайлы, старасты жамойцкага). У спадчыну ад згаслага роду Мантыгірдавічаў ён атрымаў маёнткі Нясвіж, Алыка і Лахва, якія праз шлюб дачкі Ганны перайшлі да Радзівілаў[14].

У XVI ст. Вялікае Ольжава належала Кішкам, а Малое Ольжава - пані Раклёвай[15].

У Кнізе № 229 Літоўскай метрыкі надрукаваны цікавыя дакументы, датычныя судовага разбіральніцтва паміж *"пани Андреевое Завишыча, пани Барбары Кгейзъкгяйловны с паном Станиславом а паном Петром Петровичами* (Кішкамі - *Л. Л.*) *... о бои и грабежы подданых васьковских"* [16] (вядома, што ў старых дакументах Вашкевічы часта называюцца Васьковічамі ці нават Івашкевічамі).

Судовая справа разглядалася камісарскім судом ў Вільні з 19 лістапада 1540 па 24 студзеня 1541 г. Барбара Завіша (з Кезгайлаў, удава Андрэя Завішы[17]): *"Барбара Кгезъкгайловъна жаловала на панятъ трояких, старостичовъ жомойтьских: на пана Станислава а на пана Петра Петровичовъ Теховновъских, о наслаи(ь)е кгвалътовное на йменье свое Васковичы"* [18]. Справа ідзе пра Станіслава Пятровіча і Пятра Пятровіча Кішак (Кіщыцаў), якім належаў маёнтак Ольжава[19].

Падчас суда Пётр Пятровіч Кішка прадставіў *"листъ купчый под завесистыми печат(ь)ми, в которомъ пишет(ь) Грыгорей некоторый Симоновичъ, вызнаваючы самъ на себе, ижъ продалъ пану Станиславу Петровичу, подстолему г(о)с(по)д(а)ръ-*

[10] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 6 (1494-1506). Vilnius, 2007. P. 350.

[11] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 6 (1494-1506). Vilnius, 2007. P. 130.

[12] Метрыка Вялікага Княста Літоўскага. (1523 - 1560). Кніга запісаў 43. Мінск, 2003. С. 80.

[13] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 3 (1440-1498): Uzrasymu knyga 3 / Parenge L. Anuzyte ir A. Baliulis. Vilnius, 1998. C.78.

[14] Думін С. Кішкі // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Мінск, 2005. Т. 2. С. 101.

[15] Шымялевіч Міхал. Збор твораў. С. 25.

[16] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 229 (1540-1541). 10-oji Teismu bylu knyga (XVI a. pabaigos kopija). Vilnius, 2003. P. 94 - 90.

[17] Андрэй Яновіч Завіша (каля 1490 - каля 1534) падкаморы, з 1519 г. цівун віленскі. У другім шлюбе быў жанаты на Барбары Кежгайлам. У 1528 г. выстаўляў у войска 29 коней.

[18] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 229 (1540-1541). P. 95.

[19] Там жа. P. 98.

*скому, державцы лидскому, за полъчетвертаста коп грошей шырокое личьбы имен(ь)е свое Ольжево со всими людми и зъ землями и с тыми польми, што за болотомъ, и с тыми пятма чоловеки, што у Васковичах за Дитвою. И поведил пан Петръ: "Ижь с тых пяти служобъ людей есть тамъ шестъ служоб..."*" [20]. Як бачым, Кішкі пераказваюць факт продажу ім маёнтка Рыгорам Сымановічам, пра які я пісаў вышэй.

Браты Кішкі, якія фігуравалі на вышэйзгаданым працэсе - дзеці ад другога шлюбу Пятра Кішкі і Ганны Юр'еўны Ілініч: Станіслаў (? - 1544), Пётр (1519-1550) і Мікалай (1524-1587)[21].

У 1570-я гг. Ольжава - маёмасць Мікалая Пятровіча Кішкі Цеханавецкага, падляшскага ваяводы, дарагічынскага і белскага старасты. Мікалай Кішка падтрымліваў планы збліжэння ВКЛ з Польшчай, дзякуючы чаму ў 1569 г. стаў падляшскім ваяводам (пасля пераходу ваяводства ў склад Кароны). Заставаўся ваяводам падляшскім да канца жыцця. Быў сенатарам і разам з іншымі займаўся арганізацыяй пахавання караля Жыгімонта II Аўгуста. У 1573 г. браў удзел у працадуры абрання новага манарха Генрыха Валуа. У 1575 г. ён першапачаткова не падтрымліваў кандыдатуру Стэфана Баторыя, аднак прымаў удзел у яго ўрачыстым узвядзенні на трон Рэчы Паспалітай і каранацыйным сойме. Потым ніколі не належаў да яго прыхільнікаў і нават супрацiўляўся волі караля ў справе вызвалення ад падаткаў драгічынскіх мяшчан.

Быў двойчы жанаты. Першы раз у 1555 г. з Марынай Заслаўскай, якая памерла ў 1563 г. Другі раз з Барбарай Хадкевіч, дачкой віленскага кашталяна Гераніма Хадкевіча. Меў дачку Барбару (жонку Юрыя Алелькавіча) і сына Мікалая[22].

2 траўня 1579 г. падляшскі ваявода Мікалай Кішка Цеханавецкі запісвае сваёй другой жонцы Барбары з Хадкевічаў у "дажыванне" акрамя іншых і маёнтак Ольжава за яе пасаг у 6 000 коп грошаў літоўскіх[23].

У спісе войска ВКЛ ад 1565 г. нейкі *"Янъ Довлидъ з Олжовского іменя конъ ... з ощепомъ* (кап'ём - *Л. Л.*)" [24].

У спісе войска ВКЛ ад 1567 г.:

*"Янъ Тукало з Вольжава ставилъ братанича своего Миколая Юрьевича, конь, пнцр, ..., тарч ...; самъ Янъ Тукало служитъ пану подчашому. Ян Довлюдъ з ыменья своего Олжово ставил слугу Мартина Станиславовича, а самъ служил Собостьяну Третяку, ставил мерына, ... рогати"* [25].

*"Матеевая Нелюбовая Настасья вдова з ыменей своих - Олжова, съ Пелесы, з Ворнянъ, з Ваверки, конниковъ 6 пнцр. ..., тарчъ ... выслала слугъ своихъ, при томъ почьте поставила драбов 3 у зброяхъ блях. а рогати"* [26].

*"Станиславъ Радивиловичъ з Олжова, кляча, ... прил.*[27] *"* [28].

Вядома, што ў 1586 г. Канстанты, Станіслаў і Мікалай Тукалы дакупілі яшчэ нейкую маёмасць у Ольжаве, але, як бачым са спісу войска ВКЛ ад 1567 г., Тукалы ўжо валодалі тут нейкай маёмасцю.

Крыштаф Тукала 13 траўня 1603 г. запісаў сваёй жонцы Гальшцы Сабакінаўне 1000 коп літоўскіх грошаў на маёмасць Ольжава і Гарадзішча. Запісам у кнігах земскага суда ад 16 лютага 1612 г. за Гальшкай Сабакінаўнай (па другім мужы Дышкевічавай) была пацверджана яе маёмасць: Гарадзішча, Вольжаў і Жданаўшчына Сабакінская[29].

З пачатку па канец XVII ст. інфармацыі пра Ольжава покуль няма.

У рэестры Лідскага павета за 1680 г. у Белагрудскай парафіі знаходзім:

- Ольжава Тукалаўскае (гаспадар Станіслаў Тукала) - 1 дым;

У Лідскай парафіі:

- Ольжава лідскага падсудкавіча і лідскага войскага Яна Альшэўскага († 1695) - 9 дымоў;
- Ольжава лідскага падсудкавіча, лідскага скарбніка Юзафа Альшэўскага, († 20.03.1693, забіты жмудскай суддзёвай Аленай Шэмёт з Тышкевічаў і яе сынам Уладзіславам Шэмётам) - 9 дымоў;
- Ольжава Самуэля Радзівілавіча - 1 дым;
- Ольжава з млынам Франскевіча-Радзімінскага - 45 дымоў[30];

Верагодна, прозвішчы Альшэўскіх паходзілі ад назвы іхняга маёнтка Ольжава.

У падымным рэестры Лідскага павета за 1728 г. бачым у Лідскай парафіі:

- Яп Самуэль Радзівілавіч з Ольжава, тры чвэрці дыма.
- Яв паны Ян і Юзаф Альшэўскія з Ольжава Нелюшоўшчыны (?), 16 дымоў.

[20] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 229 (1540-1541). P. 99.
[21] Думін С. Кішкі // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Т. 2. С. 101.
[22] Там жа.
[23] Литовская метрика. Кніга 272. (1576-1579). Мінск, 2015. С. 234 - 236.
[24] Русская историческая библиотека, издаваемая Археографической комиссией. С.-Петербург, 1915. Т. 33. С. 285.
[25] Там жа. С. 747.
[26] Там жа. С. 749 - 750.
[27] Прылбіца - тып шлема. Адрозніваліся паўсферычнай тульяй якая даходзіла да пераносся і таму меліся паўвыразы для вачэй. Забяспечваліся кругавой барміцай якая цалкам закрывала твар.
[28] Русская историческая библиотека, издаваемая Археографической комиссией. С.-Петербург, 1915. Т. 33. С. 753.
[29] Biblioteka Czartoryjskich. Archiu Drucko-Lubeckich. Sygn. 13135. Аркушы без нумароў.
[30] Metryka Litewska. Rejestry Wielkiego Ksestwa litewskiego. Wojewodztwo wilenskie 1690 г. Warszawa, 1989. S. 200-235.

- Яп Юзаф Альшэўскі з Вострава з карчмой, 28 дымоў.

- Яп Стэфан Контрым з Ольжава, адзін дым.

У Белагрудскай парафіі:

- Яп Станіслаў Тукала з Ольжава Тукалаўскага, тры дымы.

- Яв ксяндзы лідскія кармеліты з маёмасці Ольжава з млынам каля Палубнікаў, трыццаць два дымы.

- Вяльможны Яго Мосць пан Дэ Кампа Сцыпіён з фальварка Палубнікі ад Ольжава, восем дымоў[31].

У Падымным тарыфе 1775 г., у Лідскай парафіі бачым:

- Ольжава з фальваркамі Крысцінава і Тукалаўшчына Яп Гінета - 3 дымы;

- Вёска Ольжава - 21 дым;

- Вёска Тукалаўшчына - 4 дымы;

- Вёска Далекія - 23 дымы;

- Ольжава Яп падстоліча Яна і вайсковіча Мікалая Альшэўскіх - 1 дым;

- Фальварак Зайкі тых жа Яп Альшэўскіх - 1 дым;

- Вёска Мальгі тых жа Яп Альшэўскіх - 14 дымоў;

- Вёска Раклёўцы тых жа Яп Альшэўскіх - 10 дымоў;

- Вёска Зайкі тых жа Яп Альшэўскіх - 1 дым;

- Вёска Кузьмічы тых жа Яп Альшэўскіх - 2 дымы;

- Ваколіца Верх-Ольжава, у ёй жылі наступныя шляхціцы: Юзаф Ёдка (1 дым), удава Якуба Ёдкі (1 дым), Ігнат Карчэўскі (1 дым), Дамінік Окалаў (1 дым), Юры Окалаў (1 дым)[32], а таксама шляхта Грыневічы[33].

У Вопісах парафій Лідскага дэканата ў 1784 г., у Лідскай парафіі бачым:

- Малое Ольжава, двор Нелюбоўскага, васпана (Вп) Альшэўскага, падстолія Лідскага;

- Ольжава, вёска і карчма Вп Гінета, крайчага Лідскага;

- Вялікае Ольжава, двор Кішчынскага і уніяцкая капліца (ritus graci uniti) Вп Гінета, крайчага Лідскага;

- Далекія, вёска Вп Гінета, крайчага Лідскага;

- Мальгі, вёска Вп Альшэўскага, падстолія Лідскага;

- Падольжава, фальварак Вп Тукалы, будаўнічага Лідскага;

- Раклёўцы, вёска і карчма Вп Альшэўскага, падстолія Лідскага[34].

У Белагрудскай парафіі:

- Зайкі, двор яснавяльможнага пана (Явп) Альшэўскага, Лідскага войскага;

- Тукалаўшчына, фальварак Явп Гінета;

- Зайкі, двор Явп[35] Альшэўскага, Лідскага войскага;

- Кузьмічы (Kuzmicze), Явп Альшэўскага, Лідскага войскага[36].

Недзе з XVIII ст. у Ольжаве існавала грэка-каталіцкая капліца, якая была філіялам лідскай царквы. У акце візітацыі 1784 г. ёсць апісанне капліцы ў Ольжаве: *"На зямлі вяльможных ягамосцяў паноў Гінетаў крайчых Лідскіх[37] ... У Ольжаве. Драўляная, гонтай крытая, на падмурку, высвечаная. Гэтага высвячэння сакрамант быў прэзентаваны. Мае досыць сялян* (парафіян - *Л. Л.*), *мае апаратаў, якія ёсць пад час візіты. ... капліца пабудавана, за кошт .... у Яна Бяльkевіча, сурагатара Гарадзенскага[38], 2 жніўня 1764 г. ахвяравана Лідскай парафіяльнай царкве".*[39]

Будзе карысным расказаць пра старыя дарогі, якія праходзілі каля Ольжава. Міхал Шымялевіч пісаў, што ў даўнейшыя часы дарога з Ліды на Слонім, ці так званы Беліцкі гасцінец, бегла з Ліды на Гарні, Палубнікі і Любары, дзе быў пабудаваны вялікі мост цераз Дзітву. Перад Ольжавам ад той дарогі адхілялася дарога на фальварак Белагруду, бегла яна цераз Дзітву на Парачаны, Голдава і Жалудок і была вядомая пад назвай Зэльвенскага гасцінца[40].

Вось як апісана дарога ад Белагрудскага касцёла ў бок Ліды ў Вопісах парафій Лідскага дэканата ў 1784 г.:

*"Дарога да Ліды, судовага горада і тракт Віленскі ад касцёла Белагрудскага ў кірунку на летні ўсход сонца, ідзе па правай руцэ, даехаўшы да броду, будзе вёска Гарняты за тры стаі да карчмы Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, генерал-лейтэнанта войск ВКЛ, за імі Дубчаны Найяснейшага князя ягомасці Масальскага, біскупа Віленскага за шасцьдзесят стаяў, далей фальварак Белагруда Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, генерал-лейтэнанта войск ВКЛ за трыццаць стаяў, потым Тука-*

[31] Vilnius University Library. F5-A8-1915. Podymny rejestr szlachty powiatu Lidzkiego, 1728. Аркушы без нумароў.

[32] Асабісты архіў аўтара. Арк. 148.; 151.

[33] Malewski Czeslaw. Rodziny szlacheckie na Litwie w XIX wieku Powiaty lidzki, oszmianski i wilenski. Warszawa, 2016. S. 83.

[34] Вопісы парафій Лідскага дэканата ў 1784 г. Парафія Лідская // Лідскі летапісец. 2013. №1 (61). С. 30-35.

[35] Для лідскага пробашча ўсе гэтыя паны - толькі васпаны, а для белагрудскага - яснавяльможныя паны. Белагрудскі пробашч больш высока велічаў шляхціцаў, чым лідскі. Магчыма таму, што яны былі яго суседзі.

[36] Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г. Белагрудская парафія // Лідскі летапісец. 2012. №2 (58). С. 23-26.

[37] У 1788 г. Ян Гінет - Лідскі крайчы. Гл. Herbarz polski Kaspra Niesieckiego, S. J. Powiekszony dodatkami ..., T. 4. Lipsk. 1839. S. 118.

[38] Ілія Бялкевіч - гарадзенскі сурагатар, парах скідзельскі. Гл. Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 124.

[39] ДГАЛ. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 127.

[40] Шымялевіч Міхал. Збор твораў. С. 38-39.

*лаўшчына, фальварак яснавяльможнага пана Гінета за чвэрць мілі, далей мінуўшы брод, па правай руцэ Рубікі ў пацэсіі васпана Сідаровіча і васпанства Ёчаў, з гасцінца, з якога ідуць дарогі да фальварка Тукалаўшчына і вёскі Дубчаны, праз дзевяць стай, па левым баку ідзе дарога да Мохавіч і да Медзеўшчыны, плябаніі Белагрудскай, адкуль на ўсход сонца ідзе дарога на гасцінец Лідскі і Віленскі, да карчмы якая мае назву "Пад крыжамі" яснавяльможнага пана Альшэўскага, на мяжы Лідскай парафіі, тут гасцінец налева ідзе да Вільні на Дайнаву ксяндзоў аўгустынаў да гасцінца Віленскага, які ідзе з Мыто і сходзіцца з Мытлянскім гасцінцам. Сярэдні гасцінец ідзе на Ліду, і крута направа да Шчытнікаў, ад гэтага гасцінца за дзесяць стаяў, ідуць дарожкі, адна да Лідскай парафіі, а другая, направа на поўдзень, да Рубікаў. Шчытнікі дзеляць парафіі Белагрудскую з Лідскай"* [41].

А вось апісанне дарогі з боку Ліды да Белагруды:

*"Дарога да Белагруды цягнецца каля Раклёўцаў на Ольжаў-Нелюбоўскі (Малое Ольжава) васпана Альшэўскага, падстолія Лідскага, дзе і заканчваецца парафія Лідская"* [42].

Вядома, што некалькі вялікіх маёнткаў Лідчыны, сярод якіх былі і Тарноўшчына з Белагрудай, належалі Радзівілам. Недзе пры канцы XVIII ст. яны набываюць і Ольжаўскую маёмасць.

У 1808 г. Мікалай Радзівіл здаў застаўным правам (здаў у арэнду) Тарноўшчыну Тадэвушу Андрэйкавічу на 10 тыс. чырвонных злотых і 130 злотых польскіх. Потым за гэтую маёмасць узнік судовы працэс, і ў 1824 і 1825 гг. бакі падпісалі пагадненне, у выніку якога Андрэйкавіч стаў уладальнікам Тарноўшчыны[43]. Са спісу парафіян-уніятаў 1829 г.[44] бачна, што Ольжава і Далекіе належаць Андрэйкавічам.

У 1820-м г. маёнткам Лебяда і нейкай часткай маёнтка Ольжава валодаў цельшаўскі маршалак Леапольд Горскі (1787-1825). Леапольд Горскі - вядомы калекцыянер. У сваім галоўным маёнтку Салантай ён стварыў нумізматычны кабінет, любіў кнігі і ўмеў атрымліваць ад іх асалоду і таму назапасіў вялікую бібліятэку рэдкіх кніг, у тым ліку і гістарычных твораў XVI-XVII ст. Займаўся пісьменствам і навукай[45].

У 1844 г. маёнткам Ольжава валодаў Рышард Андрэйкавіч (305 душ), нейкая частка Ольжава належала Хэлене Горскай (100 душ), а Антон Альшэўскі валодаў вёскай Зайкі (40 душ)[46].

Юлію Андрэйкавічу ў 1845 г. сярод іншай маёмасці, належала Вялікае Ольжава, ён жа валодаў маёнткам Тарноўшчына. У той жа час маёнтак Ольжава з вёскамі Ольжава, Дудары, Тукалаўшчына, Далекіе, Палубнікі (3694 дзесяцін, 305 дымоў, 305 мужчынскіх і 252 жаночых душ) належаў Рышарду Андрэйкавічу[47].

Сын Тадэвуша Андрэйкавіча Юлій прадаў Тарноўшчыну Канстанціну Кашыцу[48]. З кнігі Чэслава Малеўскага даведваемся, што Кашыц купіў Ольжава ў 1858 г.[49]

**Канстанцін Ян Казімір Яўстах Кашыц** (23.3.1819-1881), сын Юзафа і Соф'і Дунін-Раецкай. Меў братоў Юліюша і Караля і быў жанаты з Юліяй Несялоўскай (1830 г. н.)



***Канстанцін Кашыц (23.3.1819-1881)***

Бацька Кашыца прымаў удзел у кампаніі 1812-1814 гг. на баку Напалеона, быў афіцэрам 17-га уланскага палка. Пасля заканчэння вайны ён на тры гады выехаў за мяжу для працягу адукацыі, пасля чаго вярнуўся і пасяліўся ў маёнтку Ятра Наваградскага

[41] Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г. Белагрудская парафія // Лідскі летапісец. 2012. №2(58). С. 23-26.
[42] Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г. Парафія Лідская // Лідскі летапісец. 2013. №1(61). С. 30-35.
[43] Шымялевіч Міхал. Збор твораў. С. 40.
[44] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Сп. 10. Спіс парафіян Лідскага дэканату 1829 г. Лідская царква Арк. 189 - 193 адв.
[45] Jucevicius Liudvikas. Mokyti zemaiciai. Vilnius, 1975. P. 70-71.
[46] Malewski Czesslaw. Wykaz alfabetyczny z 1844 r. majatkow pow. Lidzkiego // Ziemia lidzka. 2004. № 2(60).
[47] Malewski Czeslaw. Rodziny szlacheckie na Litwie w XIX wieku Powiaty lidzki, oszmianski i wilenski. S. 37.
[48] Шымялевіч Міхал. Збор твораў. С. 40.
[49] Malewski Czeslaw. Rodziny szlacheckie na Litwie w XIX wieku Powiaty lidzki, oszmianski i wilenski. S. 101.

павета. У 1830 г. Юзаф Кашыц быў абраны навагрудскім маршалкам. Падчас паўстання 1831 г. быў арганізатарам выступлення ў Наваградскім і Слонімскім паветах, стварыў у сваім маёнтку асобны атрад, які ў ліпені 1831 г. налічваў каля 1 тысячы чалавек.

Пасля паразы паўстання 1831 г. Канстанцін Кашыц разам з бацькам апынуўся ў эміграцыі ў Францыі - 26 кастрычніка 1831 г. яны прыбылі ў Парыж. У 1838-1842 гг. Канстанцін Кашыц у Дэрпцкім універсітэце вывучаў дыпламатыку. Кандыдат дыпламатычных навук, быў член мясцовай арганізацыі "Палонія". У матэрыялах "Палоніі" праходзіць інфармацыя, што Кашыц меў дачыненне да справы Шымана Канарскага, аднак у іншых крыніцах гэты факт пацверджання не знаходзіць[50].

Канстанцін Кашыц вызначаўся незвычайнымі здольнасцямі, а асабліва рэзкім словам і вострым пяром. У 1850-х гг., калі былі яшчэ дзейныя шляхецкія соймікі, слушнымі жартамі і эпіграмамі моцна дакучаў павятовым і губернскім чынам, праз што нарываўся на прычэпкі з іх боку. Пра аднаго такога саноўніка, які, пішучы ліст да знаёмага, слова "аўторак" ("wtorek") напісаў праз ф - "афторак" ("ftorek"), за што быў празваны "пан Афторак" ("pan Ftorek") - склаў некалькі вершаваных сатыр пад назвамі: "Загадка", "Крыжык", "Дагератып", "Пастка на крэскі (сеймікавыя галасы ці воты)" і г. д.[51]

Згодна са Слоўнікам геаграфічным, у сярэдзіне XIX ст. Вялікае Ольжава - маёнтак Кашыцаў у Тарноўскай валасці, вёскі: Ольжава, Палубнікі, Далекія і Дудары.

Малое Ольжава, маёнтак Кайзерлінга, праваслаўная капліца, вадзяны млын, вёскі: Раклёўцы і Більтаўцы. У XVIII ст. гэтая маёмасць належала да ключа Дзітва кн. Вішнявецких.

Ольжава, маёнтак Кашыца, вёскі: Палубнікі, Далекія, Дудары, Раклёўцы, Банцавічы, Кульбакі, Дубчаны і Цыбары[52].

Гісторык Вольга Гарбачова піша, што ў паўстанні 1863 г. Кашыц выконваў абавязкі цывільнага кіраўніка па Наваградскім павеце, аднак выступаў супраць пашырэння паўстання. Пазней ён сцвярджаў, што пагадзіўся на кіраўніцтва з мэтай нейтралізаваць актыўнасць прыхільнікаў узброенага выступлення. 20 красавіка 1863 г. Кашыц адмовіўся ад выканання сваіх абавязкаў і выехаў у Рыгу, затым у Пецярбург і далей у Менск. 17 чэрвеня 1864 г. ён быў арыштаваны і падчас допыту 30 ліпеня 1864 г. даў поўныя і шчырыя паказанні, па выніках якіх былі раскрыты шэраг членаў і дзеянні навагрудскай паўстанцкай арганізацыі. Рашэннем часовага палявога суда ў Вільні Кашыц быў прысуджаны да смяротнага пакарання, аднак гэтае рашэнне перагледзеў М. Мураўёў і па канфірмацыі ад 15 студзеня 1864 г. *"за заслугі перад следствам"* ён быў пакараны ссылкай у Казанскую губерню з утрыманнем пад пільным паліцэйскім наглядам. Правы і маёнткі былі захаваны за Кашыцам. Пасля выплаты ім 9000 рублёў срэбрам з маёнткаў быў зняты секвестр.

Паводзіны Кашыца ў перыяд следства становяцца прычынай нападак на яго з боку ўдзельнікаў паўстання. Гэта відаць ва ўспамінах, прысвечаных перыяду этапавання і ссылкі. Пра негатыўнае стаўленне да Кашыца з боку былых паўстанцаў згадвае Якуб Гейштар. Спыняецца на гэтым факце і гісторык Рышард Мяніцкі. Ён пісаў, што да канца жыцця за Канстанцінам Кашыцам быццам цені цягнуліся *"слушныя папрокі і кляймо здрадніка. Пасля вяртання палякі не жадалі прымаць яго ў сваіх дамах, не жадалі з ім размаўляць"*. Апісвае сваю сустрэчу з Кашыцам па дарозе ў ссылку і Апалінарый Свентажэцкі, ён сустрэўся з Кашыцам на этапе ў Цюмені, Вольга Гарбачова падае фрагмент з успамінаў: *"У партыі польскіх ссыльных на караблі знаходзіўся Кашыц з Навагрудскага павета ... хтосьці з прыяцеляў пазнаў яго. У нашай групе было чалавек дваццаць навагрудцаў, і большасць з іх лічылі сябе ахвярамі "здрады" Кашыца. Слова "здрада" прычапілася да гэтага слабога і нешчаслівага чалавека, як чорная пляма, якой ніколі немагчыма адмыць. Распавядалася пра гэта шмат і шырока. Падлічвалі ягоных ахвяраў... Абурэнне і агульнае таўраванне нарастала з распаўсюдам разнастайных версій. Калі на караблі даведаліся пра прысутнасць Кашыца, усё забушавала. Асабліва моцна выступалі навагрудцы. Уся прыхаваная антыпатыя і крыўда выліліся, як вулканічная лава. Вайсятыч, Грынявецкі, Пансет і іншыя кідалі гром і маланкі. Марна спакайнейшыя людзі, жадаючы прадухіліць буру, спрабавалі ахаладзіць распаленыя галовы. Усё скончылася тым, што Кашыца перавялі з групы палітычных ссыльных і адправілі яго на "баржу" да крымінальных злачынцаў. Акт помсты быў выкананы"*.

Вольга Гарбачова лічыць, што, магчыма, справа Кашыца насамрэч не была настолькі адназначная. У каментарах да ўспамінаў А. Свентажэцкага Зоф'я Кавалеўская, якая падрыхтавала іх да друку, пакідае наступнае ўласнае дапаўненне: *"Адчуваю свой абавязак дадаць тут некаторыя факты, якія ў некаторай ступені павінны рэабілітаваць імя і памяць памерлага Кашыца. Склаў ён свае сведчанні на судовым следстве не з мэтай уратаваць сябе, як меркавалі пра гэта іншыя, а пад уплывам трохразовага катавання; у хвіліну болю і фізічнага аслаблення і дух мог лёгка аслабець. Вусны прашапталі месца схованкі пад Обрынскім палацам, дзе захоўваліся дакументы Нацыянальнага ўрада. Ці тыя, хто пазней кідаў у яго камяні, маглі б прысягнуць, што ў адпаведнай сітуацыі былі б больш трывалыя за Кашыца? Сведка, які апынуўся там у нейкай цывільнай судовай справе... распавядае, што ўбачыў у астрозе слабы цень*

[50] Гарбачова В.В. Паўстанцы 1863 года на фотаздымках // Arche. 2010. № 12. С. 123.
[51] Шымялевіч Міхал. Збор твораў. С. 41.
[52] Slownik Geograficzny Krolestwa Polskiego i innych krajow slowianskich. Warszawa, 1886. T. VII. S. 520.

*чалавека, параненага бізунамі і напалову непрытомнага ад болю. Кашыц усё жыццё шкадаваў пра гэтую хвіліну слабасці, якая вырвала ў яго паказанне і прыняла да новых ахвяраў".*

З 22 траўня 1865 г. Кашыц знаходзіўся ў Цывільску. 19 сакавіка 1866 г. ён атрымаў дазвол на трохмесячную паездку ў Менскую губерню для продажу свайго маёнтка, пасля чаго ў Цывільск болей не вярнуўся. У 1866 г. ён выехаў на чатыры месяцы ў Пецярбург, а 2 студзеня гэтага ж года выехаў у Маскву. У 1867 г. Кашыц атрымаў дазвол на выезд за мяжу, а ў снежні 1868 г. яму было дазволена пражыванне ў Рызе. Некалькі разоў Кашыц потым прыязджаў у свой маёнтак Обрын Наваградскага павета. У красавіку 1869 г. ён быў вызвалены з-пад паліцэйскага нагляду, а ў 1872 г. атрымаў дазвол на свабодны выбар месца пражывання.

З 1876 г. Кашыц жыў у маёнтку Обрын і займаўся гаспадаркай. Меў сыноў Юзафа Калікста (1855 г. н.) і Аляксандра Фелікса (1857 г. н.), дачку Ванду Людвіку (1860 г. н.). Маёнтак Обрын з'яўляўся ўласнасцю сям'і Кашыцаў да 1939 г. Канстанцін Кашыц пакінуў успаміны, прысвечаныя перыяду навучання ў Дэрпцкім універсітэце, якія захоўваюцца ў Аддзеле рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве (BN, rkps. 2981), апрацаваныя прафесарам Янам Трынкоўскім[53].

Ёсць меркаванне, што яшчэ ў час паўстання на зямлі Канстанціна Кашыца паміж Малым Ольжавам і Мохавічамі (у Шчытніках) былі ўстаноўлены памятныя крыжы па загінулых у баі паўстанцах.

Міхал Шымялевіч пісаў, што Канстанцін Кашыц, сасланы на выгнанне, праз нейкі час вярнуўся ў край і змушаны быў, як кажуць, "добраахвотна" падпісаць 25 траўня 1866 г. акт, у сілу якога прадаў Тарноўшчыну (разам каля 2500 дзесяцін), генералу Дзмітрыю Маўрасу за 56 300 рублёў, у гэтай суме набыўца прыняў да пагашэння 12 000 рублёў доўгу былога ўладальніка Юлія Андрэйкавіча і саступіў прадаўцу дом у Рызе, ацэнены ў 25 000 рублёў[54].

Акрамя Тарноўшчыны Маўрас набыў Мыто, Дзітву Талвашоўскую, Паперню, Нявішу, Дубічы, Вялікую Лябяду, Зданаўцы, Няцеч, Ярэмічы, Жукаўшчыну і інш., разам каля 15 000 дзесяцін або 150 км$^2$ - цэлае нямецкае княства сярэдзіны XIX ст.! У 1876 г. Маўрас атрымаў у кесара Франца Іосіфа дыплом на графскі тытул, які яму ў тым жа годзе прызнаў цар Аляксандр II. Дзеля свайго адзінага сына Мікалая граф Дзмітры Маўрас 20 снежня 1883 года атрымаў ад імператара Аляксандра III імянны ўказ, паводле якога тарноўскія землі склалі ардынацыю, ці маярат, у які ўваходзілі: Тарнова, Андрушкі, Малы Ольжаў, Данеўшчына, Манькавічы, Ярэмічы, Лебяда. Туды таксама быў уключаны дом у Вільні з багатай бібліятэкай і каштоўнымі рэчамі. Агульная плошча сельскагаспадарчых зямель ардынацыі (па расейску - "заповедного имения") дасягала 3 500 дзесяцін з фальваркамі, цагляным і вапнавым заводамі.

У 1861 г. пасля скасавання прыгону з прыгонных зямель Тарноўшчыны, Радзівонішак, Малога Ольжава, Вялікага Ольжава, Кульбакаў і Дзітвы Шамятоўскай утворана вясковая Тарноўская воласць з сядзібай у маёнтку Тарноўшчына. У склад Тарноўскай воласці спачатку ўваходзілі вёскі Парачаны, Масявічы, Хадзюкі, Гарняты, Рэпнікі, Бабоўцы, Палубнікі, Далекія, Дудары, Раклёўцы, Банцавічы, Ольжава, Кульбакі, Монькаўцы, Цвербуты, і Більтаўцы, разам вёсак 16, душ 848. У 1866 г. да Тарноўскай воласці далучылі са скасаванай Голдаўскай воласці вёску Дзітрыкі, а з Лідскай воласці дадалі вёскі Мохавічы, Янаўляны, Дубчаны і Цыбары, прычым Тарноўская воласць была падзелена на тры вясковыя грамады - Тарноўскую, Ольжаўскую і Радзівонішкаўскую. Пасля гэтага Тарноўская воласць налічвала 20 вёсак, сялянскіх душ паводле рэвізіі 1857 г. - 1166.

У 1906 г. у Тарноўскай воласці налічвалася 20 вёсак, сялянскіх гаспадарак - 680, мужчын - 3 501, жанчын - 2 406, разам - 4 907; рольнай зямлі - 5 227 дзесяцін: коней - 652, кароў - 1 632 і іншага быдла - 2050 штук. Кожная вясковая грамада мела ўласныя запасы збожжа. *"За польскім часам"* Тарноўскай гміне была прысвоена назва *"Белагрудская"* [55].

Памёр генерал Дзмітры Маўрас у 1896 г., а за няпоўныя трыццаць гадоў пасля яго смерці магнацкая фартуна рассыпалася, і ад ардынацыі засталася адна частка. Яго сын, малады граф Маўрас пасля смерці сваёй жонкі быў прызнаны за асобу няпоўнага розуму, у 1911 г. аддадзены пад апеку, а ў 1919 г. памёр у Гатчыне. Павятовы надаўчы камітэт у Лідзе 11 красавіка 1921 г. прыняў ва ўласнасць Польскай дзяржавы частку той ардынацыі - фальваркі Малы Ольжаў, Шчытнікі, Белагруду, Чыжоўшчыну і Бабоўцы[56].

Прывяду тое, што знайшоў пра Ольжава ў прэсе.

Увосень 1906 г. прэса пісала пра некалькі рабункаў на Лідчыне: "*У ноч на 18 верасня ў фальварку Ольжава у Тарноўскай гміне абрабаваны арандатары Гірш Гутоўскі і Дварынскі. Рабаўнікі Юзаф Мерч-Аляксееў і Мікалай Пухальскі (сын кантралёра акцызнай палаты) былі арыштаваны з забранымі грашыма"*[57].

Пра пажар: *"У Лідскім павеце гэтай восенню ўсё болей пажараў. У пані Красіцкай у маёнтку Ольжава спалілася гумно і свіран, яшчэ ў трох маёнтках яе пагарэлі гумны. Дрэнна, што прападае шмат хлеба - усё, што сёлета з поля сабралі, ад гэтага хлеб падаражае, а пад вясну і мужыком ня будзе гдзе ку-*

[53] Гарбачова В.В. Паўстанцы 1863 года на фотаздымках. С. 124 - 125.

[54] Шымялевіч Міхал. Збор твораў. С. 41.

[55] Шымялевіч Міхал. Збор твораў. С. 41.; 45.

[56] Гл.: Лаўрэш Леанід. Кароль Андоры з-пад Ліды // Маладосць №10-2014. С. 114-125.; Лаўрэш Леанід. Яшчэ раз пра караля Андорры // Лідскі Летапісец. 2018. № 1(81). С. 37-50.

[57] Kuryer Litewski № 219, 29 wrzesnia (11 pazdziernika) 1906.

*ціць.... . Арыштаваны да суда 8 чалавек з вёскі Ольжава, вінавацяць іх у тым, што пасвілі быдла па лесе пані Красіцкай. Вёска гаворыць, што яны не пасвілі, толькі раз дзеці мімаходам прыпусьцілі*" [58].

У кастрычніку 1916-га забойства адбылося ў вёсцы Ольжава, што каля Ліды. Жыхар гэтай вёскі *"Канстанцін Мазалеўскі за душагубства і спробу забіць чалавека засуджаны на смерць"* [59].

Відочна, што з 1920-х гг. па ўплывах на насельніцтва сярод беларусаў Грамада перамагала ППС, і з другой паловы 1926 г. беларуская прэса пачала стала друкаваць лісты былых "пэпэсаўцаў", якія выйшлі з партыі і далучыліся да Беларускай Грамады. Напрыклад, у снежні 1926 г. у газеце "Наша Справа" надрукаваны лісты былых "пэпэсаўцаў" Ігната Ганевіча з вёскі Ольжава і А. Кліма з вёскі Вялікія Канюшаны[60].

9 жніўня 1928 года "Лідскае жыццё" змясціла зацемку наступнага зместу: *"Ушанаванне палеглых у 1863 годзе. Дня 5 жніўня ў Шчытніках Тарноўскай гміны адбылося ўрачыстае асвячэнне магілы палеглых герояў, удзельнікаў баёў 1863 года.*

*Крыж і надмагільны камень*[61] *зафундаваў вайсковы асаднік п. Кілінскі. Яго стараннем пры дапамозе асаднікаў п. Бердаўскага і палкоўніка Ардылоўскага была арганізавана ўрачыстасць.*

*Прыгожую і ўзнёслую прамову сказаў ксёндз Гародка, звяртаючыся да баёў 1863-64 гадоў.*

*Ва ўрачыстасці брала чынны ўдзел люднасць, мясцовая Белагрудская школа са сваёй харцэрскай дружынай і дзятва з Горнага Шлёнска, якая прыбыла ў Белагруду ў летні лагер"* [62].

20 кастрычніка 1930 г. у маёнтку Вялікае Ольжава былі падпалены стадола і свіран. Пабудовы згарэлі разам з 16 тонамі збожжа. У тушэнні пажару бралі чынны ўдзел добраахвотныя пажарныя дружыны з вёсак Далекія і Парачаны, а таксама мясцовыя сяляне. Шкода ад пажару - 75 000 злотых [63].

Пад суд траплялі нават вельмі ўплывовыя людзі, напрыклад Лідскі акруговы суд прыгаварыў уладальніцу маёнтка Малы Ольжаў графіню Эльжбэту Красіцкую на 8 месяцаў турмы за парушэнне межаў зямельных надзелаў [64]. Ці адбывала яна свой тэрмін пакарання - невядома.

Трэба сказаць, што ў 1920 - 30-я гг. каля Шчытнікаў валодаў фальваркам і гаспадарыў у ім адзін з заснавальнікаў і фундатараў беларускага руху на пачатку ХХ ст. доктар Амброзі Кастравіцкі[65].

* * *

Пасля прымусовага продажу Тарноўшчыны за Кашыцамі застаўся маёнтак Вялікае Ольжава. Прадстаўніцай роду ў той час з'яўлялася - графіня Зоф'я Красіцкая, з дому - Кашыц (28.02.1852 - 25.01.1933). Яна нарадзілася ў Тарнове і была дачкой Канстанціна Кашыца і Юліі з Нясілоўскіх. Муж - Раман Станіслаў Красіцкі (1844-1878). Мела сына Алексу Яна Мар'яна (1878-1935), які быў жанаты з Альжбетай Красіцкай. Памерла ў Лідзе, пахавана на Росах ў Вільні.

Лідскія Красіцкія паходзяць з Літоўска-Валынскай лініі графаў Красіцкіх. Прадзед Цэцыліі - Юзаф Красіцкі (сын Караля Аляксандра Красіцкага і Катажыны з Чацвярцінскіх), быў жанаты з Юстынай з Сапегаў, яны мелі двух сыноў, якія памерлі ад сухотаў. Дзед Цэцыліі Красіцкай - Раман памёр ва ўзросце 34 гадоў за некалькі месяцаў да нараджэння свайго сына і бацькі Цэцыліі, быў жанаты з Зоф'яй з Кашыцаў.

Бацькі Цэцыліі - Алекса і Альжбета Красіцкія першыя тры гады адразу пасля шлюбу жылі ў радавым маёнтку Шабастоўка на Падоле. Пасля заканчэння польска-бальшавіцкай вайны, у 1921 г. бацькі Цэцыліі пераехалі ў маёнтак Вялікае Ольжава, які належаў Зоф'і Красіцкай з Кашыцаў - маці Алексы Красіцкага, бабулі Цэцыліі.

У 1936 г. Альжбета Красіцкая выдае ў Лідзе кніжку паэзіі[66]. У рэцэнзіі надрукаванай у газеце "Лідская Зямля", указваецца, што графіня ў сваёй кнізе прапагандуе мясцовы фальклор і з'яўляецца прыхільніцай народнага мастацтва. *"Пані Красіцкая, была адной з першых, хто падтрымаў неабходнасць узняць якасць вырабаў з мясцовага ільну да ўзроўню, калі ён змог бы цалкам замяніць бавоўну. Праблемы ільнаводства ў 1930-м г. яна абмяркоўвала на старонках "Сучаснай кабеты". Энтузіястка рэгіяналізму і сялян, у сваіх вершах яна акцэптуе сваё гарачае замілаванне да вёскі"* [67]. Дадам, што з патрыятычнай ідэяй цалкам

[58] Наша Ніва №32, 26(8) akciabra 1907.

[59] Гоман № 72, 20 кастрычніка 1916.

[60] Наша Справа № 8, 24 снежня 1926.

[61] Той крыж прастаяў да канца 90-х гадоў, на ім была пазначана дата: 1925 год, і старыя людзі апавядалі пра камяні з надпісамі, якія пры саветах патапілі ў балоце, і месца паказалі. Такім чынам, можна лічыць, што першы крыж на магілах паўстанцаў паміж Малым Ольжавам і Мохавічамі, каля якога былі пастаўленыя новыя крыжы ў 1995 г., быў пастаўлены ў 1925 годзе, а надмагільны камень, якога няма - у 1928 годзе. Аўтэнтычны камень 1863 года захаваўся на адной з магіл праз усе часы і ўлады. Больш чым праз паўстагоддзя стары лідзянін Мікалай Стралюк успамінаў: *"Гэта месца называюць Грушы, было шмат грушак. Быў вялікі камень. Там было напісана 1863 г. Крыжык быў такі, крыж паставілі ў 1925 г. Паставіў асаднік Лучко. Знайшоў камень з датай 1863 г. Зрабілі мітынг, ксёндз асвяціў. Ядловец пасадзілі каля крыжа. Грубы быў, высокі. Палкоўнік Ардылоўскі Стэфан. ... Камень загарнулі ў Малым Ольжава або пад лазню, або пад кароўнік ... у траншэю"*.

[62] Zycie Nowogrodzkie № 183 (217), 9 sierpnia 1928.

[63] Slowo № 245 (2455), 24 pazdziernika 1930.

[64] Kurjer Wilenski № 278 (4239), 9 pazdziernika 1937.

[65] Гл.: Лаўрэш Леанід. Амброзі Кастравіцкі // Лідскі летапісец. 2019. № 3 (87). С. 49-52.

[66] Elzbieta Krasicka. Okruchy. Poezje. Lida, 1936.

[67] Ziemia Lidzka. 1936. № 7.

замяніць імпартную бавоўну на мясцовы лён у той час выступіў генерал Люцыян Жалігоўскі.

Маёнтак Вялікае Ольжава меў 2500 га і кіраваўся адміністратарам, палац маёнтка разам з іншымі пабудовамі быў спалены падчас вайны. Захаваўся толькі драўляны сядзібны дом, пабудаваны ў XVIII ст., у ім і пасяліліся новыя гаспадары. Гэты стары дом меў анфіладную планіроўку, праз увесь дом можна было пераходзіць з пакоя ў пакой. Першым у доме быў доўгі калідор, потым канцылярыя. У сярэдзіне мелася вялікая сталовая (са сталовай можна было адразу прайсці ў бацькоўскую спальню), за ёй салон, потым тры пакоі ў шырыню дома. За салонам была гасціная, потым кабінет бацькі, спальня бацькоў, спальня Цэцыліі, пакой Цэцыліі, пакой гувернанткі-францужанкі, потым пакой служкаў і кухня. Паміж пакоямі стаялі вялікія кафляныя печы, кожная з якіх абагравала адразу два памяшканні.

Перад сядзібай расла ліпа, пад якой стаялі стол і лавы. Сядзібны дом замыкаў квадрат фальваркa, у якім мелася стадола, спіхлеры[68] для сена і саломы, парк з садам і згарэўшым палацам, за палацам меліся аборы і стайня, кузня і дамы для прыслугі на чатыры кватэры (так званыя чваракі). Мелася таксама птушарня для качак і гусей, якія плавалі ў суседняй сажалцы, а ў парку жылі дзве павы. Перад згарэўшым палацам быў вялікі газон, на якім расла белая спірэя і квітнелі чырвоныя райскія яблыні, ствараючы гэтым бела-чырвоную кукарду. Двор быў аточаны садам, у якім было шмат маліны.

Маёнтак спецыялізаваўся на вытворчасці малака, у гаспадарцы трымалі каля 100 малочных кароў. З гэтага малака яўрэй Ілютовіч, які жыў у маёнтку, вырабляў галандскія сыры. Ольжаўскія сыры можна было купіць у самім маёнтку, у Лідзе, Вільні ці Варшаве і нават у самой Галандыі.

Па звычаі, на Каляды, леснікі маёнтка праносілі праз двор елачкі. Бацькі Цэцыліі выбіралі самую прыгожую елачку і ўзнагароджвалі лесніка, які яе прынёс. Астатнія елкі раздавалі прыслузе.

А на Вялікдзень сям'ю прыходзіў віншаваць мясцовы яўрэй Ілютовіч. Ён прэзентаваў гаспадарам маёнтка скрынку з мацой. На Вялікдзень заўсёды быў прыгожа ўбраны вялікі стол пад белым абрусам, на якім стаяла шмат прысмакаў. На раніцы ўсе ехалі ў Белагрудскі касцёл на імшу, якую праводзіў ксёндз Гародзька, пасля імшы вярталіся на святочны сняданак.

Цэцылія нарадзілася ў 1921 г. у Лідзе, але месцам нараджэння было запісана Вялікае Ольжава.

Маці Цэцыліі Альжбета Красіцкая добра ведала арцыбіскупа-мітрапаліта Рамуальда Ялбжыкоўскага, які ўгаварыў яе прыняць удзел у пабудове Слабадскога касцёла ў Лідзе. У выніку, касцёл быў пабудаваны з лесу маёнтка Вялікае Ольжава. Цэцылія нават на год пазней прыняла першую камунію, каб зрабіць гэта менавіта ў новым касцёле. Першую камунію прымала разам з дзвюма дочкамі служак, пасля імшы дзяўчынак у Вялікім Ольжаве частавалі марозівам.

Цэцылія расла і выхоўвалася ў маёнтку, яна мела тут няню па прозвішчы Капля і гувернантку-францужанку мадам Шубэн, жонку царскага афіцэра. Да паступлення ў школу Цэцылію рыхтаваў дырэктар суседняй школы П. Маргенстэрн.

У 10 гадоў Цэцылія пачала вучыцца ў пансіёне сясцёр-бенедыктынак у Вільні, адразу была прынята ў 4 клас. На пачатку сакавіка, на Казюкі, да дачкі ў Вільню заўсёды прыязджала маці і забірала яе да арцыбіскупа. Арцыбіскупу яны прыносілі кветкі і пернік у выглядзе сэрца. На гэтых спатканнях Цэцылія страшна нудзілася. Аднак на ўсё жыццё яна запомніла, як з







***Гумно ў Вялікім Ольжаве, пабудаванае, верагодна, у першай палове XIX ст. (даўжыня 75 м, шырыня 16 м і вышыня сцен 4 м.) Фотаздымкі Наталлі Тананушкі***

[68] Спіхлер - гаспадарчы будынак, які прызначаўся для захавання зерня ці іншых рэчаў.



***Здымак з калекцыі графіні Цэцыліі Красіцкай. У цэнтры малая графіня Цэцылія Красіцкая з маці Альжбетай, злева французская бона мадам Шубэн, справа дырэктар школы ў в. Далекія П. Маргенстэрн. На заднім фоне, жылы дом XVIII ст., які застаўся пасля Першай сусветнай вайны***

балкона арцыбіскупа назірала за жалобнай працэсіяй, якая перавозіла сэрца маршала Пілсудскага з Віленскай катэдры на могілкі Росы.

А на Каляды і Вялікдзень дзяўчынка вярталася ў Вялікае Ольжава. Падчас летняга адпачынку ў бацькоў Цэцылія любіла ездзіць конна і нават мела свайго каня. У канцы лета 1939 г. з маёнтка ў войска былі мабілізаваны легкавая і грузавая аўтамашыны, таксама забралі коней разам з канём Цэцыліі.

17 верасня 1939 г. Цэцылія разам з маці знаходзілася ў Вялікім Ольжаве. На раніцы яе абудзіла маці і сказала, што Саветы ўвайшлі ў Заходнюю Беларусь. Разам яны селі на звычайны сялянскі воз і паехалі ў бок Вільні, у сталіцы Краю яны былі 18 верасня.

У Вільні Цэцылія вярнулася ў свой пансіён і правучылася ўвесь вучэбны год (1939 - 1940). Пасля далучэння Літвы да СССР дзяўчына яшчэ год вучылася ў савецкай школе.

У чэрвені 1941 г. прыйшлі немцы. Яны выдалі загад, які прымушаў уладальнікаў маёнткаў вярнуцца ў свае гаспадаркі. Таму ў ліпені 1941 г. Альжбета Красіцкая з сваёй сяброўкай і дачкой вярнулася ў Вялікае Ольжава. Дом быў заняты, і сям'я пасяліліся у чвараку. У жніўні 1941 г. нямецкія ўлады прызначылі Альжбету Красіцкую адміністратарам маёнтка і выдалі ёй план па здачы сельскагаспадарчай прадукцыі.

З-за небяспекі, на пачатку лета 1942 г. Альжбета Красіцкая з сяброўкай пераехалі ў Ліду, а Цэцылія засталася ў маёнтку і прыняла на сябе абавязкі маці. Але небяспека з боку чырвоных партызан павялічвалася, і восенню ў Ліду пераехала і маладая гаспадыня. У Лідзе дзяўчына пазнаёмілася з сваім будучым мужам Станіславам Маскалам. Каб не патрапіць пад вываз на працу ў Германію, Цэцылія да шлюбу паўтара года працавала на бровары. У гэты час сям'я жыла ў арандаванай палове дома з садам, а сваю швейную машынку Зінгер Альжбета Красіцкая абмяняла на карову і корм для гэтай каровы на два гады, у прыдачу яна атрымала яшчэ і два вядры мёду.

У студзені 1944 г. Цэцылія Красіцкая выйшла замуж за Станіслава Маскалу[69].

Станіслаў Маскала (1916 - 2004) нарадзіўся ў Белагрудзе. Вучыўся ў лідскай гімназіі і з дзяцінства захапляўся музыкай. Пасля гімназіі закончыў школу падхарунжых і 1939 г. сустрэў кадравым вайскоўцам. Падчас вайны знаходзіўся ў Лідзе, быў афіцэрам АК і працаваў арганістам у касцёле.

У студзені 1945 г. Маскала быў арыштаваны і вывезены ў Сібір. Музыка дапамагла яму выжыць і ў лагеры. Ніякай сувязі з роднымі не было, Станіслаў не ведаў, як жыве яго сын Міхал, не ведаў ён і што выхоўвае яго ўжо новы партнёр Цэцыліі. У 1956 г. Станіслава Маскалу выпусцілі з лагера, і ён выехаў у Польшчу. Праз нейкі час паўторна ажаніўся. З першай жонкай і сынам заўсёды меў добрыя стасункі[70].

Адразу пасля арышту мужа, каб не патрапіць пад арышт, Цэцылія выехала ў Вільню. Адтуль перабралася ў Люблін, а потым у Варшаву. Тут, у жніўні

[69] http://ziemianskie-historie.dobrzyca-muzeum.pl/biogramy.php?ido=333
[70] Zareba-Wronkowska Jolanta. Stanislaw Mockallo // Ziemia Lidzka. 2004. № 5 (63).

1945 г. нарадзіўся сын Міхал Маскала-Красіцкі, а ўжо ў верасні яна запісалася ў Акадэмію палітычных навук, дзе вучылася 3 гады[71].

* * *

15 верасня 2017 г. у Варшаве я сустрэўся з дачкой апошняй уладальніцы маёнтка Вялікае Ольжава Цэцыліяй Красіцкай якая ўзначальвае фонд "Крэсы ўсходнія Рэчы Паспалітай, спадчына і памяць".

Жыве Цэцылія Красіцкая ў раёне Варшавы, забудаваным на пачатку 1960-х гг. невялікімі двухпавярховымі домікамі, жыве ў двухпакаёвай кватэры. Калі ў яе гасціннай зале сабраліся іншыя сябры фонду, пачалася двухгадзінная размова, якую Красіцкая пачала фразай: "Мы ўсе нарадзіліся ў Лідзе". Абмяркоўвалася шмат тэм, але галоўнай тэмай быў наш горад.

Напісаць жа я хачу пра дзве рэчы.

Цэцылія Красіцкая дыпламатычна сказала, што шмат з таго, пра што напісаў адзін з аматараў лідскай гісторыі на адным з лідскіх сайтаў пра падзеі ў маёнтку Ольжава, ніколі не было ў рэчаіснасці. На той момант я не чытаў гэтыя артыкулы, таму нават бараніў аўтара і давёў графіні, што ўспаміны людзей, якія прыводзіліся ў тых артыкулах, з'яўляюцца карыснымі толькі тады, калі аўтар добра валодае матэрыялам і разумее як трэба інтэрпрэтаваць напісанае - верагодна ў дадзеным выпадку гэтага не было. Па-другое не трэба ўсур'ёз ставіцца да нейкіх не рэцэнзаваных і не рэдагаваных тэкстаў у інтэрнэце - вартасна гэта амаль тое самае што і надпісы на плоце. Потым, прачытаўшы тыя тэксты, знайшоў яшчэ шмат фактычных памылак, але лічу, што патрэбна з павагай ставіцца да жадання людзей вывучаць нашу гісторыю, нават калі яны не вельмі разумеюць тое, пра што пішуць. Тыя памылкі цалкам зразумелыя, калі ведаць, што аўтар гэтых ужо цалкам забытых тэкстаў нават геаграфіяй (здаецца, гэта яго прафесія) не займаўся ўжо больш за 40 гадоў.



*Аўтар з графіняй Цэцыліяй, 15 верасня 2017 г.*



*У гасцях у графіні Красіцкай, фізік Ян Казлоўскі, пісьменнік Леанід Лаўрэш, сын графіні Войцах-Міхал Красіцкі-Маскала і гаспадыня, Цэцылія Красіцкая, 15 верасня 2017 г.*

Другім цікавым для мяне момантам былі ўспаміны графіні Красіцкай пра мову. Яна сказала, што польскую мову пачала вывучаць ва ўзросце 5 - 6 гадоў разам з французскай, і ў сям'і да гэтага заўсёды размаўляла па-беларуску. Неяк, менавіта ва ўзросце 5 гадоў яна гуляла з сялянскімі дзецьмі, і яны заўважылі ў Ольжава іншых дзяцей, якія размаўлялі на нейкай іншай мове. Спыталіся і даведаліся, што гэтыя дзеці размаўляюць па-польску, бо яны ... палякі!

- А я тады хто!? - закрычала малая Цэцылія - Мама кажа, што гэта мы палякі!

Вось такая гісторыя пра тое, на якой мове размаўлялі графы Красіцкія ў сваёй сям'і ў 1920-я гг.

[71] http://ziemianskie-historie.dobrzyca-muzeum.pl/biogramy.php?ido=333

***Вольга Яхантава***

# Цуд спыніўся над Нёманам

## Мясцовы абраз Маці Божай Крывіцкай аднолькава моцна ўшаноўваецца лідскімі католікамі і праваслаўнымі

У касцёле Святога Юрыя і ў царкве Узвіжання Святога Крыжа аграгарадка Беліца ёсць незвычайны абраз, які аднолькава моцна ўшаноўваюць католікі і праваслаўныя.

Гэты абраз, па легендзе, некалькі стагоддзяў таму з'явіўся ў нашых - лідскіх - мясцінах, у невялікай вёсцы Крывічы і носіць назву Маці Божай Крывіцкай. А ў католікаў да таго ж мае найменне Каралевы Наднёманскай. Вялікую павагу маюць да абраза мясцовыя жыхары, лічачы яго цудатворным. Моцную веру яны ўвабралі ад сваіх бацькоў, дзядоў і прадзедаў. А вось гісторыю мясцовай ушанаванай іконы сёння ведаюць, на жаль, толькі самыя старэйшыя. Адна з іх - 92-гадовая Вера Гулевіч з Табалы.



***Вера Гулевіч***



***Абраз Маці Божай Крывіцкай у Беліцкім касцёле***

**Цудоўнае з'яўленне**

З Верай Аляксандраўнай мы знаёмыя не першы год. Яна - не проста старажыл, а сапраўдны самародак, мае ясную памяць, чыстае сэрца і вялікае жаданне захаваць гісторыю мясцовай святыні. Скажам болей: яна запісвае свае ўспаміны з гісторыі наваколля - усё, што памятае ад бацькоў, дзядулі. Да яе ідуць цяперашнія дзеці, унукі былых яе аднавяскоўцаў з просьбай: "Бабуля Вера, раскажы".

Сама ж жанчына прызнавалася: убачыць артыкул пра абраз Божай Маці Крывіцкай на старонках раённага выдання - яе мара.

Пра абраз Маці Божай Крывіцкай яна памятае па аповедах свайго дзядулі Яна Вяршылы. "Менавіта ён і перадаў мне моцную веру ў гэты абраз", - гаворыць жыхарка Табалы.

- Дзядуля расказваў, што калісьці ў Крывічах быў панскі маёнтак. Там, на грушы, і з'явіўся гэты абраз. На ім была выяўлена Маці Божая з немаўлём Ісусам ва ўлонні. (У іканаграфічнай традыцыі такія абразы называюцца "Ва ўлонні" ("Во чреве"). - *Аўт.*) Калі гэта адбылося, дакладна невядома. Але на гэтым месцы збудавалі драўляную каплічку.

Сведчанні дзядулі адносяцца прыкладна да 1850-1860 гадоў. Ён расказваў, што яму ішоў сёмы год, калі матуля вадзіла яго да першай споведзі ў



***Ян Вяршыла***

Крывіцкую каплічку. Сцены ў яе меліся, а замест падлогі быў пясок. Ён памятаў, што сядзеў і перасыпаў пясок з рукі ў руку.

Дванаццаць год ён пасвіў у пана кароў. Як і ўсе мясцовыя жыхары, хадзіў на фэсты ў гонар абраза Маці Божай Крывіцкай, якія праводзіліся кожны год у дзясятую пятніцу пасля Вялікадня. Гэтая дата называлася Дзесятухай. Маліўся перад абразом, прасіў міласці, здароўя і дабрабыту. Праваслаўныя і каталікі святкавалі разам і маліліся разам. Фэсты былі шматлюдныя.

Фэсты доўжыліся з году ў год да 1914 г., калі пачалася Першая сусветная вайна.

- У 1915 годзе многія мясцовыя жыхары выязджалі, стаўшы бежанцамі, у тым ліку праваслаўныя святары, - расказвае Вера Гулевіч. - Цэркваў не стала.

З 1917 года ход гісторыі змяніўся.

**Звінела Табала на ўсё наваколле!**

У Табале сапраўды была свая царква (на перыяд адсутнасці ў Беліцы). Гэты будынак, у якім пазней размяшчалася школа, захаваўся і зараз знаходзіцца непадалёку ад дома Веры Аляксандраўны.



***Хата ў Табале, у якой была царква***

- Царква размяшчалася ў доме Іосіфа Вяршылы (гэта мой хросны), - расказвае Вера Гулевіч. - Прыхаджане вёсак Баравічы, Дзітрыкі, Жомайдзі хадзілі маліцца ў Ганчарскую царкву (туды бліжэй), а вянчаліся ў сваім прыходзе, у Табале. Мае тата і мама вянчаліся ў Табальскай царкве на Сёмуху ў 1923 годзе. Звычайна вянчанні адбываліся менавіта на Сёмуху і на Пятра. Бывала, з'язджаліся па сем пар. Увесь выган запоўнены брычкамі, коні ў стужках, на шыях званочкі. Звінела Табала на ўсё наваколле!



***Магіла жонкі святара на табальскіх могілках***

Напамінак аб тым, што ў Табале была царква, сёння можна знайсці на мясцовых могілках, у цэнтры якіх ёсць магіла жонкі святара. У 1937 годзе ў Табалу прыязджалі яе сыны і зрабілі каменную пліту. На ёй напісана: "*Жена священника Ольга Яцкевич. Умерла 21 февраля 1923 года. Незабвенной маме*".

**Копія з-пад пэндзля баб0роўскага мастака**

У 1928 годзе была пабудавана царква ў Беліцы. Па сведчаннях, прыхаджане купілі ў Эйшышках драўляную каплічку царска-рускіх салдат, вазамі перавезлі яе і паставілі ў Беліцы. На фундаменце і па сённяшні дзень ёсць надпіс: *"Церковь сия построена в 1928 году при священнике Лебедеве"*.

Вернікі моцна жадалі мець у храме абраз Маці Божай Крывіцкай. І іх мара ажыццявілася. У 1935 годзе жыхары вёскі Яманты Стэфан і Антаніна Карабачы ахвяравалі царкве копію мясцовашанаванага абраза (аб чым на ім захаваўся надпіс). А заказалі яго напісанне ў мастака з вёскі Бабры. Так, жыў тут чалавек, які пісаў абразы, і ў народзе яго звалі Багамаз.

- Калі ў 1930 годзе ў Крывіцкай каплічцы перасталі святкаваць Дзесятуху, каталікі нашай мясцо-






***Царква ў Беліцы і камень з надпісам у фундаменце царквы***



**Копія абраза Маці Божай Крывіцкай з-пад пэндзля бабро́ўскага мастака**

васці пачалі хадзіць на свята ў Беліцкую царкву. Аднавіліся фэсты, на якія прыходзіла шмат людзей з усяго наваколля. Вядома ж, такога праяўленага абраза ў Лідскім павеце не было! Яго вельмі шанавалі! Тады ксёндз Няцецкага касцёла таксама набыў копію абраза Маці Божай Крывіцкай, размясціў яго ў Няцецкім касцёле і ўстанавіў свята Дзесятуху ў мясцовай парафіі. Копія абраза і цяпер стаіць з левага боку ад алтара. Яго носяць вакол касцёла, калі праходзяць з працэсіяй. Ксёндз парафіі Віктар клапоціцца аб касцёле і парафіянах. Бог яму ў дапамогу. А жанчынам, якія спяваюць у касцельным хоры, - Божай ласкі, здароўя і шчыры дзякуй.

Вера Аляксандраўна добра памятае фэст на Дзесятуху 1947 года:

- Я была маладая, мне ішоў 18-ы год. Як і ўсе, чакала свята. У новай штапельнай сукенцы, туфлях, белых шкарпэтках, якія былі вельмі модныя. Жанчыны старэйшага ўзросту - у саматканых спадніцах, хустках-батыстоўках. Апраналі ўсё самае лепшае з таго, што мелі. Дзень быў гарачы, народу вельмі многа. Каля царквы дрэў не было, ды і пляц малы, з левага боку - могілкі, з правага - бульбяныя ямы. Усе людзі месціліся перад царкоўнай брамай. Вады няма. Ахвотныя ішлі цераз дарогу, да студні Балабанскіх. Паналіваюць!.. Але гаспадары, спакой іх душам, не зачынялі вароты і нікога не праганялі. Духавенства (а былі восем бацюшкаў і дыякан) рыхтавалася да службы. І вось зазваніў звон, і ўсе прыціхлі. Хто ў царкве, хто каля царквы. Пачалася літургія. Хор спявае ўсю службу нотныя спевы. Ганна Місюкевіч (Сакалоўская) - галоўная пеўчая. Голас яе, здаецца, прабівае неба і душы вернікаў. Вечная памяць Ганне.



***Фэст на Дзесятуху ў Беліцы, на заднім плане копія абраза Маці Божай Крывіцкай***

**Маці Божая Крывіцкая спынілася ў Беліцы**

Калі ў 60-70-х гадах мінулага стагоддзя была разбурана капліčка ў Крывічах, цудатворны абраз быў перанесены ў Беліцкую каталіцкую каплічку, а пазней - у збудаваны тут касцёл Святога Юрыя. Трэба сказаць, што захавалася святыня цудам і патрабавала неадкладнай рэстаўрацыі. Што і было зроблена.

- Рэстаўрацыяй займаўся прафесійны калектыў майстроў рэстаўрацыйнай майстэрні Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, - расказвае ксёндз Беліцкай



*Абраз Маці Божай Крывіцкай без шатаў*

парафіі Валянцін Хвядук. - На гэта спатрэбіліся не адзін месяц і шмат намаганняў. Аклад дэталёва разбіралі, шліфавалі і паліравалі. Патрабавала ўмяшання і сама выява пад ім. Па пэўнай тэхналогіі аклад быў пакрыты срэбрам, месцамі - золатам, як са знешняга, так і з унутранага боку. Мецэнатам работ выступіў былы парафіянін Беліцкага касцёла, жыхар Санкт-Пецярбурга Мечыслаў Жыгала, які ўзяў на сябе матэрыяльныя выдаткі.

Падчас рэстаўрацыі высветлілася, што выява калісьці (і кімсьці) была пакрыта лакам для мэблі. Такім чынам, людзі, самі таго не ведаючы, закансервавалі выяву, выратавалі яе ад выцвітання і разбурэння. Яшчэ адным адкрыццём стала тое, што абраз раней ужо падвяргаўся рэстаўрацыі. Пад акладам Маці Божая была ў чырвоным адзенні. Але калі рэстаўратары пачалі знімаць мэблевы лак, высветлілася, што першапачаткова адзенне было залаціста-карычневага колеру. Гэта пацвярджае той факт, што абразу вельмі шмат гадоў.

Сёння абраз у абноўленым выглядзе размешчаны ў касцёле злева ад алтара. Да яго прыходзіць маліцца вялікае мноства вернікаў. Жывуць, перадаюцца з пакалення ў пакаленне гісторыя абраза і яе шанаванне. Мясцовыя жыхары сталага ўзросту ўспамінаюць, што ў Крывічы прыходзілі паломнікі з розных вёсак і на каленях здзяйснялі вакол капліцы хрэсныя хады з просьбамі аб дабрадзействе. Вера Гулевіч расказала, як праз малітву і заступніцтва Маці Божай Крывіцкай адна з жыхарак Беліцы, якая ад



*Абраз Маці Божай Крывіцкай у беліцкім касцёле Святога Юрыя*



***Беліцкі касцёл Святога Юрыя***

нараджэня не магла хадзіць, а толькі поўзала, на вачах у вернікаў атрымала вылячэнне. Вера Аляксандраўна ўдзячная ксяндзу Валянціну за яго клопат аб святыні, якая набыла новае жыццё ў абноўленым выглядзе.

Дарэчы, ксёндз Валянцін расказаў аб сваім назіранні: апошнім часам каля абраза часта моляцца маладыя людзі аб дараванні дзяцей. І атрымліваюць жаданае.

По дабраславенні біскупа Гарадзенскай дыяцэзіі Аляксандра Кашкевіча ікона атрымала тытул Каралевы Наднёманскай. Размножаны маленькія абразкі, іх можна ўзяць у касцёле і маліцца дома. На адваротным баку іх - малітва. Зацверджана яна таксама па дабраславенні біскупа Кашкевіча. У ёй прыгожыя і кранальныя словы:

*"Маці Божая Крывіцкая, Каралева Наднёманская, шматлікімі ласкамі Ты абудзіла нашу веру ў Тваю дапамогу, атулі нас Сваёй дабрынёю. Падтрымлівай святы Касцёл, захоўвай і ўмацоўвай нашу веру, абудзі дух любові ў нашых сем'ях. Няхай Міласэрны Бог праз Тваё пасрэдніцтва дадасць адвагі церпячым і адчыніць брамы неба для паміраючых. Будзь нашаю заступніцаю ў кожную хвіліну жыцця і вядзі нас у неба. Аман".*

**Верце, маліцеся - і ўсё атрымаецца**

…У вачах Веры Аляксандраўны Гулевіч падчас нашай размовы не раз блішчаць слёзы.

- У жыцці было многа радасных хвілін, якія немагчыма забыць. Успомніш - і слёзы, як ручаёк крынічны, цякуць… Вось мама ўзяла мяне ў Зблянскую царкву. Мне 10 год, і ад радасці я падскокваю. А вось фэст, Дзесятуха ў Беліцкай царкве. Мне 18. А зараз ужо 92-гі. У 90 год мне надарылася радасць: бацюшка, айцец Іаан, на Дзесятуху звазіў мяне на літургію ў Беліцкую царкву. Не чакаючы, не думаючы, напаткалася мне такая радасць. Вялікі дзякуй айцу Іаану за цуд, які я атрымала. Хутка зноў Вялікдзень. А за ім - праз дзесяць тыдняў - Дзесятуха. Так і хочацца сказаць: "Маладыя, рыхтуйцеся, старыя, спадзявайцеся на цуд! Такога з'яўленага абраза, як абраз Маці Божай Крывіцкай, няма ва ўсім наваколлі. Верце, маліцеся, спадзявайцеся - і ўсё атрымаецца!"

*Паводле lida-news.by.*



***Хата Веры Аляксандраўны Гулевіч***

***Віктар Кудла,***
***выпускнік Ганчарскай сярэдняй школы 1959 года***

# Сачыненне на тэму: “ЗВЕСТКІ ПРА СЯЛЯНСКАЕ ЖЫЦЦЁ, НАВУЧАННЕ, ВУЧНЯЎ І ІХНІ ЛЁС У ГАНЧАРСКАЙ АКРУЗЕ”

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

***З нагоды 80-ці годдзя нападу Германіі на Савецкі Саюз…***

**Звесткі аб жыцці і навучанні пад нямецкай акупацыяй у 1941-44 гг.**

*У сорак першым годзе летам*
*да нас вярнулася вайна.*
*У вёсках нават гаварылі,*
*што будзе з немцамі яна.*

На тэрыторыю Лідчыны вайна прыйшла ў першы яе дзень. Ужо раніцаю 22 чэрвеня 1941 г. фашысцкая авіяцыя бамбіла Ліду. Бамбілі перш за ўсё чыгуначную станцыю і аэрадром. На чынуначным вакзале і каля пераезда на вуліцы Свярдлова былі разбіты два пасажырскія цягнікі з вялікай колькасцю забітых і параненых сярод пасажыраў. На аэрадроме былі разбіты і спалены некалькі знішчальнікаў, пашкоджана ўзлётна-пасадачная паласа. Бомбы таксама былі скінуты на абутковую фабрыку, піваварны завод.

Ад бамбёжкі, кулямётнага абстрэлу з паветра загінулі многія дзесяткі жыхароў горада. Ад паветранага нападу горад абараняў зенітны артылерыйскі дывізіён. Удалося збіць пяць фашысцкіх бамбардзіроўшчыкаў.

Ужо 24 чэрвеня на непасрэдныя подступы да тэрыторыі раёна з паўночнага захаду і поўначы выйшлі наступаўшыя нямецкія войскі.

На захад ад Ліды па рацэ Дзітве да 27 чэрвеня вяла змаганне асобная брыгада.

На другі дзень вайны вайскоўцы інжынерна-аэрадромнага дывізіёна пачалі адыходзіць на поўдзень па шашы праз Дроздава, каб далучыцца да іншых падраздзяленняў у раёне Дзятлава, але ў Беліцы яны наткнуліся на мотапяхоту ворага. Завязаўся цяжкі бой за пераправу цераз Нёман. Амаль усё падраздзяленне было знішчана. Рэшткі параненых савецкіх воінаў былі захоплены фашыстамі ў палон.



**Трынаццацігадовае дзіця Мікалайчык Фелікс Уладзіслававіч:**

*"У нядзелю 22 чэрвеня раніцай мы на гарышчы ў хляве спалі. Прыляцелі самалёты - шмат самалётаў. Адразу пачалі бамбіць. Бамбілі цэнтр горада запальнымі бомбамі - з мазутам. Пажар у горадзе. Цягнік з Гародні ішоў на Маскву. Футбольная каманда нейкая ехала. Цягнік разбамбілі каля пераезду".*

**Вучаніца гімназіі Ярмантовіч Алена:** *"У выніку бамбардзіроўкі запальнымі бомбамі горад ахапілі пажары, і ён быў практычна разбураны. Агонь распаўсюджваўся з велізарнай хуткасцю. На раніцу пасля пажару мы з дзядзькам адправіліся на агляд горада. Я стала адной з першых непасрэдных сведак гістарычнага пералому ў жыцці Ліды. Яе культурна-гандлёвы цэнтр перастаў існаваць, і разам з ім даваенная Ліда знікла назаўжды. Ацалелі абодва касцёлы, але згарэла сінагога. Ні адзін будынак не ўцалеў на ўчастку паміж касцёламі. Тое, што мы бачылі, ужо не было вуліцай. Па абодва бакі ўзвышаліся высокія завалы абпаленай цэглы з бясформеннымі кучамі жалеза. Разваліны яшчэ тлелі, дзенідзе ўверх падымаўся дым, і ад папялішчаў цягнула гарам. Было добрае надвор'е, бліскала на сонцы жалеза з руінаў, вакол стаяла цішыня, ад якой станавілася яшчэ страшней".*

*"Толькі скончылі першы курс, як грымнула вайна,* - успамінае **Зінаіда Віктараўна Кумпяк**, ганчарская дзяўчына. - *Памятаю, у чатыры раніцы мяне разбудзіў моцны выбух - на чыгуначным пераездзе нямецкія "сцярвятнікі" разбамбілі толькі што пасажырскі цягнік Ліда - Менск, які крануўся ў дарогу. У той жа дзень дырэктар вучылішча Цвяткоў сабраў нас і паведаміў страшную вестку аб пачатку вайны. З Ліды, дзе заставацца было небяспечна (горад бамбілі, множылася колькасць забітых), я з аднакурсніцамі рынулася на Ганчары. Над намі пралятал самалёты, і мы хаваліся па кустах".*

Нямецкія войскі, захапіўшы Лідскі раён, стварылі тут моцны апорны вузел, насычаны жывой сілай і тэхнікай. У горадзе знаходзілася да 5 тысяч гітлераўцаў, 140 паліцэйскіх, 108 жандараў, 120 эсэсаўцаў. Ліда пачала лічыцца акруговым цэнтрам. У будынку педвучылішча размяшчаўся гебітскамісарыят, у СШ № 10 - гестапа, у СШ № 1 - шпіталь, у будынку ашчадкасы - раённая ўправа, палявая жандармерыя і іншыя карныя ўстановы. З дапамогай гэтай магутнай машыны прымусу і гвалту фашысты насаджалі свой "новы парадак", рабавалі прадпрыемствы і вывозілі абсталяванне ў Германію..

"Новы парадак" быў бачны ва ўсім: было забаронена з'яўляцца на вуліцах з наступленнем цемры, фашысты сістэматычна і наўмысна наладжвалі масавы тэрор: расстрэльвалі савецкіх ваеннапалонных, прадстаўнікоў інтэлігенцыі, мірных грамадзян, забіралі жыхароў у нямецкія канцэнтрацыйныя лагеры.

Сакратар Баранавіцкага абкама ЛКСМБ **Рунт Марыя Іванаўна:**

*"У 4 раніцы я прачнулася ад грукату выбухаў і крыкаў: "Вайна. вайна". Я выбегла з пакоя, нават спрабавала супакоіць плакаўшых жанчын, кажучы ім: "Гэта вучэнні, манеўры". Але хтосьці крыкнуў: "Якія манеўры, вунь фабрыка "Ардаль" гарыць!". Я схапіла свой партфельчык і пабегла ў гаркам партыі. Была ранняя раніца, але работнікі былі ўжо на месцах. Аддаваліся распараджэнні аб патруляванні на вуліцах горада, каб на вуліцах было як мага менш народу, каб*



*усе мелі газаахоўнікі. Вырашана было працягнуць працу канферэнцыі, ніхто не думаў, што пачалася вайна, усе думалі, што гэта буйная правакацыя. (Дарэчы дэлегатамі канференцыі былі камсамольцы-дроздаўцы першай на Лідчыне камсамольскай аргаізацыі - Шут Генадзь, Кудла Іван, Курылаў Федзя). І вось у 9 раніцы, як і прызначалася, канферэнцыя працягнула сваю працу. Пасяджэнні праходзілі пад грукат выбухаў, некалькі разоў перарываліся. Бомбы падалі зусім блізка, уздрыгвала зямля, дрыжаў будынак, мы выбягалі, падалі пад кусты і ў канавы, пасля налёту працягвалі працу. І толькі ў 12 гадзін, калі было перададзена ўрадавае паведамленне аб тым, што пачалася вайна, праца канферэнцыі прыняла іншы характар. Прывезлі зброю самых розных відаў і калібраў і пачалі раздаваць дэлегатам канферэнцыі.*

*Адразу з адступаўшымі на ўсход чырвонаармейцамі камсамольцы вёскі Дроздава Генадзь Шут і Іван Кудла апынуліся ў г. Магілёве. Там яны сустрэліся з кіраўнікамі камсамолу Беларусі. І ім далі заданне вярнуцца і падымаць камсамольцаў і моладзь на барацьбу з захопнікамі. У хуткім часе яны расшырылі падпольную камсамольскую групу (дарэчы першую з 40-га года на Лідчыне), у якую увайшлі былыя навучэнцы Ганчарскай школы: аднавяскоўцы-дроздаўцы- Шут Генадзь Сцяпанавіч - стваральнік і кіраўнік групы, Курылаў Фёдар Дарафеевіч, Кудла Іван Канстанцінавіч і Быстрыцкая Марыя Іванаўна, Кудла Уладзімір Канстанцінавіч, Ненартовіч Вацлаў, Каханоўскі Браніслаў Міхайлавіч, Кумпяк Віктар.*

*Ганчарская моладзь: Кучынская Вера Уладзіміраўна, Равяшка Антаніна Якаўлеўна, Кумпяк Зінаіда Віктараўна і сёстры - Ярашэвіч Любоў Пятроўна і Вера Пятроўна. Пазней да іх далучыліся Леанід і Ніна Дзяшук, Аляксандр Козел, Вера і Уладзімір Пятроўскія.*

*Удзельнікі групы займаліся зборам разведвальных даных аб нямецкіх гарнізонах у вёсках Ганчары, Агародніках, Даржах, на шклозаводзе "Нёман" і ў Лідзе. Выведвалі пра нямецкія фармаванні, у навакольных вёсках і ваколіцах, распаўсюджвалі лістоўкі, газеты, зводкі Савінфармбюро, забяспечвалі партызан адзеннем, прадуктамі харчавання і перадавалі ў партызанскі атрад "Іскра,"які сфарміраваўся за Нёманам з адстаўшых чырвонаармейцаў, савецкіх актывістаў..."*

*Што у лесе людзі ёсць чужыя,*
*у вёсцы слухі ўжо пайшлі.*
*Без ежы, брудныя, худыя,*
*яны ратунак там знайшлі*
*Савецкай улады актывісты,*
*палітрукі або жыды,*
*І камсамольцы, камуністы -*
*усе хаваліся туды.*
*Сабе ад немцаў не чакалі*
*нічога добрага яны.*
*Фашысты ўсіх такіх стралялі*
*без ўсякіх доказаў віны*

.

У далейшым работа падпольнай групы накіроўвалася намеснікам камандзіра атрада па разведцы Пятром Якаўлевічам Сляпковым, намеснікам камандзіра па камсамольскай работе Генадзіем Шутом.

Першыя гітлераўцы ў Ганчары з'явіліся на матацыклах, нямногія - на раварах.

Тады ў верасні 39-га года чырвонаармейцаў мясцовае насельніцтва сустракала з кветкамі ля пабудаванай аркі, а тут ніхто не выйшаў!

А вось дзеці, пачуўшы ляскат і заўважыўшы немчукоў на матацыклах, насцярожана крыкнулі: "Ідуць, едуць! - і пабеглі паглядзець на немцаў.



З вёскі толькі аднаасобнік Казюк Міцюкевіч нарваў васількоў і з радасцю пачаў кідаць іх гітлераўцам пад ногі. Немцы не зразумелі, што ён кідае і ледзь не стрэлілі ў яго…

**З успамінаў сына Сяргея Кандратавіча Германовіча:** *"Кандрат Кандратавіч Германовіч-(1897 - 1975 гг.). У Першую сусветную быў прызваны ў шэрагі царскай арміі і ваяваў на Смаргоншчыне. У сакавіку 1917 г. пасля звяржэння цара быў выбраны сакратаром палкавога камітэта. Кастрычніцкую рэвалюцыю сустрэў у арміі. Пад Дзвінскам быў кантужаны. Там уступіў у атрад Чырвонай Арміі, стаў камандзірам зваза дывізіі, якая ўдзельнічала ў разгроме Дзянікіна, у барацьбе з Урангелем. У перыяд пераходу праз Сіваш быў камандзірам роты, браў турэцкі вал. З 175 чалавек засталося ў жывых толькі 4 воіны. Полк завяршыў баі ў Севастопалі. У 1921 г. Кандрат Кандратавіч і яго брат Аляксандр дэмабілізаваліся і разам з малодшымі сёстрамі Надзеяй і Сафіяй вярнуліся на сваю радзіму ў в. Ганчары. Разам з імі прыехаў іх пляменнік Піліп Гук.*



*Заходняя Беларусь знаходзілася пад польскай уладай. Уцалела хата, была зямля, але пачынаць гаспадарку трэба*

*было з нуля. Усё ў запусценні: ні збожжа, ні жывёлы. Хутка памерла малодшая сястра Сафія ва ўзросце 18 гадоў.*

*Старэйшы брат Аляксандр жаніўся з Меланняй, сястра Надзея выйшла замуж за Говара Уладзіміра ў вёску Масявічы. Кандрат Кандратавіч жаніўся з прыгожай працавітай дзяўчынай Юліяй Мулінскай з в. Дзітрыкі. Дзякуючы настойлівай працы, з гадамі яны паднялі гаспадарку. Кандрат Кандратавіч быў адукаваным чалавекам: чытаў кнігі, выпісваў газету, добра ведаў гісторыю, геаграфію, матэматыку. Меў незвычайную памяць. Як адукаванага чалавека яго выбралі солтысам на вёскі Ганчары і Дроздава. На гэтай пасадзе ён прабыў 7 гадоў да 1939 г. Аднавяскоўцы яго паважалі, часта прыходзілі па парады. У вольны час мужчыны збіраліся ў яго хаце паслухаць навіны аб падзеях, якія адбываліся вакол. Працаваў на сельскай гаспадарцы. Вясной 1940 г. уступіў у калгас імя Леніна."*

У сям'і Германовічаў нарадзілася і выгадавалася трое дзяцей: сын Сяргей, дочкі Аляксандра і Вольга. Усе яны атрымалі адукацыю і працавалі настаўнікамі.

Напісалі змястоўныя, цікавыя звесткі пра жыццё - быццё ва ўсе перыяды.

**Германовіч Вольга Кандратаўна:** *"У пачатку акупацыі жыццё ў вёсцы ішло сваёй калейкай: вяскоўцы, як звычайна, працавалі на зямлі ад відна да цямна, да сёмага поту. Пралі, ткалі, вышывалі. У гаспадарцы бацькі былі конь, дзве каровы і цялушка, авечкі, свінні, куры. Вымушаны былі карміць і немцаў, і партызан. Каб мець хоць невялікую наяўнасць, насілі за 20 км на продаж на рынак у Ліду масла, яйкі, смятану... Яны не былі лішнімі ў вялікай сям'і, але і грошы былі патрэбныя для гаспадаркі".*

*Ну, а пакуль ў вёсцы ціха -*
*няма ні ўлады, ні вайны.*
*Не знаюць людзі, што ўжо ліха*
*прыйшло да іх. Жывуць яны*
*Як і жылі, жыццём працоўным.*
*Так продкі іхнія жылі*
*Жыццём разважлівым і роўным.*
*Турботы звычныя былі:*
*Сям'ёй жывёлу гадавалі,*
*а дзеўкі, спрытныя жанкі*
*Кужаль адбельвалі і пралі,*
*касілі сена мужыкі.*
*Жанчыны сена не касілі,*
*у нас такога не было.*
*Граблі, пакосы, варушылі,*
*каб сена часам не згніло.*
*І агарод, і праца ў полі,*
*і ў хаце трэба працаваць.*
*Не пазайздросціш іхняй долі -*
*няма калі адпачываць.*
*У вёсцы людзі зразумелі,*
*што пачалася зноў вайна...*

У вёсцы Стокі жыў акружэнец-чырвонаармеец Саша (прозвішча не зведалі). Ён распавядаў, як у першыя дні вайны немцы атакавалі іхні звяз і салдаты з камандзірам і камісарам трапілі ў акружэнне. Калі камісар заўважыў немцаў - застрэліўся. Усіх загналі за дротавую агарожу. Некалькі дзён апрача вады яду не давалі. Потым яго адпусцілі, каб працаваў у сялян і быў на ўліку ў паліцыі.

Акружэнцы самі прасіліся ўзяць іх на пастой і працавалі ў гаспадароў "за хлеб". Пра далейшы лёс Сашы невядома, магчыма быў сагнаны ў Германію.

З нямецкай акупацыяй пачалося вяртанне да аднаасобнага гаспадарання. У руках былых уладальнікаў, асаднікаў, заможных сялян зноў апынуліся землі і маёнткі, якія былі размеркаваны сялянству летам 1941 года. Акупанты прадугледжвалі ў будучыні засяленне гэтых зямель нямецкімі каланістамі.

З даўніх часоў існаваў млын "Лупеніца". Ён знаходзіўся ў вусці рэк Дзітвы і Лідзейкі. Да 1941 г. тут працаваў млынаром Хаўзер. Сям'я яго складалася з трох чалавек: сам гаспадар, яго жонка і дачка-прыгажуня Стэра. У 1941 г. немцы іх расстралялі як яўрэяў. Па сведчанні Карабача Віталя пахаваны яны на магілках Пескі. На канцы вёскі каля шашэйнай дарогі стаяла кузня, у якой працаваў кавалём Баляслаў Вайтушка. Сваім майстэрствам славіўся на ўсю ваколіцу: падкоўваў коней, каваў сярпы, косы, плугі, капачы, матыкі.

На поўнач ад вёскі былі тры асадніцкія хутары: на правым беразе Дзітвы - Шпарагі і Ціхановіча, за ракой - асаднік Шымуль. У 40-м годзе іх вывезлі ў Сібір, а ўжо ў 42-ім вярнуліся іхнія дзеці. У Шпарагі - старэйшы сын, а ў паручніка - старэйшая дачка Бася са сваім мужам Кратовічам. Яны з немцамі хадзілі па хатах і забіралі сваю маёмасць і гаспадарчыя прылады працы, якія тады разабралі сяляне. Кратовіч узяўся за гаспадарку, меў парабкаў, супрацоўнічаў з немцамі, але хутка ён з жонкай чамусьці некуды ўцёк, а партызаны спалілі сядзібу. Іх парабак Антон Фурс выкапаў зямлянку на тым месцы і жыў там да канца вайны.

Адразу распаўся і калгас. Мясцовае насельніцтва пачало забіраць з калгаса сваіх коней, калёсы і іншую абагульненую раней маёмасць. А калгасныя палеткі былі засеянымі. Сяляне, ведаючы, дзе раней пралягала мяжа поля таго ці іншага гаспадара (амаль у кожнага гаспадара захаваліся планы іх участкаў), забралі зноў сваю зямлю ва ўласнасць. Але пры гэтым вельмі мудра падышлі да збіранага з палёў ўраджаю: дзяліліся так, каб нікога не пакрыўдзіць. Так, тыя гаспадары, у якіх, напрыклад, поле было засеяна лёнам, дзяліліся з тымі, у каго было пасеяна жыта або бульба і г.д. Поле Германовічаў было засеена гароднінай. Яны дзяліліся з аднавяскоўцамі капустай, цыбуляй, г.зн. мяняліся.

**Германовіч Вольга Кандратаўна:** "*Аднойчы група немцаў спынілася ў Ганчарах на начлег. У двары бацькоў ўсталявалі паходную кухню. Вядома, запатрабаваліся куры, яйкі, сала ... Гітлераўскія салдаты - моцнага целаскладу, сытыя, у пачатковым перыядзе*

*вайны цалкам задаволеныя лёсам.*

*У гарачы час распраналіся да споднікаў (трусоў), да вялікага бэсту, пры маўклівым асуджэнні мясцовым насельніцтвам. У вёсцы не прынята было хадзіць па двары ў такім выглядзе. Але што зробіш, трэба пакуль трываць ... Любілі гітлераўцы па брукаванай вуліцы цокаць падковамі сваіх ботаў. У такі час нават куры не паказваліся ў двары, хаваліся ў крапіве. А вось дзетак гітлераўцы ў першы час залагоджвалі, частавалі цукеркамі-ледзянцамі, ігралі на губным гармоніку"*



Па раней устаноўленым гітлераўцамі плане ў кожнай вёсцы павінен быць стараста - ахоўнік парадку і зборшчык падаткаў. І ў Ганчарах сагналі мужчын на сход. Кандрат Кандратавіч, ведаючы, што могуць прапанаваць ягоную кандыдатуру, на сход не пайшоў. Да гэтага часу ён адгадаваў бараду, залез на печ і ляжаў. Гітлераўцы з паліцыянтам прыехалі да яго дадому. "Чаму ляжыш, чаму не ідзеш на сход? Цябе аднавяскоўцы выбралі старастам!"

З вялікімі цяжкасцямі яму ўдалося ўхіліцца ад такой "павабнай" пасады. Выбралі старастам Іосіфа Харкевіча. Той, нібыта і не выслужваўся перад гітлераўцамі, у асноўным збіраў прадукты, але пасля перамогі атрымаў 25 гадоў. Адседзеў увесь тэрмін, вярнуўся хворым і неўзабаве памёр.

*Больш чым праз месяц завіталі*
*ў вёску немцы, амаль узвод.*
*Дарослых усіх яны сагналі*
*і правялі агульны сход.*
*На гэтым сходзе меў прамову*
*нямецкай улады прадстаўнік.*
*Ён гаварыў: "Парадак новы*
*мы прыняслі вам... Бальшавік*
*Не будзе тут ужо ўладарыць,*
*Жыды не будуць рабаваць.*
*Закон, парадак будзе правіць.*
*Мы будзем смерцю тых караць,*
*Хто будзе шкодзіць і змагацца.*
*А паслухмяным жыхарам*
*Няма прычыны нас баяцца -*
*ад нас не будзе крыўды вам.*
*Ды для таго, каб жыць вам годна,*
*а ўладзе зручна кіраваць,*
*Вам тэрмінова неабходна*
*для вёскі старасту абраць.*
*Ёсць да яго патрабаванне -*
*яму пісьменным трэба быць,*
*Павагай вашай карыстацца,*
*уладзе праўдаю служыць".*
*Яшчэ на сходзе тым казалі:*
*- Жывіце, як раней жылі.*
*Зямлі браць столькі дазвалялі,*
*апрацаваць колькі маглі.*
*І пра падаткі размаўлялі,*
*і тут у немцаў быў давер -*
*Сям'я і стараста рашалі*
*падатку іхняга памер.*
*Адно было патрабаванне,*
*якога нельга парушаць,*
*Бо будзе страшнае спагнанне,*
*мы будзем смерцю ўсіх караць:*
*Нікому нельга і ніколі*
*бальшавікоў, жыдоў хаваць,*
*І, каб не зведаць страшнай долі,*
*лясным бандытам памагаць.*

З надыходам вясны пачыналася праца ў полі: аралі, баранавалі, сеялі, выганялі жывёлу ў поле. Разам з дарослымі працавалі і дзеці. Так, Сяргей, як старэйшы, быў памочнікам бацьку, хадзіў за плугам, бараной. Старэйшая, Аляксандра, дапамагала маці, а самая меншая, Вольга, пасвіла авечак і кароў. Але пры гэтым павінна была яшчэ нешта рабіць: з хатніх ваўняных нітак вязала шкарпэткі, рукавіцы, прычым - на ўсю сям'ю, пплялі кошыкі. Але дзеці знаходзілі час і па-гуляць "у каменчыкі", "у пікара", "у нарыванкі ", "у палачку-стукалачку".

У пачатку вайны па загадзе немцаў настаўнік





*Вучні Ганчарскай школы ў 1942 годзе каля сцяны будынка, пабудаванага ў 1900 ці 1908 годзе. Асабістая фатакартка і звесткі аб навучэнцах - Германовіч В.К. У цэнтры класны кіраўнік Казёл (Казлоў) Валянцін Пятровіч. 1-шы шэраг - (сядзіць 3-ці клас): Каханоўская Леакадзія (Дроздава), Шут Леаніда (Ганчары), Мысліцкая Яніна (Бенявічы), Шут Ларыса Віктараўна (Ганчары), - ? - ?, Казёл Лідзія (Бенявічы), Германовіч Вольга Кандратаўна, Дычак Вольга?, Бутяк Ганна (Бенявічы), у хустцы Маркевіч Надзея (Бенявічы), Козел Марыя (Ганчары), крайняя Германовіч Лідзія Аляксандраўна - стрыечная сястра Вольгі Кандратаўны.) Верхні шэраг: Шут Міхаіл (Дроздава), Пазняк Анатоль (Дроздава), Урбановіч ? (Супраўшчына), Кумпяк Міхаіл (Супраўшчына) ? ? - ?, Дубовік Юля (Супраўшчына), Казак Леакадзія( Ганчары), Шут Тамара Сцяпанаўна (Дроздава) - родная сястра Шута Гены, Жучкевіч Ванда (Жучкі) потым была замужам за Шутам Сенькам.*

Пякелка і, мажліва, вясковец Пятроўскі склалі спіс ганчарскіх актывістаў. Неўзабаве немцы расстралялі Равяшкаў, а за гэта потым партызаны - Пятроўскага. У хуткім часе Ю. Пякелка і Г. Маліноўскі з сем'ямі кудысьці з'ехалі.

Восенню 1941 года акупацыйныя ўлады дазволілі адкрыць школу ў Ганчарах, і праз некаторы час заняткі аднавіліся. Урокі выкладаліся на беларускай мове. Першы год вучні карысталіся даваеннымі падручнікамі, толькі партрэты Леніна-Сталіна было загадана ліквідаваць. Потым пачалі паступаць новыя падручнікі на беларускай мове, але надрукаваныя лацінкай.

Першым дырэктарам школы стаў Пётр Пяткевіч, у яго была духоўная адукацыя, і займаў ён дзве пасады - дырэктара школы і дзьяка ў царкве. Яго жонка Ганна - настаўніца пачатковых класаў і спеваў. Але ў школе Пяткевіч прапрацаваў усяго год, потым стаў толькі дзьякам.

На яго месца быў дасланы малады і прыгожы Барысевіч, які неўзабаве ажаніўся з настаўніцай. (Шкада што іх імёны і па бацьку не ўспомнілі.) Гэтая маладая пара, мажліва, была звязана з партызанамі. Праз год Барысевіч быў арыштаваны немцамі. Потым былі чуткі, што яго расстралялі за супрацоўніцтва з



партызанамі, а жонка, верагодней за ўсё, з'ехала.

*(Ён, мажліва, меў сувязь з партызанамі, але дакладна невядома, за што і хто (?) яго расстраляў і дзе ён пахаваны, і што сталася з яго роднымі. Дарэчы, на Лідчыне Барысевічаў многа - можа, хтосьці дапоўніць звесткі... Нажаль аб гэтым няма і ў кнізе "Памяць" - В.К.)*

У канцы 1943 года ў вёску прыехала жанчына-доктар ва ўзросце з маладым чалавекам, нібыта з сынам, па прозвішчы Кохан. Ён выкладаў нямецкую мову ўжо з 2-га класа. Валянцін Пятровіч Казёл з Бенявіч працаваў у пачатковых класах.

Зоя Іванаўна Шуціла (сваячка будучага дырэктара Лідскага краязнаўчага музея Шуцілы Г. К.) выкладала беларускую мову і літаратуру, а яе муж-Кудла Анатоль Васільевіч (жыхар в. Дроздава) выкладаў геаграфію.

Вядома, дысцыпліна ў школе была на найвышэйшым узроўні. Ды і навучэнцы самі без напамінку разумелі, што ў школу яны прыйшлі вучыцца.

На працягу ўсёй вучобы настаўнікі і дзеці не забывалі, што яны жывуць у Беларусі. У класе настаўнік вітаў вучняў ўверх паднятай рукой са словамі "Жыве Беларусь!" Дзеці дружна, стоячы за партай, ускідвалі рукі і адказвалі: "Жыве!". Да настаўніка вучні звярталіся: "Спадар настаўнік".

**Германовіч Аляксандра Кандратаўна:** *"Правучыліся адзін год, пачаўся другі навучальны год - 1942-1943. Пайшлі чуткі, што школы не будзе,- у ёй размесціцца нямецкі гарнізон. Але немцаў "апярэдзілі" партызаны - яны зімой 43 года спалілі абодва школьныя будынкі. Атрымалася - вучыцца дзецям няма дзе",*

*Тады "маскалі" загадалі*
*у нас ўсе школы пазнішчаць,*
*Бо немцы ў школах дазвалялі*
*на роднай мове навучаць.*
*Каб падпаліць ім давялося,*
*снапы з вясковых гумнаў браць*
*І хутка полымя ўзнялося-*
*за дваццаць вёрст было відаць.*
*Дзікунны акт. Ніякай шкоды*
*ён акупантам не прынёс.*
*А мы згубілі навучанне -*
*такое дзіва. Страшны лёс!*

*Немцаў не спыніла гэта, свой гарнізон яны размясцілі ў памяшканні былога сельсавета і "хатычытальні". Але гарнізону тут было не зручна. Неўзабаве выбралі месца на скрыжаванні дарог і пачалі будаваць бункер. Будаўніцтва ішло хутка. Немцы сагналі ўсіх сялян з навакольных вёсак. Адны складалі сцяну-цвердзь з бярвенняў, якія клаліся ў два рады, паміж імі насыпаўся пясок. Другія складалі будынак для жылля з дамоў, прывезенных з Сяльца. Гэта былі дамы яўрэяў, якіх у 1941 годзе немцы загналі ў лес і расстралялі. А гэтыя дамы і скарысталі для збудавання бункера. Калі бункер быў гатовы, нямецкі гарнізон перабраўся туды".*

Камендантам бункера - нямецкага абарончага пункта ў вёсцы Ганчары быў доўгі час немец Вайтгертнер.

*"Памяшканне былога сельсавета, дзе часова стаяў гарнізон, засталося пустым. Тут у невялікім памяшканні зноў пачала працаваць школа. Вучняў было вельмі мала. У класах па два, тры чалавекі, таму ўсе класы вучыліся разам, у адным класным пакоі. Загадчыкам і настаўнікам быў Казёл Валянцін Пятровіч. Школа заставалася беларускай, выкладанне вялося на беларускай мове, але алфавіт быў лацінскі. У 1942-1943 навучальным годзе паступілі новыя падручнікі - беларускія словы з лацінскімі літарамі.*

*У Ганчарах і ваколіцах каталіцкага насельніцтва было няшмат, сем'яў 10 - 15, не больш. Але былі каталікі і ў навакольных вёсках. Для іх дзяцей у Ганчарах адкрылі польскую школу, якую ўзначаліў гончарскі настаўнік Аляксандр Харкевіч. Была і настаўніца з в. Супраўшчына, вось толькі прозвішча яе памяць не захавала".*

Кандрат Кандратавіч у перыяд акупацыі дапамагаў, чым мог, партызанам.

Афіцыйным сувязным не быў, але партызаны добра ведалі Кандрата. Ноччу з аднавяскоўцамі хадзіў на дыверсіі: спілоўвалі тэлеграфныя слупы, разбіралі рэйкі на чыгунцы..

У першыя дні вайны адступаючыя, чырвонаармейцы спалілі мост цераз Нёман каля вёскі Агароднікі. Туды немцы нагналі палонных чырвонаармейцаў будаваць мост.

Туды ж зганялі і сялян навакольных вёсак з коньмі і вазамі на шараварак. Палонных слаба кармілі, хворых, якія не маглі працаваць, закапвалі жыўцом. Сялянам быў дадзены загад не дапамагаць палонным, але яны ўпотай перадавалі палонным харчы, рызыкуючы сваім жыццём, дапамагалі ўцякаць з палону.

Кандрат Кандратавіч бачыў, што многія з іх былі страшна хворыя, знясіленыя, але вымушаныя працаваць. І, калі ён працаваў у Агародніках, набіраў з дому торбу харчоў, неяк удавалася яе перадаць ваеннапалонным. Аднойчы вярнуўся з працы і не мог вячэраць, перад яго вачыма стаялі змардаваныя ваеннапалонныя, на якіх гітлераўцы нават пашкадавалі кулю - закапалі ў зямлю жывымі. У гэты вечар перад яго вачыма стаяў капец, які варушыўся на беразе Нёмана.



Уцёкшых палонных ноччу накіроўвалі да Кандрата Кандратавіча. Ён шчыльна завешваў вокны, раскладаў карту на стале, пытаўся, адкуль яны, і на карце паказваў кожнаму маршрут да іх родных мясцін.

Калі мост быў пабудаваны, немцы сагналі палонных у барак і падпалілі.

Колькі ваеннапалонных згарэла ў тым бараку, невядома дагэтуль.

За мастом злева па дарозе ў Бярозаўку стаіць помнік загінулым палонным.

У канцы 1942 года пад вёскай Дакудава і за Нёманам абаснаваўся партызанскі атрад "Іскра", які базаваўся у Альхоўцы. Той край больш вядомы як Налібоцкая пушча. Суцэльныя лясы з высачэзнымі, стройнымі, старадаўнімі дрэвамі. Трэба сказаць, што Альхоўку немцы называлі "другой Масквой" - настолькі непрыступныя былі тыя акружаныя шчыльнымі лясамі месцы для гітлераўскіх салдат. Жыхары Ганчароў спачатку падбіралі для партызан зброю ў лесе. Партызаны, як маглі, шкодзілі акупантам падрывалі нямецкія эшалоны, пераразалі тэлеграфныя драты, распаўсюджвалі ўлёткі, Для здзяйснення дыверсій часта запрашалі і прыцягвалі і мясцовых мужчын. Сяляне дапамагалі партызанам спілоўваць тэлеграфныя слупы, разбіраць чыгуначнае палатно, спальваць мосцікі…

У сорак другім годзе атрад "Іскра" быў ужо даволі шматлікім і ўваходзіў у склад Кіраўскай партызанскай брыгады. У той час пачалі дзейнічаць на тэрыторыі Лідчыны і падпольныя камсамольскія арганізацыі. Па заданні партызан маладыя людзі сачылі за з'яўленнем варожых эшалонаў на каляі Ліда - Баранавічы (непадалёк ад Ганчароў цягнулася чыгунка), за рухамі войск па шашы.

Зіна Кумпяк распавядала, як вясной 1944 г. начальнік дыверсійнай групы маёр Сляпнёў прыбыў у атрад "Іскра", *“пазнаёміў з магнітнай мінай мяне, Ярашэвіч Веру, Кучынскую Веру, Касарэўскую Зою. Пасля некалькіх заняткаў маёр перадаў нам міну і даў заданне”*. З атрыманнем магнітнай міны дзве дзяўчыны Веры з сумачкай у руках з за Нёмана накіраваліся ў Ліду. Трэба было спраўна прайсці паліцэйскія кардоны. Дабраўшыся да нафтасклада і дачакаўшыся часу, калі іх знаёмы стаў на пост па ахове свайго аб'екта, адна з ім завязала размову, другая праглядала агароджу. На шчасце знайшла адарваныя дошкі. Па той бок шчыльна стаялі бочкі з палівам. Вера рупліва ўстанавіла магнітную міну на час падрыву, прыпляснула яе да бочкі, прыціснула спіной адарваныя дошкі, агледзелася і выскачыла з агарожы. Паклікала сяброўку, і дзяўчаты хуткім подбегам кінуліся за горад. І калі яны выйшлі з горада, праз гадзіну адбыўся выбух. У выніку выбуху згарэла 165 тон бензіну ў самім сховішчы, акрамя таго многа бочак з нафтай і некалькі самаходаў. Пасля ўдакладнення гэтай дыверсіі маёр Сляпнёў прадставіў да ўрадавай узнагароды Кучынскую, Ярашэвіч і Сляткова.

У апошнія месяцы вайны ў падпольнай камсамольскай арганізацыі вёскі Ганчары Зінаіда Кумпяк была сакратаром. Пасля вызвалення арганізацыя выйшла з падполля, Зінаіда прайшла курсы камсамольскага актыву, стала інструктарам у Лідскім райкаме камсамолу. Затым на працягу двух гадоў з'яўлялася яго другім сакратаром. За перыяд працы ў райкаме камсамолу Зінаідзе Кумпяк (Райковай), пашчасціла пару разоў сустракацца з Пятром Міронавічам Машэравым…

*"Я сама двойчы ледзь не загінула ад рук бандытаў*, - успамінае Зінаіда Віктараўна, *- хоць мела пад рукой асабістую зброю. Першы раз - калі начавала ў Дуброўне. У тую ноч бандыты, нешта даведаўшыся, хацелі было ўбіцца ў хлеў, але мясцовы дэпутат, пабуджаны брэхам сабак, не дазволіў ім мяне забіваць. Справа ў тым, што той дэпутат, як высвятлілася пазней, меў таемную сувязь з бандытамі, і тыя яго паслухаліся. Чалавека, які выратаваў мне жыццё пазней усё ж асудзілі на восем гадоў як тайнага памагатага тых, ад каго ён мяне ратаваў. Было і такое!"*

З савецкімі партызанамі ў вёсцы былі ўсталяваны свядомыя адносіны, мясцовае насельніцтва аказвала дапамогу і падтрымку савецкім партызанам. А вось з партызанамі Арміі Краёвай (белымі) адносіны не складваліся. Акаўцы клікалі насельніцтва ў свае атрады. Пры адмове везлі ў вёску Табала, дзе здзекаваліся над праваслаўнымі жыхарамі, а затым везлі ў Беліцу і каля сцяны царквы расстрэльвалі, імкнучыся, каб сляды ад куль назаўжды ўрэзаліся ў сцены храма. Асабліва шчыравала АК пад праваслаўныя святы, часта замест святочнага служэння ў храме даводзілася адпяваць загінуўшых. Каб не трапіцца акаўцам, мужчыны стараліся хавацца. Так, і Кандрат падстрахаваўся, на ўсялякі выпадак выкапаў яму ў жыце. У вёсцы Ганчары "белымі" быў забіты Кучынскі Аляксандр Уладзіміравіч. А ў суседніх вёсках "белыя" лютавалі на ўсю моц: цалкам былі спалены Вялікія Канюшаны, былі ахвяры ад акаўцаў у вёсках Дроздава, Місевічы, Супроўшчына, Дзітрыкі, Бенявічы, Агароднікі, Навасады, Даржы….

У Ганчарах быў арганізаваны нямецкі пастарунак з 8-мі жандараў, аднекуль прыбылых, і 2-х паліцэйскіх мясцовай самаахowы, быў строгі нямецкі камендант па імені Ёзаф. Ён усталяваў такі парадак, што без яго ведама ў вёску ніхто не прабіраўся. Магчыма па-гэтаму ў вёсцы было менш ахвяр падчас акупацыі.

У шматпакутнай вёсцы Ганчары ў гады акупацыі жыццё ішло сваёй чаргой, вяскоўцы, як звычайна, працавалі на зямлі ад відна да відна, да сёмага поту.

Нягледзячы на жахлівыя часіны вайны, на цяжкую працу, сяляне заўсёды адзначалі хрысціянскія святы, цікава арганізоўвалі адпачынак,адзначалі вяселлі, хрэсьбіны і іншыя сямейныя святы. Цікава і радасна, як і да вайны святкавалі Каляды. Перш за ўсё, кожны гаспадар стараўся навесці парадак у сваёй гаспадарцы. Жанчыны мылі, бялілі сцены, усюды падмяталі, засцілалі ложка прыгожымі даматканымі пакрываламі, вокны ўпрыгожвалі каляровымі папяровымі фіранкамі, выразанымі прыгожымі ўзорамі. Сцены

ўпрыгожвалі living рознымі вырабамі з саломы, фасолі. Запальвалі газавую (керасінавую) лямпу з абажурам, зробленым з саломкі. Покуць, дзе віселі абразы, упрыгожвалі яловымі галінкамі, ад якіх па хаце разносіўся водар лесу.

**З успамінаў Аляксандры і Вольгі Германовіч:**



*"З ранняй раніцы маці варыла куццю. Вечарам усе мыліся, апраналі чыстую вопратку. Бацька прыносіў у дом бярэмя духмянага сена, рассцілаў яго на стале, засцілалі чыстым абрусам. На стол ставілі "вячэру". На куццю перш за ўсё варылі аўсяны кісель, куццю (кашу з ячменных крупаў), квасок з сушаных грыбоў, пяклі галушкі, "вушкі" з грыбамі і макам, кампот з сухафруктаў. На стале былі і семачкі: гарбузовыя і сланечнікавыя, ды лясныя арэхі...*

*З першай зоркай уся сям'я садзілася за стол. Маці чытала малітву, бацька рэзаў хлеб акуратнымі кавалачкамі, казаў шчырыя цёплыя словы для сям'і, асабліва дзецям жадаў, каб яны былі здаровымі, сумленнымі, працавітымі, паважалі старэйшых, беражліва ставіліся да хлеба. Затым пачыналі смачна есці куццю. Гарэлкі на стале не было!*

*Асаблівым для дзяўчат быў вечар перад Калядамі. Як правіла, пасля куцці (вячэры) яны збіраліся ў адной з хат чараваць. Завешвалі вокны, хлопцаў у памяшканне, вядома, не ўпускалі, але тыя з цікавасцю падглядвалі ў вокны. Дзяўчаты садзіліся за стол, на вадзе растоплівалі воск - высвятлялі штосьці, кідалі чаравікі да парога - чый чаравік наском ўторкнецца ў парог, тая першай выйдзе замуж. Кідалі бліны галоднаму сабаку: чый блін першы сабака схопіць, тая дзяўчына першай выйдзе замуж. Выбягалі на вуліцу і абдымалі плот: калі дзяўчынай абдымаецца цотная колькасць штакецін, яна ў гэтым годзе выйдзе замуж Бярэмя дроу насілі ў хату (да пары замуж хутка пойдзеш, не да пары - яшчэ год сядзець). Варажылі і на люстэрка, і на зерне... Маладыя хлопцы таксама не спалі. У тых дварах, у якіх хлопцы доўга не жаніліся ці дзяўчаты засядзеліся ў дзеўках, у гэтую ноч здымалі вароты і хавалі іх далёка за вёскай..*

*Чаравалі і пад стары Новы год, на Шчадруху (у ноч з 13 на 14 студзеня). Калядоўшчыкі хадзілі па дамах: спявалі святочныя песні, жадалі гаспадарам здароўя, шчасця, прыбытку ў сям'і, багацця дому. За такія шчырыя і цёплыя пажаданні гаспадар не заставаўся ў даўгу - шчодра адорваў калядоўшчыкаў.*

*У калядныя дні сяляне не працавалі, хадзілі ў царкву. Пасля царквы садзіліся за стол са смачнымі разнасоламі: мясам, каўбасамі, пірагамі. Хадзілі ў госці да сваякоў і да сябе запрашалі.*

*Дарослыя падлеткі і дзеці выходзілі на вуліцу, гулялі ў снежкі, будавалі замкі, каталіся на санках, самаробных лыжах і каньках, вясёлымі і бадзёрымі вярталіся ўвечары дадому.*

*Па вечарах у адным з дамоў моладзь арганізоўвала танцы. Танчылі польку, фалькстрот, мазурку, кадрылю, кракавяк... часам да іх "налятаталі" партызаны і танцавалі да ўпаду. Бывала, што і немцы прыходзілі патанчыць. Многія з моладзі валодалі музычнымі інструментамі. У ходзе былі гітара, скрыпка, цымбалы, бубен, гармонік. На танцы, на вяселлі стараліся апрануць прыстойную вопратку.*

*У доўгія зімовыя вечары, як правіла, па чарзе, збіраліся дзяўчаты на вячоркі ў доме, у якім былі дарослыя дзяўчаты. Да вечароў рыхтаваліся, як да вялікага свята. З надыходам змяркання дзяўчаты збіраліся ў гэты дом з прасніцамі і калаўроткамі прасці кудзелю ці з вышываннем, вязаннем. Крыху пазней сюды ж прыходзілі ахайна апранутыя хлопцы, садзіліся каля дзяўчат... Было весела: спявалі песні, жартавалі, распавядалі розныя гісторыі, казкі, небыліцы. Разыходзіліся бліжэй да світання. Цяпер ужо хлопцы неслі прасніцы і калаўроткі тым дзяўчатам, якім больш сімпатызавалі. Маладыя людзі трохі пастаяць пагамоняць каля брамкі і разыходзяцца па дамах. На вечарынкі хадзілі і жанчыны, дзяцей, вядома, з сабой не бралі. Але падлеткі часам маглі таўчыся пад вокнамі, назіраць весялосць дарослых праз акно..*

*У канцы зімы святкавалі "запускі". Для гэтага дня гаспадыні пяклі бліны, падрыхтоўвалі смачную падліўку. І дарослыя, і дзеці гэтае свята праводзілі на вуліцы. Хлопцы будавалі каруселі, арэлі, якія падвешвалі, як правіла, на тоўстых галінах дрэў або ў чым-небудзь вялікім і высокім гумне. Тут каталіся больш дарослыя. Малым дзецям каруселі рабілі ў доме: да бэлькі падвешвалі ланцугі або тоўстыя вяроўкі, рабілі "сядло". Для дзяцей гэта таксама была прыемная вясковыая забаўка. Старэйшыя мужчыны гулялі ў камандную гульню з драўляным дыскам, накшталт цяперашняга хакею".*

**Міцюкевіч Уладзімір Аляксандравіч:** *"Ганчарскія вясковыя сем'і з прозвішчамі: Міцюкевічы, гаспадароў - 5. Буякі, Дычакі, Дзявятыя, Кучынскія, Салькоўскія, Гумбары па 3 дамы. Германовічы, Данэйкі, Ярашэвічы, Вайтушкі, Касарэўскія, Кумпякі - па 2 дамы.*

*У 30-х гадах у Ганчарах з'явіліся палякі - "прымаеш каталіцызм - становішся палякам". Хтосьці і здаўся. Бацька быў пісьменным - 6 класаў царскай школы, уступіў у калгас у 40 годзе. А потым неўзабаве стаў загадчыкам мясцовай крамы. Да вайны. працаваў*

*магазін, ашчадная каса, медпункт, які ўзначальваў фельчар Бараноўскі, але потым ён з сям'ёй выехаў ва Уругвай. З імі выехала таксама ганчарская сям'я Паўла Міцюкевіча.*

*Калі пачалася вайна, немцы ужо ў Лідзе, бацькі задумалі: каб не даць тавары акупантам - адкрыць магазін, каб разабралі ўсе тавары вяскоўцы... Але назаўтра прыбыў немец з перакладчыкам - наладзілі рэвізію. Перапісалі, і ўсё сышлося, а каб - не, расстралялі б. У вайну бацькі працавалі на гаспадарцы, мелі хлеб і да хлеба. Днём харчы аддавалі немцам, ноччу - партызанам".*

*У нашай вёсцы для сялян*
*сістэма збору існавала,*
*Каб забяспечыць партызан,*
*сістэма тая прымушала*
*Сялянам у тэрмін пастаўляць*
*крупу, гародніну і сала,*
*Таксама хлеб ім выпякаць.*
*Адмовіць ім - сабе, вядома,*
*прысуд смяротны падпісаць,*
*А пагадзіцца, то для дома*
*ад немцаў трэ бяду чакаць.*

*"На чыгунцы Ліда-Сялец немцы абсталявалі Ганчаскі паўстанак. Вакол для аховы чыгункі збудавалі ўмацаванні, бункер, вал вельмі высокі - 2-3 м.*

*Па канцах вёскі і пасярэдзіне былі пабудаваны драўляныя дзоты з нямецкім гладкім вуглом, а вакол кожнага - плот з бярвенняў з насыпаным ўнутры пяском.*

*Непадалёк ад царквы стаяў казённы будынак. Тут знаходзілася вялікая зала, у якой у вольны час збіралася моладзь павесяліцца. У святочныя дні пад кіраўніцтвам настаўнікаў праводзілі канцэрты, ставілі спектаклі, а то проста пад музыку танцавалі, праводзілі вясковыя сходы. У другім канцы гэтага будынка была млячарня, куды жыхары вёскі здавалі малако.*

*Калісьці яшчэ да вайны неяк бацька пасварыўся з суседам Данейкам Х. Той прыпомніў тую даўнюю злосць, і, будучы цяпер партызанам, ноччу прывёў некалькі партызан. Бацьку палажалі ў хаце на лаву і шампаламі спісалі ўсё цела.*

*А "наводчык "стаяў пад акном. Потым старэйшы брат Міхаіл схадзіў за Нёман у атрад, усё расказаў камандзіру, Той толькі заскрыпеў зубамі: "Разбяромся".... Але толькі Усявышні даў злыдню кару, - баньдзюга дзесці загінуў .*

*Калі немцаў пагналі на захад, бацьку Аляксандра прызвалі да войска. Дзе ён быў, невядома, але праз некалькі тыдняў вярнуўся дахаты з запаленнем лёгкіх і ў лютым 44- га памёр"...*

**Германовіч Сяргей Кандратавіч:**

*"Гітлераўцы западозрылі, што сяляне аказваюць дапамогу партызанам. Аднойчы бацька паехаў у Ліду, скора вярнуўся панурым, нічога не купіў. У яго быў знаёмы ў Лідскім гебітскамісарыяце. Той папярэдзіў, што гітлераўцы будуць паліць вёску. Па прыездзе бацька хутка сказаў: "Збірайцеся, і ноччу бяжыце пад Сялец. І вяскоўцам скажыце пра пагрозу". Дзеці хутка апрануліся, і ноччу праз лес мама павяла нас на хутар Хаданішкі, за 4 км ад Сяльца. Там жылі дзве матчыны сястры - Буйніцкая Надзея і Хрышчановіч Ганна. З нашай сям'ёй уцякалі і суседзі, у тым ліку і сям'я Буяка Язэпа. Родзічы ўцекачоў прынялі, накармілі і паклалі спаць. На хутары пражылі тыдзень. Мужчыны засталіся ў вёсцы. Праз тыдзень бацька паведаміў, што вёску выратаваў бацюшка Мікалай Усціновіч".*

Бацюшка Усціновіч прыехаў у Ганчары яшчэ да вайны. Гэта быў эрудзіраваны, адукаваны чалавек, добра ведаў нямецкую мову, грунтоўна даказаў акупацыйным уладам, што сяляне вёскі падтрымкі партызанам не аказваюць і, вядома, не вінаватыя ў гібелі немцаў. Менавіта, дзякуючы намаганням бацюшкі, вёскоўцы былі выратаваны. Праз некалькі тыдняў недалёка ад вёскі ў партызан зноў здарылася перастрэлка з акупантамі. І гэтым разам вёску выратаваў бацюшка.

Але, на жаль, выйшла так, што пасля вайны яго арыштавалі, суд быў у Горадні. 25 чалавек з вёскі выступілі ў абарону бацюшкі, але гэта не дапамагло. Адседзеў 7 гадоў, вярнуўся да сына, нейкі час служыў у Дакудаўскай царкве…

З лета 1943 года стратэгічная ініцыятыва апынулася ў руках Чырвонай Арміі, фашысцкія войскі каціліся на захад. Падчас адступлення з тэрыторыі Саюза гітлераўцы праводзілі палітыку "выпаленай зямлі". Сотні тысяч цывільных асоб падвергнуліся "эвакуацыі" - гвалтоўнаму высяленню на захад, у тым ліку і на Лідчыну. Людзі, вывезеныя з усходу, былі расселены па домаўладаннях і ў Ганчарах. Яны жылі і працавалі ў сялянскіх гаспадарках. Многія з іх хварэлі на тыф. Але сяляне дапамагалі бежанцам, чым маглі: давалі харчы, адзенне, хворых разбіралі па хатах. Ні адзін з іх не памёр, але пасля вызвалення Беларусі ніхто з іх не застаўся, усе вярнуліся на радзіму.

**Вольга Кандратаўна Германовіч:** *"Зімой 1943 года ў суровы мароз бацька паехаў на млын. У гэты час ад рукі несвядомага аднавяскоўца загарэўся бацькоўскі дом. Згарэла ў хаце ўсё, засталіся мы босыя, і голыя, і галодныя. Усе жыхары вёскі былі абураныя правінай аднавяскоўца, які пазней прызнаўся ва ўчыненым дзеянні. Але бацька быў вельмі гуманным, не стаў высвятляць, прад'яўляць прэтэнзіі да падпальшчыка. Ён усё жыццё жыў па сумленні, спачуваў і дапамагаў людзям, якія трапілі ў бяду. Наколькі мог, даваў добрыя парады, паважаў чалавечую годнасць і вучыў гэтаму дзяцей. Вучыў ніколі не браць чужое.*

*Успамінаецца выпадак у 1939 годзе, калі вывозілі асаднікаў.*

*Некаторыя аднавяскоўцы пасля ад'езду асаднікаў, наведаліся ў іх гаспадаркі і сёе-тое там знаходзілі і забіралі. Кандрат Кандратавіч і кроку не зрабіў у гэтым кірунку. Яго жонка, Юлія, неяк толькі глянула ў той бок, дзе была гаспадарка асадніка. Ба-*

*цька, заўважыўшы ейны позірк, сказаў, што нічога чужога не трэба, яно да дабра не прывядзе. І раптам - вось такі ўчынак аднавяскоўца.*

*Але выручылі суседзі, далі прытулак пацярпелай сям'і.*

*Падчас акупацыі самая вялікая шкода сыходзіла, як ні дзіўна, не ад гітлераўцаў, а ад"уласаўцаў", большую частку якіх складалі ўкраінцы. Гэтыя пачвары забіралі ў насельніцтва ўсё да апошняга, не лічыліся ні з чым.*

*Так, мама для старэйшай дачкі Сашы пашыла з вафлевага палатна блюзку. Уласаўцы адабралі і яе. Падобнае рабілі і з іншымі жыхарамі вёскі. Абураныя жанчыны ў складзе дэлегацыі звярнуліся да немцаў, распавялі ім пра марадзёрства вайскоўцаў. У вёску прыбыла невялікая група ўзброеных немцаў і нагайкамі адлупіла нахабнікаў. У ліпені 1944 года гітлераўцы пад ударамі воінаў Чырвонай Арміі вымушаны былі адступаць, але ўласаўцы цяпер ім ужо былі не патрэбныя, гітлераўцы з сабой іх не ўзялі. Некаторым жыхарам вёскі ўдалося вярнуць сваю маёмасць, нарабаваную ўласаўцамі. Пасля вызвалення мужчыны прызыўнога ўзросту пайшлі на фронт, многія з іх не вярнуліся. А жыццё працягвалася".*

Пасля вызвалення Лідчыны ў 1944 г. Кандрат Кандратавіч быў мабілізаваны ў шэрагі Чырвонай Арміі, знаходзіўся ў запасным палку ў г. Баранавічы, але па ўзросту быў дэмабілізаваны. У1949 г. зноў уступіў у калгас, быў выбраны намеснікам старшыні калгаса і старшынём рэвізійнай камісіі.

Кандрат Кандратавіч беспартыйны, адукацыя 7 класаў. Неаднаразова выбіраўся дэпутатам Ганчарскага сельскага Савета, народным засядацелем Лідскага раённага суда. Пасля вайны працаваў у калгасе. За сумленную працу атрымліваў узнагароды і персанальную пенсію.

Узнагароды: ордэн Чырвонай Зоркі, медалі "За доблесную працу". У гонар “100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна", "25 гадоў перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне".



***Германовічы: Кандрат Кандратавіч, Сяргей і Аляксандра, Буйніцкая Тамара, Хрышчановіч Ніна. (Майго бацькі стрэчныя брат і сёстры - В.К.)***

**Абазоўская (Астрожнікава) Валянціна Уладзіміраўна.** Нарадзілася 12 снежня 1918 г. у Маскве ў гады бежанства:

*“Дзед - Іван Іванавіч Барташэвіч нарадзіўся ў Бенявічах, што каля Ганчароў, меў дзвюх дачок і сына. Бабуля - Алена Казіміраўна Шэйпук з вёскі Макрэц Наваградскага павета. Мама - Яўгенія Іванаўна Барташэвіч, беларуска, скончыла Лідскую жаночую гімназію - 7 класаў. Мы з мамай жылі ў Лідзе, у нас быў дом, бацька жыў у вёсцы з бабуляй і прывозіў прадукты. Улетку ўсе разам жылі ў Бенявічах. Гімназію скончыла ў 1937 годзе. Вучылася там 8 гадоў, пасля заканчэння жыла ў Бенявічах. Потым два гады вучылася на агранома ў Варшаўскім вучылішчы завочна. Бацька з дзядзькам спрачаліся наконт гаспадаркі. Бацька па-навуковаму хацеў раздзяліцца, дзядзька - падаўнейшаму…*

*Пры "першых саветах" усіх багатых асаднікаў вывезлі. Бацькі засталіся ў вёсцы, бацька працаваў у калгасе... Бацька мяне з дзяцінства прывучыў быць пісьменнай па-расійску. Любіў многа чытаць гучна. Я пачала працаваць на чыгунцы ў аддзеле кадраў. Тут працаваў Рагуцкі Карл Валяр'янавіч, ён ездзіў з цягнікамі майстрам, потым кандуктарам. Пазнаёміліся, і за яго я выйшла замуж.*

*22 чэрвеня 41-га з мамай і сынам, якому было паўгода, цэлы дзень у нядзелю правялі на Нёмане. Адпачывалі, весяліліся, купаліся… Чамусьці над Лідай ўвесь час выбухі і страляніна? У нас быў прымач польскі. Пачулі ці то - манеўр, ці - вайна… Раніцай у панядзелак паехалі ў Ліду. Калі пад'язджалі да горада, наляцелі самалёты. Недалёка ад нас бомба выбухнула. Па-хуткаму ўвязалі рэчы на равары і з'ехалі ў Бенявічы.*

*1941-44 гады мы пражылі ў вёсцы - на гаспадарцы. Муж Рагуцкі жыў са мной у Бенявічах. Апрацоўвалі сваю зямлю. У нашай вёсцы гналі самагонку - прыходзілі чырвоныя партызаны з-пад Дакудава. З Беліцы налятаалі акаўцы. У 44 г. узялі 8 аднавяскоўцаў. Бралі толькі мужчын. Калі мужа ў адной жанчыны бралі, яна сказала: "Бярыце і мяне". Пасадзілі на два вазы і павезлі ў Бяліцу, там каля царквы было такое месца, дзе расстрэльвалі. Усіх і расстралялі…*

*Быў такі бандыт Заянчкоўскі - злавіў парабка Кульчыцкага ў жыце і калоў нажом. Нашымі суседзямі ў Бенявічах былі: Буракі, Жамойціны, Мысліцкія, Бялецкія, Шулейкі, Казлы, Заекі, Некрашы. Каталікоў было мала - тры сям'і каля нас і дзве на ўскраіне вёскі. Ад Бенявіч да Дзітвы каля адной вярсты. Зямля на прысядзібным уча-*

*стку нядрэнная. Агарод быў выдатны, вырошчвалі бульбу, моркву, буракі,бручку і рэпу. Сяляне ездзілі ў Ліду, здавалі збожжа, бульбу, гародніну. За здадзенае давалі каструлі, чаравікі на драўлянай падэшве з добрай скурай. Мода такая была… У горадзе мая сяброўка жыла - Кулеша, там пакідалі каня з возам і ішлі на рынак, у аптэку. Габрэяў немцы расстралялі. Знаёмы лекар жыў каля Няцечы, дзяцей у яго не было. Ён габрэй - Сталовіцкі - добры лекар, гаварыў: "У мяне там, дзе жыў у горадзе засталося і золата, і срэбра". І сапраўды, калі пасля вайны будавалі магазін "Ластаўку", рабочыя знайшлі золата.*

*У 44-м годзе вайна тут на Беларусі скончылася. Бацька пераехаў у Ліду і працаваў бухгалтарам у дарожным кіраванні. Мы таксама пераехалі ў Ліду. Жылі ў доме на Лётнай* (цяпер генерала Бяды, *рэд.*). *Мы яго потым прадалі. У мамы сястра была, яна прыехала - падзялілі дом напалову. У Беневічах наш дом заняў Рудовіч з сям'ёй, разумны, добры мужык. Мама саступіла дом, добра жыла з ім. У яго ў сям'і было 5 дачок".*

**Шуціла Яўген Канстанцінавіч:** *"Нарадзіўся 10 кастрычніка 1925 года ў Смаленску. Бацька - Канстанцін Сямёнавіч, нарадзіўся на Лідчыне ў вёсцы Супраўшчына. Маці - Валянціна Мітрафанаўна родам з Менска. У дзеда былі сын і 3 дачкі. Мелі двое коней, 5 кароў, 5 свіней і некалькі дзесяткаў курэй. Мелі 8 гектараў раллі і 21 гектар сенакосу. Гаспадарка мела конны плуг, барану драўляную, манеж, які круціў конь і малацілі збажыну, а сячкарняю рэзалі сечку, церніца для цераблення лёну, арфа для ачысткі збожжа. Зямлю аралі конным плугам,часткова і сахой. На палях сеялі жыта, грэчку, ячмень, сачоўку, тытунь, бульбу, лубін. Збіралі па 100 коп жыта з двух гектараў. На млыне ў Лупеніцы рабілі крупы, малолі пшаніцу на пытлёўку. Жанчыны ткалі на кроснах з воўны і лёну. З тканага суконнага палатна краўцы шылі касцюмы, бурносы, марынаркі. Самі шылі ручнікі, сукенкі, ніжнюю бялізну і хусткі… На іх вышывалі кветкі і клеткі. Мэблю куплялі ў Лідзе. Прылады працы да вайны не куплялі, усё самі рабілі з дрэва і з жалеза ў кузні. На продаж вырошчвалі бульбу, гародніну, каноплі, лён. Рынак быў у Лідзе і ў Бяліцы.*



*У 1931 г. бацьку перавялі ў Менск, ва ўпраўленне сувязі, маці працавала ў рэдакцыі газеты "Звязда". Да вайны скончыў 7 класаў Менскай школы, хадзіў у авіягурток, у 40-м годзе ездзіў на выставу і спаборніцтвы авіямадэлістаў.*

*18 чэрвеня 1941 года мы прыехалі на Лідчыну ў госці да родных. Тут у вёсцы застала нас вайна, хаця бацька сказаў, што мабыць гэта вучэнні. Пешшу пайшлі ў Менск. Там у хаце ўсё згарэла. Таму вырашылі вярнуцца на вёску, дзе пражывалі маці бацькі і сястра. У Супраўшчыне жылі праваслаўныя і католікі. У вёсцы расстралялі 5 чалавек белапалякі.*

*Немцы прыходзілі, патрабавалі яйкі, масла, шнапс…. У майго брата са здароўем было дрэнна, ён у партызаны не пайшоў, а потым ў войску быў.*



28-5.-

QUITTUNG

Reichs-Mark

von

für

richtig erhalten zu haben, bescheinige hiermit

Milejtschitze, den 30 ... 1942

Für R.-Mark

*Жывучы ў Супраўшчыне я ўстанавіў сувязь з партызанамі. Дзямідаў Валянцін - нам далёкі сваяк. У сакавіку 1943 года прыйшоў на нёманскі мост пад Агароднікамі. Там стаялі паліцыянты, сказаў што іду ў Бярозаўку на рынак, а пайшоў у Пудзіна. Шукаў партызан, там у атрадзе ў мяне быў знаёмы - Шура Балтуноў. Мяне ўзялі адразу. Далі вінтоўку і ўступіў у партызанскі атрад "Іскра". Некалькі тыдняў працаваў на кухні. Балтуноў - сталы вайсковец, вопытны камандзір аддзялення. Жылі мы ў лесе, у зямлянцы, нас было чалавек 15. Спалі на саломенных сянніках. Усе клаліся на бок адзін каля аднаго... Потым прымаў удзел у баявых дзеяннях. Двойчы з групай у пяць чалавек удзельнічаў у падрыве чыгуначнага састава. За Бярозаўкай на навагрnativeдскай шашы з групай партызан падарваў машыну з немцамі. Удзельнічаў у засадзе вясной 1944 г., у баі з белапалякамі каля вёскі Васілевічы, здабыў сабе пісталет. Хадзіў на падрыў чыгуначнага палатна. Удзельнік бою пад Альхоўкай: у ляску сядзелі ў засадзе, пастралялі акупантаў, узялі некалькіх палонных. У нашым звязе жанчын не было. Дзямідава сядзела на хутары - таксама партызанка. На хутарах былі нашыя сялянскія памочнікі. Будучы ў партызанах, зрэдку прыходзіў да бацькоў. Сустракаліся, пагаварылі, павячэралі, пабылі і праз 1-2*

*гадзіны і сышлі.*

*У ліпені 44-га года ішло вызваленне Беларусі. Партызаны ішлі ад Дакудава на Мінойты. Сустрэліся з чырвонаармейцамі на ўваходзе ў горад. Трапілі на вакзал, там стаялі эшалоны. Ліда была разбіта. Спыніліся ў доме, дзе зараз жыве Папова. Там начавалі, хлопцы бегалі на піўзавод. Бочкі не адкрывалі, стрэляць у бочку і падстаўляюць тару. Быў у знішчальным атрадзе. Стаялі за Нёманам, бралі ў палон адступаючых гітлераўцаў. Мне прапаноўвалі працу ў гарадскім камітэце, але паклікаў Лідскі ваенкамат і быў прызваны ў армію. Павезлі ў Баранавічы - скончыў там курсы камандзіраў артылерыі. Баявы шлях прайшоў у якасці камандзіра гарматы да ракі Одэр. Пры фарсіраванні ракі быў паранены 17 красавіка. 14 месяцаў праляжаў у шпіталі. У Ліду з арміі вярнуўся ў 1946 годзе, дабіраўся на мыліцах. Па вяртанні ў Ліду скончыў педвучэльню, потым Менскі педінстытут гістарычны факультэт. "Выдатнік народнай адукацыі", "Заслужаны работнік культуры БССР", інвалід вайны. Узнагароды: 2 ордэны "Чырвонай Зоркі", ордэн "Айчыннай вайны" 1-й ступені, медаль "За адвагу", Ганаровая грамата МП СССР".*

**Мікалай Уладзіміравіч Бельскі**, нарадзіўся ў вёсцы Стокі Ганчарскай гміны. Прачытаў у "Лідскім летапісцы" аб партызанскім атрадзе імя Варашылава, і запісаў свае ўспаміны:

*"Так, у кастрычніку 1942 года адзін з партызан-варашылаўцаў прыйшоў у Стокі. Хтосьці падказаў, што ў нас ёсць радыёпрымач, патрабаваў яго, але маці сказала, што ніякага прымача ў нас няма. Абышлося...*

*Аднойчы адзін з чырвоных партызан (маці казала, што гэта не паляк, дрэнна размаўляў па-польску, і верагодна, быў чэх Вацлаў Найгебаўер) прыйшоў да Бельскіх ў вёску Стокі па ровар. Бацька яшчэ да вайны купіў або дзесьці вымяняў ровар. Баяўся, што яго могуць адабраць, разабраў яго па частках і схаваў у скрыні пад збожжам. Пра гэта ведаў пастух з Чапліч, які даглядаў жывёлу. Верагодна, дзесьці прагаварыўся хлапец. І тады ў хату прыйшоў гэты чэх і паставіў усіх да сценкі і пачаў патрабаваць ровар. Ніхто не прызнаваўся, але калі пастушку ўмазаў, ён прызнаўся. Прыйшлося дастаць запчасткі і сабраць ровар....*

*У партызанскіх зонах чырвоныя і белыя партызаны даводзілі насельніцтва да галечы, забіраючы падчас апошнюю жыўнасць, і харчы, і адзенне. Так было і ў сям'і Бельскіх, партызаны забралі вялікую свінню, гаспадарам прышлося і не супраціўляцца, атрымалася, што амаль мірна яе аддалі партызанам.*

*Акаўцы сілай прымушалі насельніцтва ўступаць ў іх шэрагі. Вымусілі ўступіць у шэрагі АК жыхара Стокаў Жамойдзіка Уладзіміра. Яго пасля вайны судзілі, сядзеў у Баранавічах, дзе і памёр. Акаўцы трымалі насельніцтва ў страху. Быў такі выпадак. Падчас вайны стрыечная сястра Бельскай пайшла на пахаванне свайго бацькі ў вёску Скаменны Бор,што пад Дакудавам. Калі вярталася пасля пахавання,*



*акаўцы яе забілі стрэлам у спіну.*

*Акаўцы любілі падчас праваслаўных святаў пакуражыцца над мясцовым праваслаўным насельніцтвам. У вёсцы Супраўшчына жыў наш сваяк. Перад Калядамі той памыўся, апрануў ніжнюю бялізну. У гэты час у хату ўварваліся акаўцы, без усякай падставы паставілі ўсіх да сцяны і нацэліліся страляць з вінтоўкі. Жонка гаспадара з размаху ўдарыла па руцэ акаўца - стрэл трапіў у лямпу. Святло знікла. Гаспадар сігануў у цемры ў акно. Па ім услед выцяў другі стрэл у выбітае акно. А пад акном стаяў другі акавец, у якога і трапіла куля акаўца з дому".*

**Говар Сцяпан Іосіфавіч 1888-1943.**

Нарадзіўся ў вёсцы Масявічы Лідскага павета ў сям'і селяніна-бедняка, у пошуках працы з'ехаў у Гомель. Там уступіў у партыю бальшавікоў, з'яўляўся камісарам адміністрацыйнай часткі шляхоў зносін. У пачатку красавіка 1919 г. пераведзены на службу ў Віленскі аддзел, затым накіраваны ў Ліду. Уваходзіў у 1920 г. у склад Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта Лідскага павета, узначальваў зямельны аддзел. Пасля ўз'яднання з БССР быў сакратаром Ганчарскага сельсавета. У вайну падтрымліваў сувязь з партызанамі. Забіты паліцэйскімі ў канцы снежня 1943 г. у сябе дома разам з пляменнікам Уладзімірам Міхайлавічам Говарам. Сын пляменніка, Дзям'ян Уладзіміравіч, пры разборцы саламянага даху старога дома знайшоў летам 1968 г. дакументы і перадаў ў музей.

**З успамінаў Наталлі Мікалаеўны Анашкевіч** - 1977 г.н.



*Н. М. Анашкевіч*

Бацькі Раік Мікалай Уладзіміравіч і Зося Паўлаўна пражываюць у вёсцы Дроздава. Наталля закончыла Ганчарскую сярэднюю школу са срэбным медалём. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Працуе настаўнікам рускай мовы і літаратуры СШ № 11 г. Ліды. Займаецца даследчай дзейнасцю па краязнаўстве.

Справай гонару для Наталлі Мікалаеўны стала

напісанне даследчай працы пра нялёгкае жыццё і цяжкі лёс родзічаў.

*“Чылек Аляксандр Іосіфавіч, нарадзіўся ў в. Скаменны Бор Лідскага павета ў 1896 годзе (у сям'і выхоўвалася трое дзяцей) прыйшоў у прымы ў вёску Барвічы і ажаніўся з Савонь Ганнай Іванаўнай -1895 г.н. (у іхняй сям'і выхоўвалася дзевяць дзяцей, яна была сёмым дзіцем).*



***БАРАВІЧЫ, фота да 1941 г. Хата Савонь Кастанціна Іванавіча. На падворку - гаспадары. А на вуліцы каля плота: Зоня, Жэня, Лёдзя і праводзяць - бабуля, дзяўчынка з сабакам…***

*Добрасумленна займаліся гаспадаркай. Шчыра працавалі на зямельцы, расцілі сялянскую жыўнасць, збудавалі гумно, свіран і адрыну.*

*Аляксандр і Ганна нарадзілі і выхоўвалі траіх дзяцей: Віктара - 1920 г.н., Фёдара - 1922 г.н. і Ганну - 1924 г.н. Іхнія бацькі вельмі хацелі даць дзецям добрую адукацыю.*

*З 1931 па 1938 год дзеці наведвалі польскую школу ў вёсцы Ганчары, якая знаходзілася каля царквы. (Дарэчы, у тыя гады там вучыўся і наш знакаміты краязнавец Мікола Дзікевіч). У школу Анюта*



***Адзіная фатакартка 1936 года. Ганна -12 гадоў, яе родныя браты Віктар -16 гадоў, Фёдар -14 гадоў.***

*хадзіла разам са старэйшымі братамі Віктарам і Фёдарам. Урокі пачыналіся ў дзевяць гадзін. Перад першым урокам усе вучні ўставалі і хорам чыталі малітву з пажаданнямі добрай вучобы.*

*Да настаўнікаў дзеці ветліва звярталіся са словамі "пан" і "пані". Усе ўрокі праводзіліся на польскай мове, а на беларускай мове размаўляць забаранялася.*

*З дзяцінства Анюта любіла вышываць. У 14 гадоў яна вышыла прыгожа і вытанчана абрус з цёмна-чырвонымі вішнямі., Гэты сямейны рарытэт захаваўся да гэтага часу. На працягу ўсяго жыцця Ганна Аляксандраўна беражліва захоўвала абрус, на стол яго засцілалі толькі па вялікіх святах.*

*У Ані за 7 класаў было толькі "выдатна", яна марыла стаць настаўніцай.*

*Самым яркім успамінам са школьнага жыцця стала для Ганны Аляксандраўны экскурсія ў Вільню. Гэта было 21-24 траўня 1938 года. Да Вільні ехалі цягніком, там вучні наведалі цырк, банк, замкавую гару, касцёлы, цэрквы, зрабілі пешаходную экскурсію па горадзе. А калі дайшлі да Кальварыі і дзеці вельмі стаміліся, то настаў-*



***Ганна Іванаўна Савонь (трэцяя ад жаніха) на вяселлі мясцовага памешчыка Качаноўскага ў фальварку Саламянка ( быў за паўвярсты ад Баравіч)***



**Экскурсія ў Вільню**

*нікі вырашылі далей плыць на параходзе.*

*І вось калі параход даў гудок, то ўсе дзеці спалохаліся і закрычалі. А настаўнікі пачалі ўсіх супакойваць і назвалі "дзікімі". Але для вясковых хлопчыкаў і дзяўчынак гэта было ўпершыню: яны не толькі ўбачылі параход, але і пачулі яго гудок. Потым усім было сорамна за гэта.*

*У 1939 годзе, ужо пры "першых саветах" разам з братам Фёдарам Ганна паступае вучыцца на педагагічныя курсы ў горад Ліду. Яе бацькі вельмі хацелі, каб дачка стала настаўніцай пачатковых класаў. Падчас вучобы ў Лідзе яны жылі з братам на кватэры ў сваякоў".*



**Ганна Аляксандраўна на здымку першая знізу. Здымак 1940 г.**

**Вялікая Айчынная вайна змяніла ўсе планы сям'і Чылекаў і разбурыла мары.**

22 чэрвеня 1941 года, калі пачалася вайна і немцы бамбілі Ліду, Ганна і Федзя Чылекі былі ў горадзе. З першымі выбухамі раніцай яны выбеглі на вуліцу і з усіх сіл стараліся хутчэй дабегчы да лесу. Потым на працягу дня яны дабіраліся дадому ў вёску Баравічы, што ў бок Слоніма, ад Ліды два дзесяткі вёрст.

У першыя дні вайны горад падвергнуўся нямецкаму авіяналёту, і вялікая частка горада згарэла, а таксама і хата сваякоў, дзе яны жылі, з усімі пажыткамі і дакументамі аб адукацыі.

Калі немцы акупавалі Лідчыну, Ганне было ўжо 17 гадоў. У гады вайны яна жыла ў вёсцы з бацькамі і старэйшым братам Віктарам - 21 год, а Фёдар, было яму19 гадоў, застаўся ў горадзе і ўваходзіў у лік лідскай падпольнай арганізацыі.

З першых жа дзён вайны сям'я Чылек пачала дапамагаць партызанам. Для таго, каб дастаўляць апаратыўныя звесткі, па просьбе кіраўнікоў партызанскага атрада Чылек Аляксандр Іосіфавіч згадзіўся служыць старастам вёскі Баравічы. А Ганна стала сувязной партызанскага атрада імя Варашылава, камандзірам якога быў Пётр Кузьміч Макараў, які ажаніўся з Марыяй, дачкой Говараў Уладзіміра і Надзі - роднай сястры Ганны Аляксандраўны. Дарэчы сын Макаравых і цяпер жыве ў Дроздаве

Бацька Аляксандр Іосіфавіч часта па абавязку службы ездзіў у Ліду, Беліцу, Сялец, збіраў неабходную інфармацыю, а Аня павінна была перадаць яе партызанам, адправіўшыся ў лес на ўмоўнае месца.

*"Перада мной не стаяў выбар: быць ці не быць сувязной,* - успамінала Ганна Аляксандраўна. - *Гэта быў мой грамадзянскі абавязак. А як інакш? Наш дом стаіць першым у вёсцы, адсюль добра праглядаецца дарога. Да таго ж, мы з Макаравымі былі сваякамі, каму, як не нам, яны маглі давяраць?! І каму, як не нам, дапамагаць ім у барацьбе з фашысцкімі акупантамі?"*

З успамінаў унучкі Наталлі Мікалаеўны: *"Як распавядала сама бабуля Аня, яны пяклі хлеб, рыхтавалі іншыя прадукты, шылі адзенне, па ўсё гэта партызаны прыходзілі ноччу. Дом, дзе жыла сям'я, знаходзіўся на ўскрайку вёскі - гэта было зручна для партызан".*

**Бельскія са Стокаў** - далёкія сваякі Чылекаў з Баравіч расказалі, як Федзя сышоў у партызаны- падпольшчыкі са згоды роднага дзядзькі Савоня Віктара. Разам з іншымі іскраўцамі праводзіў разведку ў Лідзе, распаўсюджваў лістоўкі, удзельнічаў у раз-громе дакудаўскіх паліцаяў. Федзю арыштавалі ў Лідзе. На рагу цяперашніх вуліц Перамогі і Міцкевіча вісела табло, на якім немцы адзначалі лінію фронту. Федзя падышоў, стаў і разглядаў карту фронту. А гэта было якраз восенню 1942 года, тады, калі немцаў адкінулі. У гэты час немцы яго і схапілі, арыштавалі за ўдзел у падпольнай арганізацыі і закрылі ў лідскую турму.

Усё жыццё Ганна Аляксандраўна захоўвала і нікому не паказвала дзве запіскі, якія выпадкова знайшла яе ўнучка Наталля, і сёння ў ліку сямейных дакументаў захоўвае ў сябе.

Адна запіска адрасавана бацьку, а другая - непасрэдна сястры Ганне.

Гэтыя лісты напісаны ў турме Фёдарам на нейкай гаспадарчай паперы хімічным алоўкам, усё ж такі змест іх часткова можна прачытаць.

*"Анютачка!*

*Усяго нічога, усяго што Вы зрабілі вялікую памылку… Я не знаю, чаму я прышоў да дому не 29-ага ліпеня, а 28-га чэрвеня позна вечарам і спаў у гумне, а 29-га рана прышоў у хату. Я нязнаю, ці Ты ў пісьме памылілася, ці ў паданні…Калі ў паданні, то прашу чым найхутчэй справіць. Бо выходзіць, што я прышоў з банды і адразу жэ ехаў на курсы… А я жэ касіў…на возі перад хатай. Міне пака не зачапаюць… Але я сёння сніў два сны. Адзін: выбіраўся жаць сэрадэру, запрог кабылу, схадзілася такая страшная навальніца, маланка паліла, і сыпаў град, аж сцены і зямля трaслася… Я быў задаволены - не ўспеў выяхаць… Другі: гэта з угоддзяў Бандароў… плыў некі вялікі … па Нёману, добра руляваў….*

*Пішыце. Сушыце сухары,бо хлеб прэндка есцца па скораму*

*Бывайце! Пятніца .Федзя.*



Другі лісток:

*"Мілы Папачка! За ўсё гэта і разам за… моцна благадару… Як прачытаў пісьмо, то яно мяне звакавала што… Няхай яшчэ напішуць петыцыю бацюшкі ганчарскі і бяліцкі найскарэй …* (Многа не прачытана)….



Трэці ліст:

*"…Я прасіў, каб напісалі… спраўку, што як стралялі паліцаяў у Дакудаве. Я стаяў ззаду. Каб гэта падпісалі с…людзей з Дакудава і каб солтыс зацвердзіў… Гэту спраўку з подпісамі Вы перадайце Антону, то ён гэта зробіць… Бо тады стаяла многа людзей і гэта відзелі… Удома я быў ужо 28 чэрвеня вечарам… Я тут малюся Госпаду Богу, і маліцеся, то можа Бог дасць выпусціцца. Спасіба за перадачы.*

*Федзя 29 .10. 42 г. Зіне, бабцы і ўсім…".*



***Усе лісты напісаны на добрай беларускай мове. Трапляюцца польскія і рускія словы***

Ва ўсіх запісках Фёдар звяртаўся да бацькі, каб той, у сваю чаргу, папрасіў бацюшку Ганчарскай царквы дапамагчы яму выбрацца з нямецкай турмы. На жаль, айцец Мікалай тады не паспеў. Усе вяскоўцы шчыра цанілі Усціновіча, бо менавіта веданне нямецкай мовы і сацыяльны статус святара спрыялі таму, што ён змог выратаваць многіх людзей. У тым ліку, і партызаны змаглі пазбегнуць смерці, знаходзячыся пад арыштам у немцаў.

Па звестках супрацоўніцы ЛГММ А.А. Каладзяжнай, 10 кастрычніка 1942 года Фёдар Чылек быў павешаны на рынычнай плошчы горада, і пахаваны ён ў агульнай магіле мікраёна па вул. Рыбіноўскага.

А вось паводле запіскі Федзя ў гэты час яшчэ



быў жывы і паставіў дату - 29.10.42 г.

**Германовіч Вольга Кандратаўна:** *“Такое здарылася з маім дваюрадным братам Філіпам Гаўрылавічам Гуком. За "польскім часам" жыў у нас, вучыўся ў школе, стаў добрым цесляром. Ажаніўся з дзяўчынай з Сабакінцаў (Першамайск), меў дваіх дзяцей. Пры першых саветах стаў старшынём аднаго з калгасаў у Васілішкаўскім раёне. З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны зноў з сям'ёй вярнуўся ў Ганчары, тут нарадзілася трэцяе дзіця. Адчуваў, што не дадуць яму спакою гітлераўцы, хаваўся. Але хтосці з нядбайных вяскоўцаў, ведаючы аб актыўнай даваеннай жыццёвай пазіцыі Піліпа Гаўрылавіча, данёс на актывіста немцам. Філіп быў арыштаваны, сядзеў у турме разам з 9-ю ксяндзамі і разам з імі быў расстраляны ў сакавіку 1943 года. Яго жонка, дзякуючы дапамозе сваякоў, выгадавала траіх дзяцей, дала ім адукацыю, дзеці знайшлі сваё месца ў жыцці”.*

З успамінаў **Марыі Уладзіміраўны Макаравай** - жонкі камандзіра партызанскага атрада імя Варашылава: *"Акаўцамі" быў схоплены і выдадзены немцам, а затым змешчаны ў лідскую турму мой стрыечны брат, партызан Фёдар Аляксандравіч Чылек. Тады бацька і маці Федзі прыехалі ў Ліду вызваляць Фёдара, але і іх арыштавалі. Потым да яго бацькоў дайшлі звесткі аб жорсткіх катаваннях Фёдара, настолькі жорсткіх, што ён не змог іх вытрымаць і звар’яцеў. Бацькі Фёдара нават ведалі месца яго пахавання - лес на поўнач ад горада Ліды.*

*Але акаўцам адной смерці ў сям'і Чылек аказалася недастаткова. З падачы гітлераўцаў за сувязь з савецкімі партызанамі ўзброеныя "акаўцы" прыйшлі ноччу 20 лістапада 1943 года ў вёску Баравічы і расправіліся з сям'ёй майго дзядзькі. [...] Але галоўную сваю ахвяру - сувязную партызанскага атрада імя Варашылава Ганну - куля не дастала. [...] Узброеныя бандыты праз выбітыя вокны некалькі разоў стрэлілі ў памяшканне хаты, але іх стрэлы не закранулі перапалоханую Аню. Яна схавалася пад печ. Гэта заўважыў акавец і крыкнуў другому: "Страляй пад печ!". Але той, які страляў, злітаваўся, стрэліў вышэй печы. Так Аня засталася ў жывых”.*

**З успамінаў Ганны Аляксандраўны:** *"За дапамогу партызанам легіянеры Арміі Краёвай забілі ўсю сям'ю. Гэта адбылося ноччу 20 лістапада 1943 года. Спачатку вывелі на двор бацьку Аляксандра Іосіфавіч, і брата Віцю. Расстралялі. Мама, Ганна Іванаўна, выглянула ў акно, закрычаўшы акаўцам нешта ўслед. Там жа каля акна разрыўная куля трапіла і ў яе. Перад смерцю яна паспела сказаць: "У мяне вырвалі сэрца"...*



***Фотаздымак 3х4 - адзінае, што засталося ў Ганны Раік ад маці.***

*"Мяне мама паспела схаваць пад печ, і таму акаўцы не знайшлі мяне. Калі ўсё супакоілася, я*





***22.11.1943 год, в. Баравічы Лідскага раёна. Дзень пахавання сям'і Чылекаў- Аляксандра Іосіфавіча, Ганны Іванаўны, Віктара, забітых 20.11.1943 г. партызанамі Арміі Краёвай***

*вылезла са сваёй хованкі і ўбачыла сляды зверства белапольскіх бандытаў. Ляжалі забітымі родненькія бацька, маці, брат. Мне прыйшлося самой прыбіраць целы сваіх родных і хаваць...".*

Звесткі аб загінуўшай сям'і Чылек з вёскі Баравічы Ганчарскага сельсавета ёсць у кнізе "Памяць. Ліда і Лідскі раён" [с. 330].

*"Доўгі час я не магла начаваць у хаце - баялася, што акаўцы вернуцца і па мяне. Начавала за вёскай на "пялеках" (так называлася месца каля вёскі Баравічы, дзе людзі зімою захоўвалі бульбу). Начавала разам са сваёй дваюраднай сястой Зоняй, дачкой роднага дзяцькі Костуся Саваня. Пазней дзяцька Костусь схадзіў да нашага суседа-католіка Качаноўскага з Саламянкі, які меў сувязь з польскімі партызанамі. Качаноўскі паабяцаў, што папросіць ў акаўцаў, каб тыя, у сваю чаргу, пакінулі мяне ў спакоі. Так усё і заціхла".*

...Вайна скончылася, пакінуўшы Ганну Аляксандраўну зусім адну. Каб увекавечыць памяць родных, жанчына адразу пасля вайны прадала карову, і на выручаныя грошы паставіла на вясковых могілках вялікі агульны помнік. Помнік не раз людзі хацелі ўкрасці, аб чым сведчаць абламаныя і абабітыя вуглы яго і трагічныя смерці людзей прычасных да гэтага. Толькі напрыканцы гадоў Ганны Аляксандраўны адзін аднавясковец выпадкова прагаварыўся і расказаў, хто ж былі тыя рабаўнікі.

Пасля вайны, застаўшыся адной, без падтрымкі, Ганна займалася гаспадаркай і сям'ёй. Родны дзядзька Ганны - Савонь Віктар Іванавіч (па лініі мамы Ганны Іванаўны) пасля вайны быў дырэктарам школы ў в. Сялец Лідскага раёна. Ганна Аляксандраўна часта ездзіла да яго ў госці, каб адчуць усю школьную атмасферу.

2 красавіка 1947 года Ганна Аляксандраўна выйшла замуж за Уладзіміра Міхайлавіча Раіка. Вянчанне прайшло ў царкве вёскі Беліца з абразом Найсвяцейшай Багародзіцы

Ганна Аляксандраўна беражліва захоўвала абраз ўсё жыццё, таму што ён быў тым адзіным, што засталося ў яе як памяць пра маці і бацьку. Менавіта гэтым абразом дабраслаўлялі і яе бацькоў у дзень вяселля. Сёння яму больш за 100 гадоў.



**_Уладзімір і Ганна Раік_**



Раік Уладзімір Міхайлавіч нарадзіўся ў вёсцы Жучкі. У сям'і было яшчэ два браты: Ваня і Лёня. Хлопцы сябравалі і рупліва працавалі на гаспадарцы, атрымалі на той час нядрэнную адукацыю. Уладзімір прымаў удзел у Вялікай Айчыннай вайне з чэрвеня 1941 па люты 1942 года на фінскім фронце, затым да канца вайны займаўся нарыхтоўкай прадуктаў харчавання для фронту. Для сям'і Раік так і засталося адкрытым пытанне: чаму ж дзядуля, удзельнік баявых дзеянняў, не быў уганараваны званнем ветэран Вялікай Айчыннай вайны, а ён пражыў да 1989 года.



**_Уладзімір Міхайлавіч Раік_**

Сям'я Раік засталася жыць у вёсцы Баравічы. Разам яны пражылі 42 гады. У сям'і нарадзілася пяцёра дзяцей.



**_Ад імя Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 25.07.1960 года Ганна Аляксандраўна ўзнагароджана медалём "Медаль мацярынства" II ступені._**

**_1 верасня 1965 года Прэзідыумам Вярхоўнага Савета СССР Ганна Аляксандраўна Раік узнагароджана медалём "За баявыя заслугі"_**




***Узнагароды Ганны Раік***

Памерла Ганна Аляксандраўна Раік 21 сакавіка 2016 года…

**Юзаф Цехановіч** быў пакараны чырвонымі партызанамі за тое, што ён выдаў свайго парабка Царэвіча акаўцам, і быў расстраляны…






***Магіла Юзафа Цехановіча***



***Могілкі каля Ганчарскай царквы.***

***Макарэвічы. Тут спачываюць забітыя дзяўчаты: Лідзія, 20 гадоў, Валянціна, 16 - дочкі Язэпа і Анастасіі і жонка Уладзіміра - маці траіх малютак - Яніна, 26 гадоў. Загінулі 10.02.1944 года.***

***Макарэвічаў Мікалая Адамавіча,1921г.н., Аляксандра Осіпавіча,1926 г.н. забілі 26.02.1945 года акаўцы***

У Даржах 14.02.1944 года нямецкія фашысты расстралялі ўсю сям'ю партызана **Кухарскага Сашы**: Маці - Вольга,1890 г.н.,сёстры: Марыя,1924 г.н., Зіна, 1914 г.н.



***Магіла Кухарскіх***




Облаками уносятся вёсны,
Чередою уходят года,
Все равно нас погибшие просят
Чтить их память и помнить всегда.

Вы нас слышите, все здесь погибшие,
Помним вас и пришли на поклон.
У обелиска стоим мы, поникшие,
Где вы спите давно вечным сном.

Ваши муки и боль сердцем чувствуем,
Видим страх матерей и детей.
Слышим: им вы даете напутствие
Не смотреть на фашистов-зверей.

Стоим мы сегодня вот здесь, перед вами,
Мы ведь не забыли, что было тогда.
Клянемся, что будете вечно вы с нами,
И память о Вас будет всегда.



***Помнік героям і ахвярам вайны ў Ганчарах***

***Альжбета Табенская***

# З долі і няволі

## *Успаміны выгнанкі**

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

**II**

У 1847 годзе я з цёткай Нарбутовай (Нарбут), роднай сястрой маёй маці, выехала ў пансіянат у Вільню. Маці, занятая домам і дзецьмі, не магла ад іх ад'ехаць, даручыла мяне цётцы, якая ехала ў той бок. Падарожнічала з намі пані Гелена Замятынаўна, старая панна, касавокая і нягжэчная. Па дарозе заехалі да брата мужа цёткі Нарбутовай, і ў яго маёнтку Ракунцах затрымаліся на ноч. Змучаная падарожжам з болем галавы з радасцю прытулілася да падушкі, а смачна праспаўшы цэлую ноч, была гатова назаўтра да далейшага падарожжа. Пасля абеду мы вырушылі з Ракунцаў - на від Вільні сэрца маё дрыжала з радасці; не памятаю, дзе мы з цёткай затрымаліся, досыць, што цётка пераапранулася, і мы адразу падаліся да Германаў. Пан Герман выслухаў аповед цёткі пра незаможнасць маіх бацькоў і згадзіўся прыняць мяне з аплатай 1000 злотых (150 рас. рублёў), уключыўшы ў гэта і музыку. Была прынятая ў тую ж хвілю, трэба было яшчэ справіць мундзірчык, які цётка абавязалася выстарацца. Пан Герман паслаў па адну са сваіх вучаніц, просячы даць узор матэрыялу на сукенку. Панна Гундзісоўна з выгляду сімпатычная і гжэчная паненка, любімая вучаніца пана Германа, распавяла, дзе купіць матэрыял, па чым і каму даць пашыць. Потым, гжэчна пакланіўшыся, адышла. Пан Герман запытаў мяне, чаму я вучылася і да якога класа падрыхтаваная - адказала, што да трэцяга; адвёў мяне адразу ў той клас і прадставіў некальмкім паненкам як новую каляжанку. Быў гэта пачатак школьнага года, вучаніцы яшчэ не паз'язджаліся, і ўрокі не пачаліся, таму мела трохі часу, каб разгледзецца ў маім новым становішчы. Паміж паненкамі, якіх ужо застала, была Антаніна Слепсіноўна, вучаніца чацвёртага класа, вельмі вясёлая і мілая паненка, якая пачала мной апекавацца. На другі дзень я пайшла з цёткай да краўца, потым, адведзеная ў пансіянат, развіталася з цёткай, папрасіла, каб падзякавала яшчэ раз маім бацькам за спаўненне маіх мараў і каб ім сказала, што я шчаслівая.

На трэці дзень пасля майго прыбыцця ў пансіянат пачаліся ўрокі. Класы што раз больш напаўняліся, а наш быў найбольш шматлікі. Прадметы ніякай цяжкасці мне не ўяўлялі, перажывала толькі над тым, што цяпер мне няма чаму вучыцца, а на наступны год ужо вярнуцца сюды, напэўна, не змагу. Слепсіноўна, даведаўшыся пра гэта, абяцала мне дапамагчы і парадзіла прасіць пана Германа пра перавод мяне ў чацвёрты клас. Вечарам мы падышлі пад дзверы кабінета пана Германа - адвагі мне не хапала, каб туды ўвайсці, стаю, жагнаюся, але ні кроку не раблю.

- Ідзі, ідзі хутчэй, - гукае таварышка.

- Зараз, зараз, баюся.

- Не бойся, - сказала і моцна папхнула мяне ў дзверы. Не агледзелася, як аказалася перад панам Германам, здзіўленым такім маім уваходам. Расказала яму пра маё жаданне закончыць адукацыю, што, напэўна, на другі год з-за недахопу фундушу вярнуцца не змагу, што мне вучоба ў трэцім класе ідзе за лёгка, і я пачуваюся ў сілах да вучобы ў чацвёртым класе, што толькі бяда з нямецкай, якой я не вучыла. Пан Герман дадаў мне ўпэўненасці, заахвоціў да працы.

- Рабем, што можам, - сказаў, - аддаючы будучыню ў рукі Бога.

З вялікім запалам узялася я за навуку; мы мелі ў той час 10 настаўнікаў, а з іх усіх найвысакароднейшым, найшляхетнейшым, найідэальнейшым чалавекам падаўся мне выкладчык усеагульнай гісторыі і польскай літаратуры пан Аляксандр Здановіч. Ад першага ўрока я была захоплена яго да нас прамовай і бацькоўскім прывітаннем.

- Я маю намер даць паням спазнаць важнасць і вялікасць значэння жанчыны ў грамадстве, яе місію; буду вам гаварыць пра прызванне і абавязак настаўніц, пра цяжкую барацьбу з перашкодамі ў выхаванні дзяцей, вам davераных, пра працу над уласным удасканаленнем у навуцы, пра пастаянны канроль над сабой. Кожная з вас няхай уважае сябе сама за істоту, даверанyю вам Богам, пра якую вы павінны клапаціцца, удасканальваць і дарогай цноты весці да вечнага жыцця. Ваш прыклад павінен ім заўсёды свяціць, вучачы іх любові да Бога, Бацькаўшчыны і бліжняга. У сэрцы іхнія засявайце зерне цнот, а навукай удасканальвайце і ўзбагачайце мысленне - шануйце пры тым заўсёды здароўе, час і зароблены грош.

Заплакаў, закончыўшы сваю прамову, і з усяго класа адазваліся галасы падзякі і ацэнкі яго добрых жаданняў і абяцанні, што словы яго захаваем заўсёды ў сэрцы і памяці. Які быў пачатак, такі быў і кожны ўрок А. Здановіча; прыносілі яны карысць для нашых сэрцаў і думак. Я вучылася заўзята, мела па ўсіх прад-

* Пераклад з польскай мовы Станіслава Судніка. Паводле "З долі і няволі. Успаміны выгнанкі". Кракаў, 1897.

метах годныя балы апрача нямецкай, якая прыносіла мне ў дар тройкі. З дапамогай добрых каляжанак і гэта ішло неяк так, магла гэтай мове прысвяціць больш часу і працы, бо іншыя прадметы ўспрымала з лёгкасцю. Аднак часта галаўныя болі абцяжарвалі вучобу і кепска адбіваліся на маім здароўі. Патрыятызм у нашым пансіянаце быў моцна развіты; сам с.п. Ян Герман, хаця і гаварыў ломанай пальшчызнай, быў усёй душой палякам, займаўся нашымі палітычнымі справамі, а калі даведваўся нешта новае і важнае, дзяліўся тымі весткамі з вучаніцамі IV класа. Дачка яго Аўрэлія, надзвычай таленавітая, энтузіястка, пры тым патрыётка ў найвышэйшай ступені, была атачана людзьмі мастацтва і моладдзю, пранікнутая святым запалам любові да Маці-Айчыны, запал той удзяляўся і вучаніцам, развіваў іхнюю думку і ўдасканальваў сэрцы. Адна з вучаніц Анеля Бакшанская, пісала дзённік, у якім выказвала думкі і пачуцці свае і атрыманыя ўражанні ад таго, што чула з вуснаў пані Аўрэліі і ксендза Васыньскага.

Быў гэта 1848 год. У папярэдні год выехала тая вучаніца на канікулы да сваіх бацькоў, сельскіх жыхароў. Быў таксама і яе брат, які закончыў вучобу ў Віленскай гімназіі. Падчас канікулаў прыехала паліцыя для правядзенняператрусу, арыштавалі яе брата, забралі яго паперы, паміж якімі аказаўся і той дзённік. У выніку гэтага захісталася існаванне нашага пансіяната: справа цягнулася доўга, адбывалася ўсё больш арыштаў, і віленская цытадэль запоўнілася вязнямі, якімі былі пераважна вучні гімназій, бо Віленскі ўніверсітэт быў скасаваны ўжо ад 1825 года, а на яго месцы быў закладзены Дваранскі інстытут, у якім моладзь выхоўвалася дзяржаўнымі настаўнікамі, умела шулерстваваць і п'янстваваць, але не адчуваць і думаць як шляхетная моладзь Віленскага ўніверсітэта. Г. Васыньскага, слыннага прамоўцу і прапаведніка, выслалі ў Вятку; Галер, тагачасны дырэктар Віленскага інстытута, паехаў у той час, як казалі, за кошт Германа ў Пецярбург для апраўдання яго ад падазрэнняў і абвінавачванняў, але дзейнічаў, падобна, у супрацьлеглым кірунку. Так усхваляваны быў увесь наш пансіянат, аж тут прыходзіць шаноўны пан Герман і так да нас звяртаецца;

- Развітваюся з вамі, любімыя мае вучаніцы, загадана мне вас пакінуць, цар Мікалай бярэ вас пад апеку, я з вамі развітваюся, будзьце здаровыя, мае дзеці!

Як бы выцятыя перуном з енкам і плачам кінуліся мы цалаваць і пацiскаць рукі высакароднага старога - плач быў жудасны.

- Такая воля Бога, будзьце здаровыя, мае любімыя паненкі, - гукнуў яшчэ раз бедны стары і знік з нашых вачэй.

Прыйшла потым пані Аўрэлія, і падобная сцэна паўтарылася; кожны з настаўнікаў на апошнім уроку развітваўся з намі, бо не дапускалася, каб каторы з іх мог застацца надалей.

Ці ж трэба гаварыць, што з кожным развітваліся мы з жалем, а што ўжо казаць пра любімага намі прафесара Здановіча! Так раптам усё сталася, што мы не ведалі, што з сабой рабіць; большая частка маіх каляжанак выехала да бацькоў на свята, я, не могучы так хутка звязацца, засталася ў пансіянаце. Прыйшла пазней адна з настаўніц сказаць нам ад імя пана Германа, які захварэў, каб мы заставаліся на месцы, бо пансіянат будзе функцыянаваць, толькі пад іншым кіраўніцтвам. Я занялася перапісваннем польскай і французскай літаратуры, усеагульнай гісторыі, граматыкі польскай, французскай і нямецкай; не траціла ні хвілі часу, бо ў вольныя ад заняткаў хвіліны сядзела пры адной з хворых настаўніц, былой вучаніцы пана Германа. Аднаго дня перад святамі прыйшла да пана Германа нейкая пані з дырэктарам Гелерам, потым наведала памяшканні і дайшла да пакоя, дзе мы знаходзіліся з хворай. Убачыўшы нас, пачала выпытваць, хто мы, адкуль і г.д., і сказала да хворай:

- Будзь, пані, спакойнай, я пастараюся пра ўсё, што толькі будзе ў маёй магчымасці, будзе пані мець доктара, лякарствы і выгоды да выздараўлення.

Потым звярнуўшыся да мяне сказала:

- Будзьце, калі ласка, спакойныя! - і, прыняўшы нашыя падзякі, пайшла.

Была гэта пані Главацкая, прызначаная ўладамі начальніцай пансіяната. Бацька яе Шэраль эміграваў з Францыі ў Расію; жыў у Адэсе, дзе маладзенькая 13-гадовая яго дачка выйшла замуж за графа д'Густа, які займаўся спачатку яе адукацыяй, а потым адсунуў кніжкі і забаўкі і ўзяў за жонку. Пасля смерці мужа жыла ў Адэсе разам з дачкой графіняй д'Густ, потым выйшла замуж за аднаго з настаўнікаў гімназіі, Главацкага, і неўзабаве была прызначана начальніцай нашага пансіяната.

Па святах распачаліся ўрокі; той самы, што даўней, парадак, расклад урокаў і гадзін, тыя самыя выкладчыкі, нічога не змянілася; пані Главацкая набыла ад пана Германа ўсё, што было для набыцця: фартэпіяна, мэблю, мапы, глобусы, кніжкі і г.д. Пан Герман стараўся яшчэ добрым учынкам закончыць сваю працу над выхаваннем сваіх вучаніц. Паколькі пані Главацкая сказала, што пакіне небагатых вучаніц на такіх умовах, на якіх былі прынятыя панам Германам, шаноўны стары, памятаючы пра маю вялікую просьбу аб заканчэнні навук, падаў, што за мяне плачана 75 рас. руб. у год з музыкай, таму другія 75 руб. ужо за будучы год былі заплачаны.

Вучоба пайшла ў мяне добра, здала экзамен, магла атрымаць патэнт, але пані Главацкая, бачачы маю любоў да навукі, сказала прыбыўшай па мяне маці, што хацела б, каб я яшчэ на год на тых самых умовах засталася. Так і выйшла. З той жа пільнасцю вучылася, канешне, многа ўзяла і закончыла пансіянат з першай узнагародай, якая была ў той час упісаннем на чырвонай табліцы залатымі літарамі імені і прозвішча вучаніцы, а таксама прыгожа апраўленая кніжка.

Як пасля скасавання Віленскага ўніверсітэта ўлады ўстанавілі Дваранскі інстытут, так пасля скасавання першаразраднага пансіяната Германаў утвораны ўладамі жаночы пансіянат насіў назву "Пансіянат для паненак шляхецкага паходжаня" і даваў першаразрадным вучаніцам права заснавання свайго пансіяната.

Пры заканчэнні экзаменаў мы прасілі любімага нашага настаўніка А. Здановіча, з якім са слязамі развітваліся, напісаць нам якую-небудзь сваю думку на памяць. Кожная з нас паслала аркушык паперы са

сваім прозвішчам, і мы атрымалі ў адказ агульны ліст да ўсіх, і на аркушыку кожная знайшла нейкую думку або параду з любімага прафесарам паэта Казіміра Брадзінскага. Я атрымала на памяць такі верш:

*"Рабі кожны ў сваім коле,*
*што кажа Дух Божы,*
*А цэласць сам Бог зложыць!"*

Гэта я ўзяла за дэвіз майго жыцця, пачынанняў маіх, і гэтую вось сціплую працу маю ў канцы жыцця з гэтай думкай раблю.

З жалем пакінула я пансіянат, начальніцу, настаўнікаў і каляжанак і вярнулася ў дом дарагіх маіх бацькоў. Неўзабаве адбыўся шлюб маёй сястры Амількі з Зыгмунтам Урублеўскім; некалькі чалавек з кола сваякоў было ў Рудаве на вяселлі; праз пару тыдняў пасля гэтага прыехаў да нас капітан Мікалай Глаголеў з Вільні, жанаты з Людмілай Доўгердаўнай (Доўгерд), нашай сваячкай па бацьку і прапанаваў, каб прыняла ў іх абавязкі настаўніцы і аплату 150 рас. руб. у год, на што я вельмі ахвотна згадзілася. Была гэта сям'я праваслаўная, бо ён быў расейцам, а яна, дачка кальвіністкі, пры шлюбе прыняла каталіцтва і ўсім сэрцам палюбіла гэтую веру. Вялікім болем для яе было, што дзеці мусілі выхоўвацца ў праваслаўі; залівалася слязамі, калі яны ішлі са мной або бацькам у царкву. Пані Глаголева была надзвычай добрай, лагоднай і цярплівай асобай, нажаль, заўсёды хворай; пры канцы першага года майго побыту ў іх раптоўна памерла ў дзень Зялёных святаў.

Прымаючы абавязкі настаўніцы ў Глаголевых, выгаварыла ў іх прыняць маю кузіну Зосю Руткоўскую, бо хацела выканаць абяцанне, дадзенае ў дзяцінстве яшчэ любімай цётцы Матыльдзе Руткоўскай, што калі стану настаўніцай, то дапамагу яе дачцэ з адукацыяй. Панства Глаголевых згадзілася на гэта, але што выцерпела бедная Зося ад дзяцей. Моцна ёй дакучалі, а я не ўмела даць сабе з імі рады і яе абараніць. Неапісальна цяжкай была для мяне тая першая мая настаўніцкая праца: хлопцаў я вучыла толькі французскай і нямецкай мовам, старэйшую дзяўчынку рыхтавала ў другі клас пансіяната, малодшую пачала вучыць самым пачаткам. З Зосяй займалася толькі ад 7.30 да 8.00 з раніцы і ад 10.00 да 10.30 вечарам. Раніцай задавала ёй урокі, вечарам выслухвала яе, а яна заўсёды ўмела ўсё без памылак. Хоць ва ўзросце была паміж намі досыць значная розніца, бо я была на 8 гадоў старэйшая за яе, Зося не раз раіла мне, як з жыццём уладзіцца, як з дзецьмі паступаць. Я была надзвычай нясмелая, няўпэўненая ў сабе, прызвычаеная з дзяцінства не мець сваёй волі, а прыстасоўвацца да іншых; уплывала на гэта і выхаванне дарагой маці, залежнае жыццё ўжо ў дзяцінсттве, характар з натуры нясмелы і нарэшце пранікнутасць парадамі пані Гофман, у кніжцы якой прачытала: *"Быць другой у супольнасці, не вышукваць новых шляхоў, а ісці ўжо ўбітым, выконваць волю іншага і да т.п. - вось гэта ёсць сэнсам паклікання жанчыны"*. Цяпер, калі ўсё залежала ад мяне, калі трэба было дзейнічаць самой без нічыёй парады, я не магла, не ўмела спраўляцца. Калі б усе дзеці роўна рухаліся ў вучобе і каб тая вучоба магла адбывацца па-польску, лягчэй мне было б. Тут, аднак, усё ішло на расейскай мове, і хоць яе я пільна вучыла і добры бал па ёй мела, калі мне давялося на ёй выкладаць, рота не адважвалася адкрыць. А 11 гадзіне перад абедам дзеці мелі паўгадзіны адпачынку; вось тады выйшаўшы з імі і седзячы на лавачцы на Замкавай гары, дзе мы жылі, і маючы перад сабой найпрыгажэйшы від Вільні і гуляўшых дзяцей, аддавалася думкам пра абавязкі настаўніцы, на чым яны грунтуюцца, спасцігала, што не на вывучэнні чужых моваў, спеваў або музыкі, не вучоба мае вышэйшае прызначэнне, што настаўніца не павінна атрымоўваць аплату за такое пробнае навучанне, а павінна працаваць бясплатна, даходзіла да найвышэйшай экзальтацыі і фантазій - не вызначала межаў абавязкаў настаўніцы так далёка, што лічыла за абавязак суправаджаць дзяцей у царкву, не смеючы хадзіць у касцёл, на малітву нават не мела часу! Добрая пані Глаголева аказвала мне вялікую прыхільнасць; пасля 8 вечара пасля заканчэння ўрокаў і гарбаты мы сядаліся з ёю ў салоне на размовы. Пан Глаголеў бываў звычайна на гарбаце ў свайго начальніка, з якім пазней прыходзіў дадому. Да 10 цягнуліся гэтыя пасядзелкі, ад удзелу ў якіх я не адважвалася адмовіцца. Пан Глаголеў меў звычай сядзець у тым жа салоніку раніцай ад 8 гадзін, калі я ў прылеглым пакоі, дзверы якога былі адчынены, пачынала ўрокі з дзецьмі. Можа пан Глаголеў не меў таго на думцы зусім, але мне здавалася, што слухае маё выкладанне, пачувалася прысаромленай, жудасна мяшалася і рабіла памылкі ў выказваннях па-расейску. Пасля чатырох месяцаў такога напружання пайшла раз у касцёл да споведзі ў час, калі пан Глаголеў з дзецьмі пайшоў у царкву, бо гэта было расейскае свята. Спавядаў мяне адзін з ксяндзоў пралатаў, здаецца, ксёндз Мяшкоўскі, моцна мной зацікавіўся і ўдзяліў святых парад. Даручыў мне ісці да доктара Абекта, прафесара былога ўніверсітэта, які ў раннія гадзіны даваў парады бясплатна. Д-р Абект выэкзаменаваў, даследаваў мяне старанна і прапісаў пігулкі, пасля прыёму якіх мяне пакінуў смутак, праца падалася мне лягчэйшай. Перад урачыстасцю Божага Нараджэння я напісала доўгі ліст да А. Здановіча, віншуючы яго са святамі і выказваючы маю ўдзячнасць яму за дабрачыннасць навукі, удзеленай нам, за ўклад у нас пачуцця абавязкаў жанчыны і настаўніцы - гаворачы, як пачуваюся няздольнай да такіх абавязкаў, як мала я заслугоўваю імя настаўніцы. Мне гаварылі, што высакародны гэты прафесар чытаў са слязамі мой ліст сваім вучаніцам у пансіянаце пані Андрэйкавічавай.

Перад Зялёнымі Святамі прыехала сястра пані Глаголевай пані Ірэна Седлікоўская; зрабіла нам сваім прыездам вялікую прыемнасць.

Забылася сказаць, што два месяцы назад павялічылася сям'я Глаголевых, прыйшла на свет дачушка. З-за той слабасці пані Глаголевай, выказвала яна мне некалькі разоў апасенне за сваё жыццё, абавязваючы мяне, каб у выпадку яе смерці не пакінула сірот, а была іхняй апякункай. Я не дапускала думкі, каб у тым хутка наступіла патрэба, і для заспакаення хворай дала жаданае слова. А цяпер вяртаюся да свят. Першы іх дзень мы правялі вельмі прыемна, пад вечар я пайшла з дзецьмі на шпацыр у Батанічны сад, маці сама іх прыбірала, пасля вяртання мы весела размаўлялі пра

супольных знаёмых у родных краях, потым а гадзіне 11-й мы пайшлі на спачын, а а 4-й раніцы ўскаквае да мяне мамка, гаворачы:

- Пані памерла!

Уражаная, я апранулася, чым найхутчэй і пабегла ў пакой пані Глаголевай. Убачыла яе сціскаўшай нагу малога дзіцяткі ў стаяўшай каля ложка калысцы! Апранулі нябожчыцу; я, даручыўшы дзяцей іхняй цётцы Седлікоўскай; пайшла да пані Главацкай, у якой мела быць настаўніцай у пансіянаце ад канікулаў, распавяла ёй пра здарыўшаеся няшчасце, а таксама, што мушу застацца пры асірацелых дзецях. Адказала мне пані Главацкая, каб я адразу той дом пакінула, што і на суткі ў ім застацца не павінна, бо не прыстала б мне паводле грамадскай думкі заставацца ў маладога чалавека. Я гэтага не разумела:

- Як гэта я маю пакінуць сіротаў, калі паміраўшай маці дала слова, што пры іх застануся?! Гэтага зрабіць не магу, Пан Бог пакараў бы мяне за гэта. Пані ведае, як я прагну быць пад яе апекай, як мне прыкра не трымаць дадзенага ёй слова, але сірот пакінуць не магу, пакуль я ім патрэбная!

- Павінна, аднак, гэта зрабіць, ідзі да твайго спаведніка па параду, калі табе маёй не дастаткова, раскажы яму ўсё, як ёсць, і пераканаешся, што 24 гадзіны ў доме маладога расейца застацца табе не дазволіць.

Без адкладу сказала, што зраблю так і пайду да майго спаведніка, якім быў ксёндз місіянер Фелікс Рашкоўскі, вікарый у дамініканскім касцёле. Як вырашыла, так і зрабіла. Але ўжо падходзячы да касцёла пачала траціць адвагу, самыя розныя думкі праходзілі праз паю галаву: ксёндз Рашкоўскі мяне не ведае асабіста, падумае, што пані Главацкая лепей мяне можа ведаць, як былую сваю вучаніцу, што, відаць, палічыць мой характар за слабы для такога выпрабавання... То зноў: перш за ўсё ксёндз будзе мець літасць да сіротаў, - з майго боку было б гэта злачынствам!... З тымі думкамі ўвайшла ў закрыстыю, просячы закрыстыяна, каб далажыў ксендзу, што адна пані просіць яго на хвіліну з нагоды пільнага інтарэсу.

- А які інтарэс?

- Не магу сказаць, але важны, ідзі папрасі як найхутчэй.

- Ксёндз не мае часу, а як пані называецца?

- Ідзі, пан, як найхутчэй!

Пайшоў, а я пачала думаць, што маю сказаць ксендзу, адвага мяне ўжо пакінула. Уваходзіць ксёндз Рашкоўскі, пытаецца, хто я, чаго хачу? З цяжкасцю, з плачам выказваю, што сталася, што пані Главацкая прыслала мяне да ксендза па параду.

- Для мяне гэтая рэч вельмі цяжкая, - гаворыць ксёндз, - я не ведаю таго пана, пані сама павінна тое добра падумаць, тое толькі скажу, што недатрыманне слова, неразважна дадзенага, не ёсць грахом.

- А ці не ёсць грахом пакінуць няшчасных сірот без апекі?

- Не, пані, той пан знойдзе апякунку для дзяцей паміж расейцамі, раю пані, наколькі можна, скараціць яе побыт у таго пана Глаголева і ў любым выпадку прасіць, каб узяў якую добрую гаспадыню, бо пані сама ўсяго не падолее.

Развіталася з ксендзам, падзякавала за параду, але не магла надзівіцца, што ксёндз так мала клапоціцца пра сірот!

Адбылося пахаванне пані Глаголевай, пані Седлікоўская выехала. Пасля пахавання пан Глаголеў падаўся проста да пані Главацкай зрабіць ёй вымову за тое, што яна хоча прыняць удзел у павелічэнні яго нядолі, не дазваляючы, каб я засталася пры бедных сіратах; даў ёй слова гонару, што не дапусціць утраты мною добрай рэпутацыі і што пасля канікулаў папросіць яе прыняць старэйшую дачку ў пансіянат.

Так я засталася пры дзецях з найвышэйшага жадання, каб не даць ім адчуць сіроцтва: размясцілася на ложку памерлай, і хоць баялася і ў вачах мне не раз уставала нябожчыца, я вытрымала размяшчэнне пры асіроцелым маленстве, якое разам з мамкай спала пры мне. Я займалася ўсім: расчэсвала дзяўчатак, дапамагала ім апранацца, падавала снеданне і г.д., мардавалася без літасці над сабой, а тут дзеці капрызнічаць пачалі ва ўсім, асабліва ў ядзе, а малы Паўлуша закрычаў раз, калі пададзенае малако было не зусім добрае:

- Без мамы хоча нас атруціць!

Выходзіла з дзецьмі на шпацыр, а калі я, хочучы ім дагадзіць, спытала, куды б хацелі пайсці, у які бок, то кожнае з іх цягнула ў які-небудзь розны бок, а я млела ад такой іхняй нязгоды, не разумеючы, што сама была таму прычынай.

Маці мая, як толькі даведалася ад пані Седлікоўскай пра смерць Глаголевай, неспакойная за мяне адразу прыехала ў Вільню і цвёрда зажадала ад пана Глаголева, каб узяў для вядзення дома даўнюю яго знаёмую, а маю цётку Руткоўскую. Так і зрабілі. Пасля канікулаў, на якія я ўжо дадому не ездзіла, заняла я ў пансіянаце пані Глагоўскай пасаду старшай настаўніцы. Мая старэйшая вучаніца Ліза Глаголева была прынята ў пансіянат, у II клас, малодшая Маша наведвала, як прыходзіўшая, іншы пансіянат, а хлопцы Мікалай і Павел былі аддадзены ў корпус. Зося Руткоўская пайшла ў пансіянат да пані Радзівіловіч у III клас, а я з братам яе Юзафам пансіянат за яе аплачвалі. На другі год пані Радзівіловіч пакінула яе на тых умовах, што як стане настаўніцай, то ёй доўг заплаціць. І, канешне, пасля заканчэння пансіяната Зося атрымала месца ў Гародні на 180 рас. рублёў, дзе на другі год атрымоўвала ўжо 300 рублёў. Разважная, добра складзеная, вельмі здольная да музыкі, пры тым паненка з тактам і ўпэўненая ў сабе, яе ўсюды добра прымалі і любілі. Брат яе Юзаф, які пасля заканчэння гімназіі ў Гародні атрымаў нейкую пасаду ў Вільні, у 1863 годзе быў прысуджаны да цяжкіх работ і высланы на Байкал, дзе моцна нявінна пацярпеў за “забайкальскую справу”*. Пасля вяртання ў Край без здароўя і без грошай праз нейкі час атрымаў пасаду на чыгунцы ў Лібаве, дзе некалькі год працаваў пры маці і сястры. Пасля серці маці прыехаў з сястрой у Кракаў і дагэтуль тут жыве.

*(Працяг у наступным нумары.)*

* Забайкальская справа - паўстанне ссыльных 1863 года на будоўлі Калябайкальскай дарогі. *Заўв. перакл.*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*




У Менску ў выдавецтве “БелТА” выйшаў альбом “Гродненщина”, 254 ст., наклад 1000 ас.




У Менску ўвыдавецтве “Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі” выйшла энцыклапедыя  “Брэст 1000”, 456 ст. Наклад 2000 асобнікаў.




У Менску ў выдавецтве “Беларусь” выйшла кніга Аксаны Катовіч і Янкі Крука “Культура родавай памяці”. 408 ст. Наклад 1000 асобнікаў.




У Лідскай друкарні выйшла кніга “Нвашы вякі - наша багацце. Лепшыя практыкі менеджменту спадчыны. Зборнік матэрыялаў рэспубліканскай канферэнцыі (6 верасня 2019 года, Мінск)”. 304 ст. Наклад 125 ас.

У Менску ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” выйшлі 17 і 18 тамы “Збору твораў” Уладзіміра Караткевіча, т. 17 - 368 ст., наклад 1000 ас., т. 18 - 512 ст., наклад 1200 ас.






У сеціве з’явіўся 5 нумар электроннага краязнаўчага гістарычна-літаратурнага часопіса “Нясвіжскія каеты”, 72 ст.




*Помнік героям і ахвярам Вялікай Айчыннай вайны*
*ў Ганчарах Лідскага раёна*